ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

10 чэрвеня 1994 г. № 23 (3745) Кошт 150 руб.

## ДЫ ЯШЧЭ П'ЮЦЬ. БЕЗ ПРЫЧЫНЫ І МЕРЫ...

**«Круглы стол» «ЛіМа»**

**3, 14—15**

## ГОРАД МІЛОСЦІ

**Юрась ЗАЛОСКА: «Варта толькі перасягнуць мяжу здабытага абшару, нават не ляцець у Афрыку, а толькі пераехаць, прыкладам, у Польшчу, як ты зразумееш, што, кажучы штампам, тваім месцам пад небам жыццё не канчаецца, і што нават побач жывуць людзі інакш — і лепш; і што суседняя зямля як бы трохі і ласкавейшая, і вальнейшая для цябе».**

**5,12**

## ПАЧЫНАЎСЯ Ў НАС

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА: «Зачаравана слухаў Эйзенштэйн спевы беларускіх жанчын і дзяўчат, гутарыў з імі. Запамінаў прымаўкі, звароты і жарты. Непрыкметна навучыўся гаварыць па-беларуску. Вельмі падабаліся яму словы «лёс», «чуласць», «разлогі», «характво».**

**10—11**



*Дырыжыруе Ларыса ЖЫВАЛЕЎСКАЯ*



*Ала ШОМАН*

## СУМЛЕННАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ...

***Як вы думаеце: гэта — падзея?***

***Амаль праз паўвека музыканты адчулі свабоду выбару, зазірнулі ў гісторыю, глянулі наўкола, задумаліся і... І вырашылі аб'ядноўвацца ў сваіх творчых, педагагічных, асветніцкіх, арганізатарскіх, грамадзянскіх намаганнях. Але аб'ядноўвацца, крытычна пераасэнсоўваючы шматгадовы, ужо сталы вопыт сваіх папярэднікаў і сваіх сучаснікаў, і — што асабліва цяжка — свой уласны.***

***Асацыяцыя дамрыстаў і мандаліністаў, год таму створаная пры Саюзе музычных дзеячаў Беларусі, правяла нядаўна вельмі важную акцыю, пры ўдзеле кіраўніцтва СМД, Акадэміі музыкі, Беларускага інстытута праблем культуры і рэспубліканскай філармоніі. Гэта была Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па пытаннях адраджэння і развіцця мандаліннага выканальніцтва на Беларусі.***

*(Працяг натактаў з гэтай нагоды чытайце на стар. 13).*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*Валеры ЖЫВАЛЕЎСКІ*



*Цымбалістка Ларыса РЫДЛЕЎСКАЯ*

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Кандыдаты ў прэзідэнты распачалі барацьбу ў радыё- і тэлеэфіры. Спадар Дубко па савецкай традыцыі цягне дзяржаўную «коўдру» на вёску — маўляў, будзе хлеб — астатняе прыкладзецца. Кандыдат ад камуністаў Новікаў абяцае «вярнуць народу тое, што ў яго забралі» — Савецкі Саюз і кіруючую ролю КПСС. Барацьбіт з мафіяй Лукашэнка ўжо ведае, каго ён пасадзіць за краты, калі прыдбае прэзідэнцкае крэсла. Яшчэ ён збіраецца прапанаваць народу Беларусі на выбар, як у краме, некалькі варыянтаў дзяржаўнай сімволікі і правесці па гэтым пытанні рэферэндум. Расійскі рубель — сцяг каманды Кебіча. Словы «Беларусь» і «дзяржава» прадстаюць сінонімамі толькі ў праграмах Шушкевіча і Пазняка.***

### ЗАТРЫМКА ТЫДНЯ

Да ліпеня, гэта значыць, на час прэзідэнцкіх выбараў, фіксаваныя цэны не павысяцца. Каб не псаваць імідж кандыдата ад Саўміна.

### СВЯТА ТЫДНЯ

5 чэрвеня праваслаўныя вернікі Беларусі адзначылі дзень памяці Святой Ефрасінні. Цэнтрам святкавання стаў старажытны Полацк. Тое, што ўрачыстасці набылі агульнанацыянальны характар, не малая заслуга Усебеларускага фонду імя Святой Ефрасінні Полацкай, заснавальнікамі якога сталі вядомыя навукоўцы, дзеячы культуры, мастацтва.

### ІНТЭРВ'Ю ТЫДНЯ

У «Звяздзе» за 8 чэрвеня надрукавана інтэрв'ю са Старшынёю Праўлення нацыянальнага банка С. Багданкевічам. У загаловак вынесены ягоныя словы: «Сапраўдная дружба заключаецца ў тым, каб весці сябе годна, падчас нават жорстка, абараняючы свае пазіцыі. Тады нас будуць паважаць». С. Багданкевіч зноў пацвердзіў, што «Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм, як такога, няма і таму, што не падпісаны асноўныя палажэнні — стрыжань гэтага дагавора. Не існуе і міжбанкаўскага пагаднення аб працэдуры аб'яднання, аб функцыяніраванні грашовых сістэм, а таксама міжурадавага пагаднення аб функцыяніраванні бюджэтных сістэм пасля аб'яднання. У дагаворы толькі тэзісна гаворыцца аб тым, што на працягу года мы выйдзем на адзіную бюджэтную сістэму, але невядома, хто будзе зацвярджаць яе — Дзярждума ці парламент Беларусі (можа, хто-небудзь трэці)?» І далей: «Урад у імя самога аб'яднання, у імя мэты гатовы ў канчатковым выніку адмовіцца ад палітычных і эканамічных інтарэсаў Беларусі». Спадар Багданкевіч мяркуе, што памыляецца той, хто спадзяецца, што нам удасца разжыцца за кошт іншага народа; пагэтаму ўсе словы, што так і сыплюцца аб райскім жыцці пасля аб'яднання — проста блеф. «З расіянамі заўсёды можна дамовіцца. З узаемным выгадай. Жыць жа на падачках нельга: наш народ не горшы за іншыя, але калі яго кіраўнікі лічаць інакш, то ім лепш вызваліць свае месца».

### ПАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Пасольства Беларусі ў Злучаных Штатах звярнулася ў Савет нацыянальнай бяспекі ЗША з просьбай пацвердзіць, што амерыканскія стратэгічныя ракеты болей не нацэлены на Беларусь. Дзяржаўны дэпартамент ЗША даў на гэты запыт станоўчы адказ.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

У Нармандыі (Францыя) распачалося святкаванне 50-й гадавіны высадкі саюзнікаў і вызвалення Еўропы. На ўрачыстасці сабраліся 19 манархаў, кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў 11 краін, што калісь уваходзілі ў антыгітлераўскую кааліцыю, а таксама болей за 30 тысяч ветэранаў, якія ў 1944 годзе бралі ўдзел у аперацыі «Оверлорд». Краіны СНД і ветэраны з гэтых краін удзелу ў свяце не бяруць.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

У казахстанскім друку апублікаваны праект стварэння «новага інтэграцыйнага аб'яднання», умоўна названага «Еўразійскі саюз (ЕАС)». Пад праектам подпіс Нурсултана Назарбаева. Праект прадугледжвае стварэнне Нацыянальных, наддзяржаўных каардынуючых структур з заканадаўчымі функцыямі. Афіцыйная мова — руская. Сталіцы — горад на стыку Азіі і Еўропы, напрыклад, Казань альбо Самара. Адзіная абаронная прастора і калектыўныя ўзброеныя сілы. Адным словам — СССР.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

У Расіі на канец красавіка было зарэгістравана 4,5 мільёна беспрацоўных плюс 4,5 мільёна грамадзян вымушаны працаваць няпоўны тыдзень альбо знаходзіцца ў неаплачаным адпачынку. Гэта 12 працэнтаў працаздольнага насельніцтва Расіі. На думку расійскіх аналітыкаў, бяда не столькі ў заняпадзе вытворчасці, а колькі ў адсутнасці ўнутраных стымулаў да ўздыму. Фактычна сёння ў Расіі столькі беспрацоўных, колькі на Беларусі насельніцтва. Калі пэўныя сілы ў нашай краіне рэалізуюць ідэю «двайнога грамадзянства», гэта расійская праблема стане нашай.

### НАСТУП ТЫДНЯ

Не так даўно Прэзідэнт РФ адмяніў квоты і ліцэнзаванне тавараў і паслуг у дачыненні да тых расійскіх вытворцаў, якія зацікаўлены ў пашырэнні рынкаў збыту сваёй прадукцыі. Гэта можа прывесці да зававявання беларускага рынку таннымі таварамі і прадуктамі з Усходу. Мала таго, што такім чынам беларускаму тавараўвытворцу будзе перакрыты кісларод у, так бы мовіць, родных сценах, — пад пагрозай беларуская прысутнасць на рынках Захаду, куды таксама накіруецца больш танная, чым беларуская, прадукцыя з Расіі.

### СВАВОЛЬСТВА ТЫДНЯ

Пагрозы прэс-сакратара прэм'ера У. Замяталіна пачынаюць здзяйсняцца. Адразу пасля выхаду ў свет былі зняты з продажу наклад газеты «Свабода» (N 21). Гэта зроблена па ўказанні дырэктара мінскага прадпрыемства «Белсаюздрук» Л. Шаблоўскай. Магчыма, прычына гэтай акцыі ў тым, што ў 21-м нумары «Свабоды» быў надрукаваны матэрыял аб розгаласе, які мела публікацыя «Дзікае паляванне Кебіча» ў замежным друку.

## Выбары

# ЗА КАГО І ЧАМУ?

**Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі:**

— Я буду галасаваць за Зянона Пазняка — лідэра Беларускага народнага фронту, які ў найбольшай меры выказвае інтарэсы народа Беларусі. Можа быць і апроч яго ёсць вартыя кандыдаты, але ўсе яны так ці інакш заангажаваны нядаўняй і цяперашняй камуністычнасцю, ад якой абсалютна свабодны Пазняк. Мне думаецца, што ўжо толькі гэтыя абставіны робяць асобу Зянона Пазняка выключнай у гэтым спісе і даюць яму абсалютнае права стаць лідэрам суверэннай Беларусі. Але менавіта суверэннай, бо без суверэннасці ў якасці Мінскай губерні, што ўвойдзе ў склад Расійскай імперыі, патрэбны іншы прэзідэнт, а хутчэй за ўсё губернатар, намеснік, гаўляйтар, што і рыхтуюць Беларусі іншыя кандыдаты — апроч хіба С. Шушкевіча.

**Алесь КСЯНДЗОЎ, мастак:**

— Я адназначна выбраў для сябе, што першым прэзідэнтам сярод вылучаных кандыдатаў можа быць толькі Зянон Пазняк. Гэты чалавек выйшаў не з наменклатуры і не з ленінскага камсамола, ён ведае цану нармальнай працы, добра разумее інтэлігенцыю. Палітыка — справа нялёгкая і, можа, нават, брудная. Пазняк, магчыма, палітык і не вельмі вопытны, але сумленны, прынцыповы, мае ўласныя погляды, і калі ў яго будзе нармальная інтэлектуальна моцная каманда, ён зробіць Беларусь незалежнай, багатай, цывілізаванай краінай.

**Віктар ВОЙЦІК, кампазітар:**

— Буду галасаваць за Пазняка. Чаму? Таму што ён чалавек рашучы, разумны, валявы, дальнабачны. Яго палітычныя прагнозы ўсе спраўджваліся, чаго не скажаш пра іншых палітыкаў. Асабліва мне імпануюць яго асабістая мужнасць і чалавечая годнасць. Ён падаецца мне ўвасабленнем сапраўднага беларуса. Толькі з такім прэзідэнтам, на маю думку, Беларусь стане незалежнай і атрымае сапраўдную, а не папяровую дзяржаўнасць.

Усё, да чаго мы прыйшлі, усім нам добра відаць. Ўчарашнім кіраўнікам веры няма. Праўда, па-чалавечы мне імпануе Станіслаў Шушкевіч, але нейкіх патрэбных для гэтай пасады рысаў характару яму ўсё ж не хапае.

**Леанід ХАДКЕВІЧ, дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў РБ:**

— Я лічу, што Станіслаў Шушкевіч — гэта сталы цвярозы палітык, які адлавядае патрэбам сённяшняга дня, таму аддаю перавагу менавіта яму. Ён здольны прыняць меры для вываду рэспублікі з крызісу і надання ёй адлавядага статуса ў сусветнай супольнасці. Калі яму даць уладу і паўнамоцтвы, ён выведзе Беларусь на еўрапейскі ўзровень і зробіць яе самастойнай дзяржавай.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА, празаік і крытык:**

— Галасаваць буду за Зянона Пазняка, зыходзячы з трох крытэрыяў. Па-першае, такой дзяржавай, як Беларусь, павінен кіраваць інтэлектуал. Не проста інтэлігент, не з адной ці дзвюма вышэйшымі адукацыямі, а менавіта інтэлектуал — чалавек, надзелены аналітычным розумам, здольнасцю рабіць прагнозы. Пазняк гэта робіць пакуль беспамылкова.

Па-другое, прэзідэнтам нашай краіны мусіць быць чалавек, які ў палітычнай барацьбе абараняе не ўласныя амбіцыі і дабрабыт, а інтарэсы Рэспублікі Беларусь, нашай бацькаўшчыны.

Па-трэцяе, Пазняк цалкам адлавядае іміджу прэзідэнта паводле сваёй знешнасці, пастаы, росту...

Разам з тым я разумею, што той Уладар, пра якога марыў Купала, яшчэ не знайшоўся або не вырас. На гэта патрэбен час, магчыма — гадоў 10—15...

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, супрацоўнік Інстытута экалогіі АН РБ:**

— Па радыё і тэлебачанні зараз вельмі шмат агітуюць за Кебіча. Як ні ўключыш — Вячаслаў Францавіч ды Вячаслаў Францавіч... Ну нельга ж так, урэшце! Ён шмат ездзіць, «плюсікі» збірае, пабываў у Полацку і Жыровічах, святых для нас месцах... Вядома, карысці ад гэтага мала, але і шкоды не будзе. Няхай бы ў тых мясцінах ён зразумеў штосьці важнае для ўсіх нас, беларусаў. А я асабіста прагаласую за таго, за каго і большасць вашых чытачоў...

# НАСТУП НА СВАБОДУ СЛОВА

## ЗАЯВА РАДЫЁСТАНЦЫІ «БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ»

9 чэрвеня намеснікам Старшыні Дзяржтэлерадыё С. Булацкім было афіцыйна засведчана, што «Беларуская маладзёжная» пазбаўляецца статуса радыёстанцыі ў зацверджанай Саўмінам структуры Дзяржкамітэта па ТБ і РВ. Тым самым інфармацыя нашага кіраўніцтва, перададзеная ў гэты ж дзень праграмай «Радыёфакт», што «аб закрыцці радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная»... не было нават размовы», з'яўляецца цынічнай хлуснёй.

Спробы заткнуць «маладзёжцы» рот за апошнія два гады рабіліся неаднаразова. У арсенале метадаў кіраўніцтва — адхіленні вядучых ад эфіру, адміністрацыйныя спагнанні за парушэнні «інструкцыяў» па выдачы ў эфір, патрабаванні звальнення асобных журналістаў, забароны цэлых праграм і радыёдзён. Матэрыялы, якія меліся выйсці ў эфір, папярэдне праслухоўваліся кіраўніцтвам, цэнзураваліся ці наогул адвозіліся ў Саўмін для праверкі на адпаведнасць афіцыйным установкам. Канчатковая маскі былі скінутыя 8 чэрвеня на сустрэчы прэм'ера Кебіча з выбаршчыкамі ў Магілёве, дзе ён, адказваючы на пытанне ўдзельнікаў сустрэчы, зазначыў, што «Беларуская маладзёжная» «палівала» ўрад і асабіста яго «брудам», і параіў тым, хто жадае, каб радыёстанцыя існавала, знайсці сродкі на адкрыццё незалежнай «хвалі».

Гэткім чынам ясна, што так званая рэарганізацыя сістэмы радыё і тэлебачання стала падставай для расправы над няўгоднымі журналістамі і калектывамі. З эфіру знікла радыёстанцыя з больш як 30-гадовай гісторыяй і традыцыямі, якая адкрыта выступіла ў падтрымку маладой беларускай дзяржаўнасці, незалежнасці, Адраджэння, за права на слова розным палітычным плыням і сацыяльным групам.

Мы заклікаем слухачоў і прыхільнікаў нашай радыёстанцыі да байкоту эфірнага часу, які раней належаў «Беларускай маладзёжнай». Мы кваліфікуем тое, што адбылося, як палітычную акцыю і наступ на свабоду слова, і лічым, што гэта ёсць сур'ёзная падстава задумацца ўсім грамадзянам Беларусі, якія прыйдуць 23 чэрвеня на выбарчыя ўчасткі.

**Ж. ЛІТВІНА, Т. НІЧЫПАРУК, В. СЯМАШКА, А. РАДКЕВІЧ, А. ДАЙНЕКА, А. ХМЯЛЬНІЦКІ, Л. ВОЛЬСКІ, І. КОБЗІК, А. ВЕЧАР, І. СТУДЗІНСКАЯ, І. КУРАПАТКІНА, В. БАБАК, У. ДАВЫДОЎСКІ, Н. ПЯТРОЎСКАЯ, З. ЛУКАШУК, Г. ХАРУЖАЯ, Г. КЕСНЕР, Ю. БЫКАЎ, У. САКУЛЬСКІ, З. НОВІКАЎ, З. ПАДБЯРЭЗСКІ**

# У ЧАКАННІ ПРЭЗІДЭНТА

І вось застаюцца якія два тыдні да выбараў прэзідэнта Беларусі. Рэспубліка, якая ёсць на мапе, але якой пакуль што бачым і няма, рэспубліка-прывіду, не інакш, бо яна, не паспеўшы ўзнікнуць, можа ператварыцца ў нішто, растварыўшыся ў абдымках «старэйшага брата», куды яе піхаюць цяперашнія павадыры. Міжволі прыгадваецца прытча пра Сейбіта. «І кінуў Сейбіт зерне ў церні, і церні выраслі і заглушылі яго...» Ці не пра нас гэта? Штучна прышпіленыя то да аднаго славянскага гіганта, то не раз падманутыя другім, мы адсталі ў развіцці ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі народамі. Вядома, нацыі развіваюцца няроўна. Адны яшчэ ядуць сваіх нябожчыкаў, другія крочаць па Месяцы, трэція пнуцца ў нейкі камунізм, адраджаюць сваё, нацыянальнае.

Як здарылася, што мы пазбавіліся асноўнага: нацыянальнай свядомасці? Нельга вініць за гэта цяперашніх беларусаў: 9 плыняў эміграцыі, вайна і камуністычны генацыд зрабілі сваё. Заraз у нас амаль штомесяц з'яўляецца новы чыкацыла, але ці можа, прыкладам, адбыцца такая з'ява, як Ян Палах? Вось вам пытанне, спадары...

Больш як стагоддзе таму Т. Хакслі запісаў:

«Пытанне пытанняў для народа,.. праблема, якая нашмат цікавейшая, чым любая з іх, — гэта вызначэнне месца ў Прыродзе і яго адносіны да Космасу».

Не так проста, пэўна, прыйсці зараз да свайго месца ў Прыродзе і Космасе. У свеце адзначаецца паўсюдная, так бы мовіць, дэрыізацыя. У такіх умовах, скажам прама, шанцы выжыць маюць толькі эгацэнтрычныя народы. Пакальнікі нікога надта не кранаюць і нічога не дасягнуць.

Нейк Стэндаль абмовіўся, што мора робіць чалавека высакародным. Хто ведае — будзь мы астраўной нацыяй, ці мяжуючай з морам, гісторыя, можа, павярнулася б інакш. У ёй таксама многа залежыць ад выпадковасцей. Дамінуюць жа зараз у свеце англа-саксы ды японцы.

Астраўным, ці марскім народам было лягчэй адбіцца ад ворагаў, бо мора натуральна абарана іх. Мора загартоўвала іх дух.

А ў нас жа ёсць не тое, што ёсць. І задача, пэўна, у тым, каб выжыць, не даць сябе асіміляваць, не даць знікнуць нашаму этнасу, мове, культуры. Адрадзіў жа, напрыклад, сваю дзяржаўнасць, мову, культуру яўрэйскі народ. Пачалі нялёгкую працу па нацыянальным адраджэнні нашы «малыя суседзі» — прыбалтыйскія краіны.

Але... у нас і тут нявыкрутка. Нашы ўлады не зрабілі па гэтай дарозе аніякіх належных крокаў.

— Не спынена асіміляцыя.

— Не праводзіцца беларусізацыя.

— Не абсечана крымінілізацыя грамадства.

— Не стабілізавана эканоміка.

Наадварот. Нашаму народу штучна высунута пытанне — быць ці не быць з Расеяй?

Расея — вялікая краіна, а расейцы вялікі народ. Але ў іх свой шлях. І Салжаніцын, між іншым, гаварыў, што знікненне «малых» народаў вядзе да знікнення чалавецтва. Ды хто ведае яшчэ, — як усё павернецца. Расея можа стаць вялікай дзяржавай, а можа і гіганцкай крымінагеннай пустэчай, а можа стаць і калоніяй Захаду. А мы тады хто будзем: калоніяй калоніі? Загналі ж калісьці расейцы большасць свайго ж народу пад прыгон.

Нашаму народу ўладамі акрэслена нейкая туманная перспектыва:

# НЕ ЭКАНОМІЦЬ НА КУЛЬТУРЫ...

*Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч час ад часу праводзіць сустрэчы з работнікамі нацыянальнай культуры, дзеячамі літаратуры і мастацтва. Наладжваюцца яны не ў кабінетах. Першая адбылася ў снежні 1992 года ў старадаўнім Міры, падчас якой абмяркоўваліся перспектывы рэстаўрацыі і захавання гэтага нацыянальнага культурнага і гістарычнага помніка. Адрас другой сустрэчы — старажытнае Заслаўе. І вось чарговая — на Нясвіжчыне.*

Адбылася яна ў мінулы чацвер. Пісьменнікі, мастакі, акцёры, рэжысёры, прадстаўнікі іншых творчых прафесій, знамакітыя навукоўцы, сярод якіх такія выдатныя дзеячы, як І. Чыгрынаў, Р. Гарэцкі, Б. Сачанка, А. Мальдзіс, В. Елізар'еў, М. Яроменка і іншыя, прыехалі ў Нясвіж, каб яшчэ раз далучыцца да багатых нацыянальных культурных традыцый. Усім ім было цікава паслухаць старшыню Нясвіжскага райвыканкама У. Дражына, які ўзяў на сябе абавязкі экскурсавода.

А затым адбылася гутарка з прэм'ер-міністрам. Паколькі напярадзе выбары першага ў гісторыі Беларусі прэзідэнта, а В. Кебіч, як вядома, з'яўляецца адным з кандыдатаў на гэты адказны пост, не былі абыдзены ўвагай і некаторыя палітычныя моманты. І ўсё ж асноўны змест сустрэчы — праблемы развіцця беларускай культуры. Усім нам хацелася б верыць словам прэм'ер-міністра: «Эканомячы на культуры, дзяржава многа не сэканоміць, але страціць можа непапраўна шмат».

Госці наведалі акцыянернае таварыства «Новае жыццё», дзе ў Аношкаўскім сельскім Доме культуры В. Кебіч выступіў з вялікай прамовай. Ён нагадаў прысутным аб тых захадах, што прымаюцца апошнім часам з боку ўрада, каб аказаць належную падтрымку як развіццю літаратуры, мастацтва ў цэлым, так і асобным катэгорыям творчых работнікаў. У прыватнасці, урад прыняў пастанову «Аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнай кінематаграфіі», стварыў Дзяржаўны рэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм. У мэтах фінансавай, матэрыяльна-тэхнічнай і сацыяльнай падтрымкі калектываў рэдакцый, прадпрыемстваў і ўстаноў, якія займаюцца зборам, апрацоўкай, вытворчасцю і распаўсюджваннем інфармацыі, намячаецца шэраг ільгот па падаткаабкладанні, аплаце за паслугі сувязі, энерга- і цеплазабеспячэнне, арэнду памяшканняў і іншыя паслугі. Падпісана пастанова, якая ўсталюе сістэму дзяржаўных выплат для выдатных дзеячаў культуры і мастацтва і для таленавітай моладзі.

На думку прэм'ера, мы падышлі да мяжы, на якой павінны ўсвядоміць, што вырашэнне праблем культуры — ёсць умова выжывання нацыі. Нельга дапусціць, каб культура зноў стала полем вырашэння класавых, палітычных і ідэалагічных спрэчак. Слова не павінна раз'ядноўваць людзей. Не трэба за народ вырашаць, што патрэбна браць у будучыню, а што патрэбна знішчыць, зруйнаваць, забараніць.

Усё гэта ўспрымалася б зусім інакш, калі б не насіла выразнага адбітку перадвыбарчай прапаганды.

# МЫ ПАМЯТАЕМ...

Спаўняецца сумная дата ў нашай гісторыі, сведкамі якой многія з нас былі і захавалі боль у сваіх сэрцах. 10 гадоў таму 13 чэрвеня 1984 г. па рашэнні камуністычных кіраўнікоў БССР і Менска М. Слюнькова, І. Антановіча, В. Пячэннікава ў Верхнім горадзе быў разбураны будынак старэйшага тэатра Беларусі, у якім у 1852 г. адбылася прэм'ера першай беларускай аперэткі «Сялянка» В. Дуніна-Марцінкевіча, С. Манюшкі і К. Крыжаноўскага.

Нягледзячы на шматлікія пратэсты грамадскасці гэты унікальны помнік нашай культуры і архітэктуры зберагчы не ўдалося, ён быў знішчаны ўлюбёным метадам камуністаў чыгуннай «бабай», якой яны разбурылі найлепшыя помнікі нашай Бацькаўшчыны практычна ва ўсіх гарадах Беларусі.

З нагоды гэтай сумнай даты 13 чэрвеня з 13.00 да 19.00 на месцы, дзе амаль 200 гадоў стаяў будынак тэатра, а цяпер расце бур'ян, будзе дзеіць інфармацыйны пікет (Інтэрнацыянальная, 28, ля Акадэміі музыкі), які ладзіць Камісія па культуры БНФ «Адраджэнне».

**М. КУПАВА**

жыць спакойна, працаваць, нараджаць дзяцей. Але правільна было адзначана, што гэта перспектыва быдла, а не чалавека. Так мы ніколі не ўбачым зорак над галавой, не ўбачым Космасу, не вызначымся ў Прыродзе.

Наш шлях іншы. І шанц у нас апошні, не выкарыстаць які — проста ганебна.

У гэтых варунках, думаецца, распрацаваныя БНФ праграмы і шляхі развіцця — адзіныя, якія маюць перспектыву. Іншы ж шлях у **нішто**, а **нішто**, як сказана дзесьці ў Шэкспіра, і нараджае **нічога.**

Ну чаму мы павінны давяраць кіраванне, давяраць стырно людзям, якія за некалькі гадоў не зрабілі нічога істотнага? Чаму яны так баяцца таго, што стаіць на сваіх нагах, што мае нацыянальныя карані, баяцца свабоды? Чаму нашэсце ўсялякіх крымінальнікаў, «каўказцаў», дзікіх сектантаў (увесь Мінск і правінцыя зноў залеплены выявай М. Цвігун — Дзевы Марыі) не насцярожвае і не ўзрушае іх, а вось слова праўды якога-небудзь дэпутата ад апазіцыі выклікае істэрыю?

...І вось мы ўшчыльную перад выбарамі прэзідэнта, якія гвалтам, інакш не скажаш, нам навязаныя. Тым не менш, яшчэ не позна нашаму народу вярнуць сабе «згублены твар», вярнуць еўрапейскасць і даганяць іншыя народы, якія вырваліся наперад. Яшчэ не позна вызначыць сябе і ў Прыродзе і ў Космасе і сярод суседзяў. І першае, што, думаецца, нам варта зрабіць на гэтым шляху — гэта прагаласаваць за адзінага, лічу, дастойнага кандыдата — а менавіта Зянона Пазняка.

Умець падпарадкоўвацца адзінай мэце — гэта ўмець правіць светам. Цяпер, перад падступаючым распадам грамадства, нам не варта праяўляць ніякія асабістыя амбіцыі, дробныя разлікі і халуйскую спадзяванку на «добрых» суседзяў. З амбіцыямі можна разабрацца потым.

А ісці ў Еўропу, адначасова падтрымліваючы добрыя, эканамічна выгадныя адносіны з Расіяй ды іншымі суседзямі, нам ёсць з чым.

Урэшце, у нас ёсць трывалае геапалітычнае становішча, ёсць старажытныя герб і сцяг. У нас ёсць, лічу, лепшы ў свеце гімн («Магутны Божа» на словы Н. Арсенневай), які пакуль упарта адвяргаюць. У нас ёсць хоць і расхістаны, але пэўны эканамічны патэнцыял.

І ёсць працалюбівы народ, які хаця і знясілены ды раз'яднаны, але можа яшчэ, так бы мовіць, узняцца на крыло.

Застаецца толькі дачакацца, што скажуць людзі.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

«КРУГЛЫ СТОЛ» «ЛіМа»

# ДЫ ЯШЧЭ П'ЮЦЬ. БЕЗ ПРЫЧЫНЫ І МЕРЫ...

**У 1988 годзе ў выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла не вельмі, на жаль, заўважаная грамадскасцю кніжка навуковага супрацоўніка акадэмічнага Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору С. Цярохіна «У фокусе канкрэтнага факта: праўда і мана пра ап'яняльныя напіткі». У кароценькай анатацыі да гэтай, фактычна, навуковай працы, гаварылася, што ў ёй на падставе пісьмовых помнікаў VI—XII стагоддзяў, архіўных матэрыялаў XVI—XIX стагоддзяў, прац дарэвалюцыйных і савецкіх гісторыкаў «раскрываецца праблема ўжывання хмельных напіткаў, развенчваецца тэорыя буржуазных ідэолагаў аб быццам бы спрадвечнай схільнасці ўсходніх славян да п'янства».**

**У кніжцы, дарэчы, багатай на цікавыя факты, падкрэслівалася таксама класавая сутнасць культу Бахуса, бо яшчэ ў сярэднявеччы, па словах аўтара, п'янства было «прывілеяй і карай» пануючага класа. Менавіта эксплуататары распаўсюджвалі п'янства па іншых саслоўях.**

**Не будзем папракаць аўтара, што сваю кніжку ён пісаў з марксісцка-ленінскіх пазіцый, час вымагаў свае правілы гульні. Заўважым толькі, што афіцыйная камуністычная прапаганда, называючы п'янства «перажыткам капіталізму ў свядомасці людзей», так і не змагла вытлумачыць, чаму з ліквідацыяй «эксплуататарскіх класаў» пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ўжыванне алкаголю яшчэ больш узрасло. Гэта ж не каму іншаму, а трубадуру рэвалюцыі Уладзіміру Маякоўскаму належаць словы, што пралетарый таксама не дурань выпіць...**

**Разам з тым, мы б схлусілі, каб сказалі, што камуністычны рэжым не змагаўся з п'янствам і алкагалізмам. Ва ўсіх на памяці не адна пастанова «партыі і ўрада» «Аб узмацненні барацьбы з п'янствам», «Аб мерах па ўзмацненні барацьбы з п'янствам і алкагалізмам», «Аб барацьбе з самагонаварэннем» і г. д. Апошняя такая кампанія, распачатая на пачатку гарбачоўскай перабудовы і звязаная з імем аднаго з самых уплывовых партыйных бонзаў Я. Лігачова, праводзілася з асаблівай помпай і вызначалася чыста савецкім ідыятызмам — ад высечкі дзесяткаў тысяч гектараў вінаграднікаў (яны ва ўсім вінаватыя), знішчэння на прадпрыемствах лікёрагарэлачнай прамысловасці абсталявання і цэлых тэхналагічных ліній да забароны вымаўлення на эстрадных падмостках, па радыё і тэлебачанні слоў «гарэлка», «віно», «выпіўка», «застолле» і да т. п.**

**І гэтая антыалкагольная кампанія, як і папярэднія, скончылася, па сутнасці, канфузам. Калі скараціліся вытворчасць і продаж гарэлкі і віна, пітушчы люд перайшоў на самагонку, танныя адэкалоны, рознага роду «хімію». У каторы раз спраўдзілася старая, як свет, ісціна — забаронай не прымусіш людзей паводзіць сябе так, як яны не лічаць для сябе патрэбным. Як сведчыць вопыт многіх краін свету, ніякімі «сухімі» законамі п'янства пераадолець немагчыма. Дзе ж выйсце?**

**Адказ на гэтае сакраментальнае пытанне зрабілі спробу адшукаць удзельнікі гаворкі за чарговым «круглым сталом» «ЛіМа» — А. НІКАНЧУК, народны дэпутат Беларусі; У. ІВАНОЎ, галоўны псіхіятр і нарколаг Міністэрства аховы здароўя; М. КРЭЧКА, начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі правапарушэнняў Міністэрства ўнутраных спраў, палкоўнік міліцыі; С. ЛАПЦЁНАК, доктар філасофскіх навук, загадчык лабараторыі БДУ; А. РУБЕЦ, начальнік упраўлення канцэрна «Белхарчпром»; Р. ВОЙНА, галоўны ўрач Светлагорскага лячэбна-працоўнага прафілакторыя; Д. САЙКОЎ, урач-нарколаг; А. ЗЯРНЯТКА, начальнік медвыцвярэзніка Першамайскага раёна г. Мінска; Р. ШЫЛАВА, старшыня праўлення рэспубліканскага добраахвотнага таварыства барацьбы за цвярозасць; К. С., каардынатар таварыства «Ананімныя алкаголікі»; М. ГІЛЬ, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва»; М. ЗАМСКІ, рэдактар аддзела публіцыстыкі «ЛіМа».**

**Прапануем увазе чытачоў магнітафонны запіс (на жаль, у многім вымушана фрагментарны) гаворкі, што адбылася за «круглым сталом».**

**М. Гіль:** — Праблема, абмеркаванню якой мы вырашылі прысвяціць чарговы «круглы стол» «ЛіМа», надзвычай балючая, трывожныя і надзённая. Зразумела, што мы не зможам тут знайсці нейкую панацэю ад такой пачварнай з'явы, як п'янства. Гэта, як вы разумееце, і немагчыма. Проста хочацца запрасіць вас адкрыта і шчыра пагаварыць аб гэтай агульнай нашай бядзе, якая пагражае дэградацыяй, выраджэннем нацыі. Давайце разам паспрабуем вызначыцца ў нейкіх кірунках барацьбы з набываючай усё большыя маштабы алкагалізацыяй насельніцтва, якая ахапіла бадай усе пласты грамадства, у тым ліку і многіх людзей, якія па адукацыі, прафесіі, роду заняткаў лічаць сябе належачымі да інтэлігенцыі. Няхай наш голас сёння прагучыць трывожным набатам, прагучыць, як яшчэ адно папярэджанне аб пагражаючай нашай краіне, нашаму народу небяспецы.

Я, вядома, не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што п'янства ў нас мае даўнія «традыцыі», і таму так цяжка, відаць, з ім змагацца. Нядаўна я набыў факсімільнае выданне «Нашай Нівы», газеты, якая выходзіла ў Вільні з 1906 па 1915 год і ля вытокаў якой стаялі Янка Купала і некаторыя іншыя буйныя дзеячы беларускай культуры. Пакуль што выйшаў першы том гэтага выдання, які ахоплівае 1906—1908 гады. Я прачытаў яго і, маючы на ўвазе наш сённяшні «круглы стол», сёе-тое выпісаў сабе ў блакнот. Дык вось, амаль у кожным нумары «Нашай Нівы» пісалася пра п'янства. Пра гэтую пачварную з'яву паведамлялі шматлікія карэспандэнты газеты. Працытую некаторыя з гэтых паведамленняў. «У нашай воласці ёсць дзве «манапольні», — піша адзін з карэспандэнтаў, — у іх выпіваецца гарэлкі 2300 вёдзер у год. І каштуе гэтая гарэлка 18400 рублёў. Шмат чаго добрага можна было б зрабіць за гэтыя грошы, а, тым часам, з гарэлкі больш бяды і гора прыбывае». І яшчэ. «На праводным тыдні ў нашым рэстаране была надта вялікая баталія, біліся, хто чым папаў: кіямі, кулакамі, бутэлькамі, а ўсё гэта робіць праклятая гарэлка. А ці не лепш было б у Радашковічах адчыніць замест рэстарана бібліятэку, а то наш мужык не мае другой пацехі, як п'янства».

Літаральна ўчора разбіраючы рэдакцыйную пошту, я натрапіў на ліст нашага сталага чытача з Мастоў Гродзенскай вобласці. Разважаючы пра адраджэнскую інтэлігенцыю, аўтар піша: «Колькі іх, сапраўдных нацыянальных інтэлігентаў, тых, у чыёй душы нязгасным полымем свеціць знічка беларускасці!? Пальцаў на руках з астаткам хопіць пералічыць іх. А астатнія? Ці пятая калона суседняй дзяржавы, ці проста людзі, якія гібеюць у невуцтве і распусце. Ды яшчэ п'юць. П'юць, як апошнія недарэкі па вёсцы ці няўцямныя рабацягі ў мястэчку. П'юць, як на падводных лодках, як п'юць па ўсёй Расеі. Без усялякай меры і прычыны на тое...» Каментарыі, як кажуць, залішнія...

**У. Іваноў:** — Падлічана, што страты ад злоўжывання алкаголем у кожнай краіне складаюць прыкладна 2—3 працэнты ад атрыманага валавога нацыянальнага прадукта. Гэта вельмі многа. Вядома, што дзяржава павінна трымаць пад кантролем вытворчасць, продаж і спажыванне алкаголю. Дарэчы, заходнееўрапейскай супольнасцю распрацаваны план скарачэння спажывання спіртнога, паводле якога краіны, што ўключаны ў яго арбіту, да канца стагоддзя зменшаць алкагалізацыю насельніцтва на 20—25 працэнтаў. На жаль, Беларусь застаецца па-за мерапрыемствамі гэтага плана. І наогул, наколькі я ведаю, наш урад гэтыя праблемы не хвалююць. Адсутнасць дзяржаўнага плана барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, акрамя ўсяго іншага, звязвае рукі і нам, медыкам, і органам правапарадку, культуры, адукацыі, сродкам масавай інфармацыі, якія пазбаўлены магчымасці вызначыцца, скаардынаваць свае дзеянні ў барацьбе за ўтаймаванне «зялёнага цмока». Убаку ад гэтай справы нашыя вучоныя, у прыватнасці, сацыёлагі. Наша краіна з нямногіх, дзе дагэтуль не падлічана, колькі там спажываецца алкаголю.

**М. Замскі:** — У адным з артыкулаў, нядаўна змешчаных у «ЛіМе», была зроблена спасылка на статыстычны зборнік «Рэспубліка Беларусь, дзяржавы СНД і асобныя замежныя краіны» на 1992 год, паводле якога спажыванне алкаголю на душу насельніцтва ў нас складае 6,3 літра — больш, чым дзе-небудзь у СНД.

**А. Ніканчук:** — Цікава, як вёўся гэты падлік. Выраблену алкагольную прадукцыю падзялілі на колькасць насельніцтва рэспублікі? Нядаўна мне давялося пабываць у камандзіроўцы ў Маскве, дзе ў раёне Беларускага вакзала перад маімі вачыма паўстала такая карціна: сотні, мо і тысячы нашых землякоў гандлявалі беларускай гарэлкай. Мне растлумачылі, што гэта вельмі выгадны бізнес — у нас купіць гарэлку, а там прадаць за расейскія грошы.

**С. Лапцёнак:** — А як улічыць самагонаварэнне?

**М. Замскі:** — Калі я не памыляюся, пару год назад у нас быў скасаваны закон аб крымінальнай адказнасці за самагонаварэнне...

**М. Крэчка:** — Не зусім так. Іншая справа, што закон гэты малаэфектыўны. Як, дарэчы, і многія іншыя заканадаўчыя акты. Трэба заўсёды помніць, што калі нечага вымагае эканамічная неабходнасць, а самагонаварэнне абумоўлена менавіта такой неабходнасцю — забарона мала што дае. Мы ў свой час выйшлі ў Саўмін рэспублікі з прапановай увесці ў саматужнай вытворчасці алкагольных напояў сістэму ліцэнзавання. Каб грамадзянін, які вырашыў заняцца гэтай справай, купляў адпаведную ліцэнзію, а на сваю прадукцыю атрымліваў сертыфікат якасці. Як на дзяржаўным прадпрыемстве. Гэта, па-першае, дало б магчымасць весці строгі ўлік падобнага роду вытворцаў самаробнай гарэлкі (колькі сёння людзей «гоняць» самагонку ў вёсках, а апошнім часам і ў гарадскіх кватэрах, не ведае ніхто), а, па-другое, трымаць пад кантролем яе якасць, бо сёння многія ўмельцы прапануюць «страждущим» сапраўдную атруту. Але, на жаль, нашу прапанову не падтрымалі.

**М. Замскі:** — Такое ліцэнзаванне ў саматужнай вытворчасці алкаголю, я чуў, практыкуецца ў краінах Прыбалтыкі. Не ведаю, як там, але ў нас, думаю, нават пры ліцэнзаванні колькасць падпольных самагоншчыкаў не зменшылася б. Што тычыць сертыфікату якасці алкагольных напояў, выробленых саматужнікамі, дык хто за гэтай якасцю будзе рэгулярна сачыць? Гэта ж давялося б, відаць, ствараць спецыяльную службу кантролю, нешта накшталт АТК. І дзе, пры якіх структурах яна павінна была б дзейнічаць? Ды і наогул, не надта верыцца, што гэтую ідэю падхопяць саматужнікі-самагоншчыкі, хай і вялікія спецыялісты ў сваёй справе. Навошта ім нейкія ліцэнзіі, сертыфікаты, калі і так попыт на спіртное апярэджвае яго выраб? Што тычыцца прыбытку, так сказаць, рэнтабельнасці ў самагонаварэнні, дык яна складае, па маіх звестках, не менш шасцісот-сямісот працэнтаў.

**А. Рубец:** — Прызнацца, я адчуваю сябе тут ніякавата. Тэма гаворкі за «круглым сталом» «ЛіМа» — барацьба з такой пачварнай з'явай, як

*(Працяг на стар. 14-15)*

## ЗНОЎ З'ЯЗДЖАЮЦЦА БЕЛАРУСЫ

**Яшчэ ў многіх, як кажуць, на слыху Першы з'езд беларусаў свету, які мінулым летам праходзіў у Мінску. І вось — заканамерны працяг той важнай падзеі па яднанні нашых суайчыннікаў, незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Заўтра, 11 чэрвеня, у Мінску пачне сваю работу першае пасяджэнне абранай з'ездам Вялікай рады, на якое запрошаны ўсе яе замежныя члены. А працягам пасяджэння стане навуковая канферэнцыя і фестываль «Культура беларускага замежжа».**

**Мяркуецца, што гэтыя мерапрыемствы стануць вельмі аўтарытэтнымі.**

**У прыватнасці, запланавана, што на канферэнцыі з дакладамі і паведамленнямі выступяць Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі (Злучаныя Штаты Амерыкі), Алесь Барскі, Сакрат Яновіч (Польшча), Аляксей Каўка, Антон Сабалеўскі (Масква), Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург), Лявон Луцкевіч, Хведар Нюнька (Летува). І, вядома ж, слова будзе дадзена нашым знакамітым пісьменнікам, навукоўцам, у першую чаргу тым, хто даўно ўжо спрычыніўся да культуры беларускага замежжа — дырэктару Скарынаўскага цэнтра Адаму Мальдзісу, галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Барысу Сачанку, дырэктару Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Віктару Каваленку...**

**Што датычыць фестывалю «Культура беларускага замежжа», дык запрашэнні прыняць у ім удзел атрымалі, у прыватнасці, Леанід Барткевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш, Аляксандр Казак, Валянціна Пархоменка. Выступяць і лепшыя выканаўцы і калектывы Бацькаўшчыны.**

**Аргкамітэт па правядзенні гэтых мерапрыемстваў узначальвае намеснік старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі.**

## НАЙПЕРШЫ ВУЧНЯМ

**адрасаваны «Малы матэматычны слоўнік» (аўтары У. Воднеў, А. Навумовіч, Н. Навумовіч), выпушчаны выдавецтвам «Універсітэцкае»: у яго ўключаны тэрміны, што ўжываюцца ў школьным курсе матэматыкі. Але, пэўна, палічаць патрэбным набыць гэты даведнік і настаўнікі, слухачы падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ, студэнты — усе, хто пакуль слаба ведае беларускую мову, але верыць, што за ёй будучыня, паколькі яна дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь.**

## ПРА ДЗЯРЖАЎНУЮ СІМВОЛІКУ

**І яна ў нас ёсць, новая дзяржаўная сімволіка. І ўсе мусяць з павагай ставіцца да яе. І нашы суграмадзяне, і тыя, хто жыве ў іншых краінах. А каб ніякіх пытанняў наконт гэтага не ўзнікала, выдавецтва «Беларусь» у другі раз выпусціла брашуру «Заканадаўчыя акты аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь» (складальнікі А. Трусаў і К. Лазавікоў). Тэксты на англійскую, французскую, нямецкую і іспанскую мовы адпаведна пераклалі А. Ільіч, М. Захарэвіч, І. Вабішчэвіч, А. Мельнікаў.**

## ЧАТЫРЫ — ЛІЧБА ШЧАСЛІВАЯ

**І ў гэтым пераканаў адкрыты конкурс па стварэнні беларускага нацыянальнага буквара. На яго паступіла чатыры рукапісы. Як высветлілася пры падвядзенні вынікаў гэтага творчага спаборніцтва, першую прэмію атрымаў рукапіс, што меў парадкавы нумар чатыры і праходзіў пад дэвізам «Раніца». Аўтарам гэтага буквара аказаўся Анатоль Клышка. Другую прэмію атрымала Еўдакія Шылец. Яе рукапіс меў дэвіз «Школа радасці».**

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендавала Навукова-метадычнаму цэнтру навучальнай кнігі і сродкаў навучання, выдавецтву «Народная асвета» падрыхтаваць рукапіс А. Клышкі ў якасці буквара на 1996—97 навучальны год. Рукапіс жа Е. Шылец даручана выпусціць у якасці паралельнага падручніка.**

# ДЗЕЛЯ ЗГОДЫ І РАЗУМЕННЯ

***Як ні было, але нашу дзяржаву пакуль мінулі міжнацыянальныя канфлікты. Здаўна на гасціннай беларускай зямлі ў хаўрусе і згодзе жывуць прадстаўнікі самых розных народаў. Калі верыць статыстыцы, дык гэтая лічба перавяліла за 120.***



Цяпер жа, калі адбываецца адыход ад ідэалагічных догмаў, на першы план выступаюць агульначалавечыя каштоўнасці, і ўсе яны — рускія і яўрэі, украінцы і татары, латышы і літоўцы, гэтаксама, як і беларусы, жывуць ідэямі свайго нацыянальнага Адраджэння. Бо, будзем справядлівымі, дзесяцігоддзямі адбывалася нівеліроўка розных культур у імя адной — сацыялістычнай. Але, каб жыць годна, валодаць правам заставацца самім сабой, трэба мець для гэтага адпаведныя ўмовы. Балазе, у гэтых адносінах у суверэннай Беларусі робіцца нямала. Апошнім часам створаны розныя нацыянальныя культурна-гістарычныя суполкі, таварыствы, прыняты Закон аб нацыянальных меншасцях, правы іх агавораны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

І вось яшчэ адзін важны крок у гэтым кірунку: у мінулую пятніцу ў Мінску адкрыўся Цэнтр нацыянальных культур Беларусі. Размясціўся ён у Доме ветэрана на вуліцы Янкі Купалы. Тут адбылася афіцыйная ўрачыстасць і вялікі святочны канцэрт.

Адкрылі сустрэчу народная артыстка Беларусі З. Бандарэнка і старшыня Савета нацыянальных меншасцей Беларусі Б. Шабановіч. Стварэнне гэтага цэнтра, падкрэслілі яны, дар урада нашай дзяржавы.

Да прысутных звярнуўся Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч. Мы ўсе ў нашай суверэннай маладой дзяржаве, сказаў ён, павінны імкнуцца да адной мэты і аднаго жадання — усвядоміць сябе і быць заўсёды адзіным народам Рэспублікі Беларусь. Наша палітыка будуецца на паважных адносінах да ўсіх народаў, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі. Ствараючы новую суверэнную дзяржаву, мы ўжо заклалі асноватворныя прынцыпы ўзаемадзеяння дзяржавы з прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцей. Гэта грамадзянская роўнасць, аднолькавыя сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя гарантыі для ўсіх жыхароў рэспублікі, нягледзячы на іх нацыянальную прыналежнасць, права на нацыянальна-культурнае развіццё, дэпалітызацыя нацыянальных адносін... Гэта вялікі набытак, калі ў сацыяльна-гістарычную канву адной нацыі ўплятаюцца культурныя традыцыі многіх нацыянальных супольнасцей. Гэта павышае інтэлект дзяржавы, больш духоўна багатым і насычаным становіцца жыццё ўсяго грамадства.

Але, падкрэсліў прэм'ер-міністр, кожны з нас мае права (і гэта святое права) берагчы нацыянальныя традыцыі свайго народа, яго гістарычную культуру, яго духоўныя каштоўнасці. Гарантам гэтага і з'яўляецца дзяржава. А гарантыі гэтыя вызначаны Канстытуцыяй і правамі нашых грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове, на выкарыстанне нацыянальных культурных традыцый, на нацыянальна-палітычную роўнасць. Як зазначыў В. Кебіч, толькі нацыянальны спакой і згода могуць дапамагчы вырашыць нам тыя складаныя задачы, што стаяць сёння перад усім грамадствам.

Стварэнне нашага культурнага цэнтра, сказаў у заключэнне прэм'ер-міністр, гэта добры фундамент для будучых спраў. Сюды будуць прыходзіць дарослыя і дзеці, адсюль будуць набіраць сілу вытокі таго, што называецца адным добрым словам — Радзіма.

Да прысутных звярнуліся міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, прэзідэнт яўрэйскіх арганізацый Беларусі Л. Левін, міністр адукацыі В. Гайсёнак, прэзідэнт Канфедэрацыі творчых Саюзаў Беларусі М. Яроменка, народны мастак СССР М. Савіцкі, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі А. Ваніцкі.

У святочным канцэрце прынялі ўдзел вядомыя прафесіянальныя і самадзейныя выканаўцы. Выконваліся танцы, гучалі песні розных народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі. Панавала атмасфера сардэчнасці і цеплыні.

*Фота А. МАЦЮША*



# У ЗОНЕ АСАБЛІВАЙ... НЯЎВАГІ

Хойніцкі раён — паўднёвая ўскраіна Беларусі. Раней — «зона асаблівай увагі», а сёння — забыты богам і начальствам куток. Эканамічныя цяжкасці, што стварыў урад на Беларусі, моцна адчуваюцца тут і заўважаюцца на кожным кроку — па пустых вуліцах (няма паліва для транспарту), пустых паліцах крамаў (пэўна, тая ж прычына), высокіх цэнах (дастаўка дорага абыходзіцца)... Дададзім яшчэ празмерна нізкія заробкі і месяцовую нявыплату зарплаты, каб акрэсліць агульнымі рысамі той малюнак, які ўбачылі беларускія пісьменнікі, што нядаўна пабывалі ў раёне. Узначаліў дэлегацыю прэзідэнт дабрачыннага фонду «Палескі смутак» паэт Мікола Мятліцкі, а ў склад яе ўвайшлі пісьменнікі Алесь Рыбак, Іван Кананові́ч, Барыс Пятровіч. Раённым уладам ад Беларускага рэспубліканскага дзіцячага фонду было перададзена дзесяць тон гуманітарнае дапамогі — дзіцячага харчавання.

Паездка ў раён, пацярпелы ад чарнобыльскае бяды, прайшла плённа і пакінула шмат незабыўных уражанняў. Адбыліся цікавыя сустрэчы з настаўнікамі школ і жыхарамі вёсак раёна, наведалі пісьменнікі і 30-кіламетровую зону. Падчас сустрэч размова ішла не столькі пра літаратуру, колькі пра сённяшняе жыццё. Людзі жывуць тут тымі ж праблемамі і клопатамі, што і ўся Беларусь. Нязменна пасля прывітання першым пытаннем было: «За каго будзеце галасаваць на выбарах?» Вяскоўцы пыталіся і самі адказвалі: «Толькі не за Кебіча!» Бо надта абрыдла слухаць ягоныя абяцанкі-цацанкі. Некаторыя дадавалі: «І не за Пазняка...» Бо добра пастараліся некалі камуністы, каб стварыць лідэру БНФ не надта прывабны «імідж». А вось пэўнасці — за каго ўсё ж галасаваць — у большасці няма. Людзі вагаюцца: «Мо за Дубко? А мо за Шушкевіча? Ці за Лукашэнку?..» Словам, камандам кандыдатаў у прэзідэнты трэба шмат папрацаваць, каб схіліць выбаршчыкаў на свой бок. Бо лёс нашай краіны будзе вырашацца і тут, у далёкіх, забытых вёсках.

Суправаджала пісьменнікаў незалежны ўрач Беларускага дзіцячага фонду Лідзія Літвіновіч. Яна адказвала на пытанні вяскоўцаў ды і гараджан, што тычыліся праблем аховы здароўя ў зоне забруджання. У час гэтых размоў стала відавочна, што былая «зона асаблівай увагі» стала цяпер «зонай асаблівай няўвагі». Бо ўсе ранейшыя льготы для жыхароў забруджаных радыяцыяй раёнаў зняты, няма размоў і пра спецыяльнае, «чыстае» харчаванне, больш таго, цэны на некаторыя прадукты тут амаль у два разы вышэйшыя, чым, скажам, у Мінску, пры значна ніжэйшым заробку сялян...

Не менш уражанняў пакінула і наведанне трыццацікіламетровай — адселенай — зоны. Уся жудасць трагедыі, што напаткала наш народ, асабліва яскрава адчувалася тут, сярод пакінутых і зараз знявечаных хат, у маляўнічых надпрыпяцкіх куточках, якія сёння нясуць у сабе небяспеку ўсяму жывому... Тут, за восем кіламетраў ад чарнобыльскага «саркафага», і ўзнікла ідэя напісання кнігі пад умоўнай назвай: «Прайсці праз зону». У розныя часы праз чарнобыльскую зону «прайшло» шмат беларускіх пісьменнікаў і яны павінны «правесці» праз яе сваіх чытачоў, каб ядзерная бяда назаўсёды засталася ў памяці нашых нашчадкаў і каб яна ніколі не паўтарылася.

Насычанай на падзеі, сустрэчы і ўражанні паездка атрымалася дзякуючы клопатам і ўвазе старшыні райвыканкама Алега Акушкі. А само наведанне пісьменнікамі Хойніцкага раёна ў наш няпросты, «дарагі» час адбылося з дапамогай спонсара бізнесмена Аляксея Ярамчука, які нарадзіўся ў Хойніцкім раёне.

**Н. К.**

***Новыя прасторы, што чалавек неўспадзеў спазнае, куды аказіяй трапляе, — заўжды «аздараўляльны фактар» для яго, крок наперад да свету. Наперад — з уяўнай «устабілізаванасці» тутэйшага твайго быцця, побыту; з заспакоенасці якой-кольвечы выгодай і з замацаванага і ціхамірнага існавання на дадзеным табе лёсам лапіку зямлі... Варта толькі перасягнуць мяжу здабытага абшару, нават не ляцець у Афрыку, а толькі пераехаць, прыкладам, у Польшчу, як ты зразумееш, што, кажучы штампам, тваім месцам пад небам жыццё не канчаецца, і што нават побач жывуць людзі інакш — і лепш; і што суседняя зямля як бы трохі і ласкавейшая, і вальнейшая для цябе. І табе, госцю, на ёй, прынамсі, прыемна і добра. Прыемна і добра зусім не таму, што ты тут госць, і да цябе асаблівая ўвага гаспадароў, — а таму, што тут было б прыемна і добра ў кожным разе...***

Юрась ЗАЛОСКА

# ГОРАД МІЛОСЦІ

ЭСЭ

Люблін дыхае свабодай і мілосцю. Нават назва яго, відаць, звязана менавіта з пачуццём, а не з гаспадаркай. Тут на дых адчуваеш пахі стогадовай даўніны: пах Вялікай Брамы, муроў Трыбунала (рэчпаспалітага), вулак, што захаваліся ў тым нязменным выглядзе, які здаўся найбольш зручным габрэям-будаўнікам... Падчас блукання па гэтых вулках нечакана ўзнікла і надалей стала захоўвалася асацыяцыя: пах каменна-цаглянага муру нагадаў мне, беларускаму вяскоўцу, пах выкладзенага цэглай долу ў старых сялянскіх хатах — ад печы да святліцы... Пах цэглы, камення і глебы — утоптаны безліччу пашэрпаных босых ног... Так і ў Любліне, з той толькі розніцай, што яго каменне ўтаптана нагамі вяльможнай магнатэрыі і вышніх каралёў, спаважнай шляхты і работнікаў, гандляроў, святароў, чэлядзі... А таксама — княскім войскам і коньмі, адвечнымі спадарожнікамі чалавека на крывавыя сечы...

Але бог Малох не пасяліўся ў гэтым горадзе; не стала яму на гэтай зямлі неабходнай меры жорсткасці, бо горад гэты вабіў адпачатку іншых багоў — багоў кахання і працы. Легкадумны Эрот знайшоў тут сваё гаспадарства, а на працу блаславілі тутэйшы люд біблейскія запаветы. У каханні і працы і паўстаў шматгалосы і многанацыянальны Горад Мілосці — Люблін.

І Горад Мудрацоў. Да 1939 года з ранейшых часоў існавала ў Любліне знакамітая юдэйская Акадэмія Мудрацоў, сусветна вядомы цэнтр габрэйскай тэалагічнай думкі і практыкі. З пасляваеннага часу гэтая назва — «Акадэмія Мудрацоў» — падпольным чынам замацавалася за універсітэтам М. Складоўскай-Кюры, другой, поруч з Люблінскім каталіцкім універсітэтам, вышэйшай навучальнай установай горада. Зараз ад габрэяў у Любліне застаўся бадай толькі дух места — дух гэтых, з любасцю злепленых вулак, цагляных брам ды пляцаў...

Касцёл і касцельная культура — другі, не менш адчувальны і мацавальны дух Горада Мілосці. Калі ўранні за некалькі хвілін з дому можаш патрапіць у Катэдральны касцёл альбо касцёл Св.Станіслава, дзе маліліся супольнікі па знакамітай Люблінскай уніі 1569 года, і дзе, па іншых звестках, яна і была падпісана, — і замест «фіззарадкі» можаш адвесці душу ў судачыненні з вечным, — дык гэта і робіць тваё маленькае жыццё блізкім да вечнасці. Ты, такім чынам, як бы пасяляешся надта блізка да Неба...

Не раз, пасля прыяцельскай «інтэлектуальнай» канферэнцыі, што й сабрала нас у Любліне, стомленыя, заходзілі мы ў люблінскія касцёлы і дзейныя кляштары падчас вячэрняй імшы... Губляецца адчуванне часу. І дзе, у якім часе знаходзішся — сённяшнім, учарашнім, спракаветным, — не ведацьмеш. Надта бо высокае паднеб'е ў Касцёла, і хоць ты адчувальна і прыціснуты долу гэтай непарушна-арганнай веліччу, разам з тым ні на хвілю не адчуваеш сябе расціснутым. Ты — не ў Доме, а ў Крэпасці, надзейна абароненай ад нападу і замаху звонку. Ты — у Крэпасці, што ратавала і выратавала Польшчу.

Пра «аздараўляльны фактар». Замежжа, самае блізкае, неяк ураз пазбаўляе ілюзій наконт уласнай радзімы. Меры крывадушнасці айчынных чыноўнікаў, хто гойсае па свеце куды часцей, чым ты, прыватная асоба, табе ніколі не зразумець... І не даравацъ. Бо здабываць, ажно пішчэць, асалоду ад замежжа і пальцам не паварушыць, каб зрабіць «замежжа» ў сябе дома, — гэта верх крывадушша. Таму «аздараўленне замяжою» выяўляецца ў яшчэ больш узрослым пачуцці пагарды да гаспадароў твайго краю... Як хутка мы забыліся, што рабілася з нацыяй (і што ёй самой не зроблена) паўз стагоддзе; якой мерай варожасці і антычалавечнасці ў адносінах да народа павінны былі валодаць колішнія і цяперашнія «кіраўнікі»... Палякі падобных адносін да сябе не забылі. Ім пашанцавала: ім памаглі пазбавіцца ад няпрошаных «гаспадароў» Караль Вайтыла, Лех Валенса і Збігнеў Бжэзіньскі (наследую думку С. Максімовіча, аўтара «Свабоды»). Памог, несумненна, і Пан Бог, што мае звычку спрыяць тым народам, у каго памкненне да волі — іманентнае.

«Аздараўляльнасць» Любліна і Польшчы выявілася яшчэ ў зразуменні кантрасту паміж мерай цеплыні чалавечых адносін там і тут. Бо ж дома ці ў тым месцы, дзе знаходзіцца твой дом, **любая** мера зносін — з-за прывычкі — як бы нармальная. Але ты жывеш тыдзень у гэтым нязнаным горадзе, нязнанай краіне; млееш ад асалоды, калі кожны стрэчны да цябе звяртаецца не йнакш як «пан»!..» (і ты да іх — гэтак жа); калі **ніводнага разу** ты не пабачыў міны неўразумення ці нядобразычлівасці з нагоды тваёй мовы; камусьці тваё меркаванне падалося цікавым і цябе даслухалі да канца... Ты да ўсяго гэтага ГАТОВЫ, прымаеш ЯК НАЛЕЖНАЕ, быццам заўсёды і жыў такім жыццём, і толькі на нейкі тэрмін — у Беларусі — адвык... Таму на гэты раз з разуменнем успамінаеш настальгію старэйшых вясковых дзядзькоў — «заходнікаў» — па дакамуністычных часах, калі край фактычна быў вернуты ва ўлонне тае самае федэратыўнае дзяржавы, аблічча якой пачало знікаць і знікла пры канцы XVIII стагоддзя. У XX стагоддзі Польшча вярнула сабе дзяржаўны статус і шляхотны стан, як птушка Фенікс паўстала з небыцця; і хіба ж чужы вызвольны чын не варты ўсіхняй павагі?..

Цяпер, здаецца, я разумею, **чаму** служылі свабодзе **Польшчы** Каліноўскі і Касцюшка (пры ўсёй розніцы іх асоб): яны як наёмныя князі ў старажытнасці прыходзілі ўзначаліць збройны чын суседняга народа, вартага таго ўзначалення і гатовага на барацьбу і ахвяры. Гэта тае гатоўнасці не было дома... Болей таго, я разумею і змаганне падчас Другой сусветнай вайны, калі і Армія Краёва, і польскі савецкі корпус, і эміграцкі ўрад, і варшаўскае (кракаўскае, люблінскае, радамскае... ) падполле змагаліся **за вызваленне і выратаванне сваёй Радзімы** — Польшчы. У самой Польшчы, мы змаглі пераканацца ў гэтым, пра вайну сёння гаварыць не любяць і не імкнуцца (у адрозненне ад нас), хоць, несумненна, памятаюць усё. Аднак жыве і ідзе Польшча ў заўтра, гжэчна захоўваючы кляштары і касцёлы, звычкі і набожнасць, і, вядома ж, неадменную прагу экспрэсіі... Польшча застаецца Польшчай.

Дарэчы, пра Касцюшку. Гэта няпраўда, быццам там, у самой Польшчы, ніякіх угодкаў паўстання не святкуецца. Напэўна, святкаванне — найперш памяць, памяць унутраная, інтэлектуальная, грамадскае ўсведамленне прысутнасці асобы, з'явы, падзеі ў сучаснай культуры і гісторыі. Што да прысутнасці Тадэвуша Касцюшкі ў сучаснай польскай свядомасці і культуры, то якраз падчас нашага побыту ў Любліне польскае тэлебачанне дало цыкл перадач, прысвечаных чыну Касцюшкі; з асэнсаваннем з'явы паўз усю пазнейшую гісторыю Польшчы, ажно да выкарыстання адпаведнай сімволікі польскай моладдзю ў нядаўніх, 80-х гадах... Так што святкаванне святкаванню розніца. Найлепш жа, калі даецца магчымасць святкаваць асэнсавана альбо не святкаваць, і дзяржава «ўсепаспалітага» святкавання не навязвае.

...Калі мы яшчэ толькі па прыездзе ўздымаліся па Любартоўскай паўз каралеўскі палац у стары горад, то я міжволі адзначыў падабенства Любліна і Вільні, і трошкі — нашай Гародні... І зразумеў, што тая рэальная сярэднявечная дзяржава трох ці болей народаў праз гэтае падабенства сведчыцца: аднолькавым пахам вулак, кавярань і парфумы; аднолькава разmaітым шматгалоссем, блізкасцю касцёла і царквы, святасці і весялосці, кахання й смерці... Менавіта нас, блізкіх суседзяў, сабрала ў Любліне культурная канферэнцыя «Эрас і Танатас» (у кантэксце духоўнасці народаў Сярэдняй і Усходняй Еўропы). Палякам цікавая гэта тэма. Ім увогуле цікава ўсё, што робіцца і думаецца ў нас, у Беларусі і на Украіне. Таму асады гутарак былі практычна неабмежаваныя, і праз тое беларусы, украінцы і палякі былі самі сабой. Найбольш украінцы, і, трохі меней, беларусы. Нам цікава было пачуць спавешчанне прафесара Ш. з Кіева аб раскопках арыйскай цывілізацыі ва ўкраінскіх стэпах... Даведацца аб эратычным элеменце ў старажытных украінскіх галашэннях і сучаснай паэзіі... Пачуць ад прафесара эзатэрыкі П. з Варшавы аб антрапасофскім адраджэнні ў Еўропе і, у прыватнасці, у Польшчы... Падзівіцца з нагоды літаратурных эксперыментаў (пра гэта распавялі беларусы) пані Уршулы Радзівіл у пару Барока... Спасцігнуць (пра гэта таксама распавялі беларусы) ролю арганнай культуры ў Беларусі і долю інфернальнага змесціва ў творах Васіля Быкава... Натуральна, гэткія «дзіўныя дзівы» ідэалёвыя ў пару кунегі інтэлектуальнай на радзіме дужа пацешылі прыватных асоб з Кіева, Львова, Драгобыча, Вільні, Менска, Свіслачы... А яшчэ беларусы і ўкраінцы ўлякнуліся той ступені непаінфармаванасці адно аб адным, што выявілася падчас супольных вячэр і шпацыраў вакол Трыбунала. Аказваецца... Заходняя Украіна нібыта ўсур'ёз рыхтуецца да магчымага падзелу краіны на дзве падняпроўскія часткі, і дзесь у гушчарах карпацкіх кодраў нібыта сапраўды выстангоўваюць шыхты ўкраінскіх народных мсціўцаў... І нібыта можа быць вайна за незалежнасць і вольнасць Украіны... Аказваецца, менавіта дастаразапаветныя арыі заклалі грунт фізічнай і духоўнай моцы ўкраінскай нацыі, і пра гэта Украіна хутка будзе ведаць і з таго чэрпаць сілы ў змаганні з усходнім суседам... Аказваецца, беларускае Палессе цікавіць кіеўскіх інтэлектуалаў (прынамсі, прыяцеляў па Любліне) не ў такой страхотнай меры, як гэта часам бачыцца з Беларусі. — Не больш чым «дужа цікавы» ў этнаграфічным плане рэгіён з праявамі таго і сяго, але найбольш — свайго, паляшуцкага (г. зн. беларускага).

Кіяўлян і львавян, насупраць, падзівілі парадкі, што робяцца ў беларускай Вярхоўнай Радзе; і агульная таямнічасць і глыбокая прыхаванасць ад суседзяў такога фактару, як «беларуская палітыка»... Свайго подзіву з гэтай нагоды не хавалі і самі беларусы... Аказваецца, ёсць на Беларусі Беларускі народны фронт і Зянон Пазняк, але няма дзейснай парламенцкай і выбарчай сістэмы; аказваецца, ад савецкай вясны 1990 года ў краіне не было ні выбараў, ні якога-кольвек іншага агульнанароднага плебісцыту ці то волевыяўлення, і «беларуская палітыка» дагэтуль чыніцца зрусіфікаванымі сакратарамі райкамаў і абкамаў... і такім чынам усё больш набывае рысы карнавалу і гульбішча падчас чумы... Аказваецца, пісьменнікі беларускія ўсё яшчэ чагось **просяць** ва ўлады... Зрэшты, як высветлілася, на Украіне іх калегі таксама працягваюць прасіць, але і ў іхняй пісьменніцкай суполцы, падобна, канчаткова перамагла камерцыйная тэндэнцыя і рух да ўнікнення ад павеваў зменлівай рэальнасці...

Бакі даведаліся пра рознае аблічча сваіх «нацыяналізмаў»: за «ўкраінскі нацыяналізм» этналінгвіст з Львоўскага інстытута людазнаўства Раман К. пяць гадоў правёў у высылцы на Поўначы, вывучаючы пахавальны абрад паўночных народаў; затое зараз працуе ў акадэмічным інстытуце і ездзіць у камандзіроўкі ў Польшчу; але гаворыць не пра «ўкраінскі нацыяналізм», а — пра «транзістарную функцыю пахавальнага абраду як універсальнай з'явы». Што да беларусаў, дык яны ў вачах кіеўскіх прыяцелек пакінулі па сабе ўвогуле нявыяўленую, хоць і «болей ад усіх» шляхотную сутнасць... І таго нельга не адзначыць.

Зрэшты, было і намі што-кольвек сказана. «...У заключэнне дазвольце сказаць некалькі слоў па-за тэмаю выступлення, выказацца, так бы мовіць, у «агульным парадку». Як здаецца, хада падзей ад пачатку 80-х гадоў прывяла нашыя краіны да стану, калі нацыянальная інтэлектуальная эліта пасунута ад уплыву на духоўнае жыццё і развіццё сваіх нацый. Уплыў гэты зараз вызначаюць пабочныя і — у саміх краінах — маргінальныя сілы. У гэтых адносінах, на наш погляд, наша агульнае становішча падобнае. Напэўна, таму, як і ў беларусаў, гэтак і ва ўсіх нашых суседніх краінах, інтэлектуалы, апроч свайго непасрэднага духоўнага занятку, мусяць вызначацца і адносна палітыкі і гістарычнай эвалюцыі сваіх краін...

Што датычыць «беларускай сітуацыі», то, мушу падкрэсліць, фактычная палітычная эвалюцыя ў нас моцна замаруджана, можна нават сказаць — зацыклена на ўзроўні 1985 года. І гэта не можа не выклікаць глыбокага скепсісу і незадавальнення інтэлігенцыі і інтэлектуалаў. Як на наш погляд, дзяржава наша — Рэспубліка Беларусь — дагэтуль не сцвердзіла свайго ідэнтытэту, не рэпрэзентавала як след сваёй мовы, культуры і знешняй палітыкі. Адсюль гратэскавыя супярэчнасці, якія можна назіраць у Беларусі: Беларусь — але нібыта і без беларускай мовы, Беларусь — але нібыта без беларускай культуры, Беларусь — як бы і без палітыкі... Беларусь — бела-руская. Хацелася б, каб вы гэта разумелі...

Прычыны гратэскавага стану ў Беларусі палягаюць найперш у замаруджанасці дэмакратычнага працэсу. Менавіта таму лепшыя сілы інтэлігенцыі воленс-ноленс мусяць удзельнічаць у палітыцы, у палітычным руху Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», як найбольш пасіянарнай палітычнай сіле ў Беларусі. Інтэлігенцыя наша, па сутнасці, толькі ўступае ў барацьбу за змены, і ці

(Працяг на стар. 12)



*Калаж Уладзіміра БОЙКІ*

## ТАЛАКА — СПРАВА НАДЗЕЙНАЯ

**Не так даўно любілі ў нас выпускаць розныя калектыўныя кнігі (найчасцей, каб лішні раз падкрэсліць дружбу народаў), падрыхтаваныя ў некалькіх колішніх саюзных рэспубліках. Цяпер — не да гэтага, тут хоць бы самім, як кажуць, выжыць. А між іншым, талака — справа надзейная. І за гэта гаворыць такі прыклад.**

**Нядаўна ў выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшаў слоўнік навуковай і народнай тэрміналогіі «Усходне-славянскі фальклор». Выданне гэтае унікальнае тым, што зроблена першая спроба ў славянскай навуцы стварэння зводу фальклорных тэрмінаў і паняццяў. А паколькі ўсходнія славяне — гэта і рускія, і ўкраінцы, і беларусы, дык Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Акадэміі навук Беларусі рыхтаваў слоўнік сумесна з Інстытутам сусветнай літаратуры Акадэміі навук Расійскай Федэрацыі, Інстытутам мастацтвазнаўства, фальклору і этналогіі імя М. Рыльскага Акадэміі навук Украіны, Усходнеславянскай секцыяй Камісіі па славянскім фальклоры пры Міжнародным камітэце славістаў і Навуковым саветам Акадэміі навук Расійскай Федэрацыі па фальклоры.**

**Акрамя, так сказаць, асноўных, афіцыйных выканаўцаў, у стварэнні слоўніка прымалі ўдзел і многія фалькларысты навукова-даследчых і вышэйшых навучальных устаноў Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева, Мінска, Варонежа, Курска, Екацярынбурга, Чэлябінска, Іркуцка, Петразаводска і іншых гарадоў.**

**Артыкулы ў слоўніку размешчаны ў алфавітным парадку рускай мовы. Адразу ж за рускім тэрмінам ідуць адпаведныя беларускія і ўкраінскія тэрміны. Калі ж яны з рускімі не з'яўляюцца аднакарэннымі, ці пачынаюцца з іншай літары, тады прыводзяцца з адпаведнай спасылкай на рускі варыянт, што, безумоўна, зручна ў карыстанні.**

## Л. ПРОКШУ — МЕДАЛЬ ІМЯ К. СІМАНАВА

**Журы Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў, што прайшло пад старшынствам мастацкага кіраўніка І. Стаднюка (літаральна праз некалькі дзён Іван Фоціевіч заўчасна пайшоў з жыцця), прысудзіла за лепшыя творы на ваенна-гістарычную тэму медалі імя Канстанціна Сіманава.**

**Сярод узнагароджаных — і наш Леанід Прокша. Медалём, які носіць імя выдатнага пісьменніка, чый прах па яго завяшчанні развеяны над Буйніцкім полем пад Магілёвам, адзначаны раман Леаніда Януаравіча «Туніка Неса». У гэтым творы Л. Прокша расказвае пра сумесную барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі людзей розных нацыянальнасцей. Галоўны герой рамана беларус Уладзімір Антоненка, вывезены на катаржныя работы ў Францыю, на востраве Алерон узначальвае групу Супраціўлення.**

## «МАСТАЦТВА», N 5

**Нумар адкрываецца публіцыстычнымі нататкамі В. Вайткевіча «Слугаванне мысляра» — філасофскае асэнсаванне... дэмакратыі.**

**У раздзеле «Тэатр» — матэрыялы Л. Чарнышовай «Беднасць — не загана», Л. Грамыкі «Тэатральная ідылія?», Т. Ратабыльскай «У дыялогу з класікай». З актрысай Т. Ліхачовай гутарыць М. Манохін — «Драматургія — гэта поліфанічная музыка». Л. Грамыка запісала маналог А. Перавожкінай «Характар — гэта ўчынкі, учынкі — гэта лёс».**

**А. Саламаха дзеліцца ўражаннямі ад замежнай паездкі — «З іспанскага дзённіка». Змешчаны артыкул І. Вядзеніна «Скрыпачы-віртуозы гастралююць на Радзіме», слова А. Марціновіча «Палымнее зорка Равенскага» і перадрук артыкулаў У. Глыбіннага «Да гісторыі першае беларускае оперы» і А. Карповіча «Апошні твор Равенскага» з часопісаў беларускага замежжа.**

**Прадстаўнічы раздзел «Выяўленчае мастацтва» — «Інсіта» В. Лабачэўскай, «Апраўданне інсітнай копіі» Л. Вакар, «Не рабіць з яго прафесіі» Н. Усавай, «Вобраз, што хвалюе многіх» І. Пярэрвы.**

Крытыка

# КАБ НЕ ЗМЕРЛА ДУША

Наспеў час мастацкай літаратуры, мастацкага слова вярнуць народу яго мінулае, яго духоўную, культурную спадчыну. На хвалі адраджэння арганічна ўваходзяць сёння ў нашу свядомасць забытыя ці жывасілам закрэсленыя імёны, ажываюць у літаратурных творах постаці тых, хто верна служыў сваім талентам беларускай ідэі. Людзі дзівоснага лёсу, людзі легенды... Яны становяцца сёння героямі мастацкіх кніг. Прыгадаем раней надрукаваныя кнігі В. Хомчанкі «Пры апазнанні — затрымаць», В. Карамазава «Крыж на зямлі і поўня на небе» і інш. І. Жарнасек прымушае сваёй кнігай адарвацца ад будзённай прозы жыцця з яго прагматычнай жорсткасцю і зірнуць вакол сябе. Зірнуць удумліва, спыніўшыся ад задушліва-імпэтнага руху за штохвіліннымі радасцямі.

Кнігу І. Жарнасек складаюць тры невялікія аповесці — «Гульні над студняй», «Апошняя дзея», «Мона Літа». Усе яны ўздымаюць балючыя для нашага часу пытанні. Лёс беларускай эміграцыі, духоўна-гістарычная, культурная спадчына беларусаў, нацыянальны манкуртызм, маральная непадрыхтаванасць, душэўная спустошанасць, страта сапраўдных жыццёвых каштоўнасцеў і арыентацый сучаснымі маладымі, трагедыя адзінокай, бездапаможнай старасці — гэта і шмат што іншае становіцца аб'ектам пільнай увагі, мастацкага асэнсавання.

Яшчэ ў далёкім юнацтве падаўся на чужыну Казімір Лавэйка. Падаўся, баронячы сваю чалавечую годнасць, ратуючыся ад бацькавай пагарды, гневу, зацятасці. Жылі некалі Лавэйкі немалой сям'ёй — трое дзяцей, бацькі. Праўда, не ўсё і не заўсёды ішло шчасліва. Адзін з хлопчыкаў быў калека, але старэйшы цешыў бацькавы спадзяванні. Толькі марам не наканавана было здзейсніцца. Богусь, старэйшы брат Казіка, у час хлапечых гульняў над студняй трагічна загінуў. Бяздумныя хлапечыя гульні... Здаецца, тое ж, што і ў Коласа ў апавяданні «У старых дубах». Аднак далейшае развіццё сюжэта скіроўвае ўвагу чытача на іншае. Зноў і зноў узнікае дакорлівае адчуванне віны дарослых перад дзецьмі. Боль, адчай пазбавілі бацьку натуральнай, разумнай арыентацыі ў жыцці. Вінаватым ва ўсім, што адбылося, ён лічыць Казіка. Ніхто і нішто не змякчае і не змяняе іх адносін.

У далёкую Аргенціну вынес жыццёвы лёс таленавітага юнака. Давялося з вялікімі намаганнямі даказваць чужой краіне, чужым людзям сваё права на месца пад сонцам. І хоць пусціў Лавэйка карэнне ў чужой зямлі, аднак сувязі з далёкай радзімай не абарваліся. Арганічна, неназойліва даносіць аўтар думку пра тое, што на чужыне хлеб «нялёгкі, што жыве ў душы голас зямлі свае». Ён можа гучаць мацней, можа прабівацца ледзь чутна, а можа нечакана і ўладна паклікаць дадому, можа прымусіць пражыць жыццё яшчэ раз. Тое жыццё, што было да чужыны.

Сюжэт аповесці развіваецца напружана, дынамічна. Увага скіравана на раскрыццё лёсу беларускага эмігранта, але за ўсімі перыпетыямі жыцця Казіміра Лавэйкі бачым і сябе, сённяшніх. Толькі ўбачаных збоку, абвостраным позіркам. З'ява эміграцыі была, ёсць і будзе, відаць. І да яе нельга ставіцца адназначна. Як нельга ні абурацца, ні захапляцца тымі, у каго хапіла рашучасці пакінуць свой кут, адрэзаць сябе ад айчыны. Трагічным бачыцца жыццё Лавэйкі, яго жонкі Юратэ на чужыне. Але не менш уражвае расказ Рэні пра ўсе, што чынілася на радзіме, у Гарчаках, праз увесь астатні час. «Той год з Гарчакоў, можа, гаспадароў з дзесяць, калі не болей, з'ехала. Прадавалі хаты, збывалі гаспадарку, за лішні рубель не стаялі і выпраўляліся — без дакументаў, не атрымаўшы апошняга заробку». Праз споведзь жанчыны паўстае калгасная рэальнасць, прыгонніцкая залежнасць чалавека ад дзікунскіх законаў і самадурства мясцовага начальства. Таго ж Дубава, напрыклад. І людзі шукалі месца, дзе можна прыжыцца. Галоўным для іх было — дзе вальней. Аповесць, як і ўся кніга прозы І. Жарнасек, вучыць разуменню чалавека ва ўсёй складанасці дачыненняў з рэчаіснасцю.

Варта адзначыць і тое, што празаік свабодна і арганічна карыстаецца прыёмам асацыятыўнага мыслення, арганізуючы сюжэт у адзінае мастацкае цэлае. Аповесць выклікае цэлы шэраг думак, разваг, пачуццяў. Можна, вядома, захапіцца знешнім дабрабытам, экзотыкай краю, дзе праходзіць жыццё Лавэйкі. Ёсць і дастатак, і стабільнасць, і дачка; і жонка была, якую так любіў, так шанаваў, і рукі здатныя, і душа мастакоўская... А вось тут якраз і з'яўляецца штосьці новае ў адчуваннях героя. Гаркота, якая ідзе ад таго эмацыянальнага холаду і адзіноты, што поруч з героем усё жыццё, ад марна загубленага сапраўднага дару творцы, Майстра. Шкадаванне, што не рэалізаваўся гэты дар нідзе. Ні ў далёкай Аргенціне, ні ў роднай старонцы. Тут не паспеў, там не змог. Балюча гучыць маналог-успамін Казіміра Лавэйкі пра шчасце мастака проста тварыць. Сапраўдны творца — да такой думкі прыходзіць герой — павінен быць вольны , як птушка. Вольны як у сваіх творчых памкненнях і марах, так і ў звычайным жыцці. Незалежны ад улады, абставін, рэчаў. Менавіта тады самім сваім існаваннем, свабодным і творча апантаным, ён нясе радасць іншым. Прынамсі, такім быў лёс і творчае аблічча мастака Язэпа Драздовіча, з якім аднойчы ў юнацтве давялося сутыкнуцца Казіку Лавэйку.

Гаворка з Чаропкам пра мастака-вандроўніка ўразіла нечым далёкага госця. Можа, закранула глыбока тая жорсткая фраза Адася адносна таго, што не перавяліся на Беларусі людзі, якія не толькі вантробам сваім служаць.

Дбае пра душы людскія аўтар кнігі «Гульня над студняй» і тады, калі піша пра адзінокага, нямоглага дзеда Ольгуся, што дажывае свой век у доме для састарэлых. А некалі ж, у далёкім юнацтве, спяваў у Буйніцкага. Далёкія і несучасныя дзівакі: пан, які аддае мастацтву, народнай песні ўвесь свой дабрабыт, які здольным вясковым спевакам плаціць са сваёй кішэні. Другі – здольны да спеваў сялянскі сын, у якога апроч таленту ды маладой красы нічога не было. Хлопец адчуў сілу, уладу таленту і не можа жыць як звычайны селянін.

Часам у сваім абурэнні жорсткай рэальнасцю, глухатой, бяздушшам пісьменніца прыходзіць да значных сатырычных абагульненняў. На фоне бездапаможнай і даверлівай старасці асабліва ўражваюць настырна глухія дзеячы ад журналістыкі. Ёсць горкая праўда нашага жыцця ў словах дзеда Ольгуся, што і Буйніцкага, і яго ўспамінаюць адно з нагоды чарговага юбілею. Традыцыйна пацікавяцца, трафарэтна павіншуюць, каб забыцца да чарговых урачыстасцяў. Недарэчна выглядаюць тыя прывялыя ружы, якія з такой урачыста-халоднай прамовай паднесла журналістка старому спеваку. Не хапіла душы, цяпла і спагады, каб сказаць дзядулю нешта чалавечнае, а не казённа-параднае з апеляцыяй да прагрэсіўнай грамадскасці. Паўторым, што гучыць такое і здзекліва, і

---

*Ірына Жарнасек. Гульні над студняй. Аповесці. Мн., «Мастацкая літаратура», 1993.*

Сярод кніг

# «МЯНЕ БЕЛАРУСЬ ЗБЕЛАРУШВАЕ»

Чаго добрага, хутка зусім забудземся пра такое светлае паняцце, як дружба народаў. Несумненна, у гады таталітарызму яно часам мела завельмі палітызаваны аспект. І ўсё ж, пагодзімся, народ з народам па-сяброўску жыў. Асабліва тыя, хто здаўна суседзямі з'яўляюцца. Як, напрыклад, беларусы з украінцамі. Ды што шмат разважаць, лепш нагадаць словы з верша «Друзі» Міколы Братана:

**Я ласкай гасцінная узрушаны,**
**Гукаю шчасліваму выраю:**
**— Мяне Беларусь збеларушвае,**
**Чаруючы моваю шчыраю.**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**Я дружбай багат непарушнаю,**
**Ёсць новыя друзі — сябры!**
**І дома, да гэтай пары,**
**Мяне Беларусь збеларушвае.**

«Беларусь мяне збеларушвае» — так называецца і свайго роду паэтычная анталогія дружбы, сяброўства, выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Кніжка унікальная і тым, што ў ёй прадстаўлены творы шмат якіх паэтаў — як далёкага, так і цяперашняга бліжняга замежжа — пра Беларусь і беларусаў, пра тое, як словы гэтыя, адгукаючыся ў братніх душах, выклікаюць пачуцці павагі, захаплення братнім народам. Але, бадай, адметнасць зборніка і іншым. Не сказаць, каб падобныя выданні не практыкаваліся раней. Той жа «Мастацкай літаратурай» яны, як правіла, выпускаліся да розных юбілейных дат, найперш да чарговай «круглай» гадавіны з дня ўтварэння СССР. А тут жа вершы, падабраныя адным перакладчыкам — Рыгорам Барадуліным.

Хто-хто, а Рыгор Іванавіч мае дасканалы мастацкі густ. Ды і яго нельга западозрыць у кан'юнктуры. Калі ўжо адбірае штосьці для перакладу, дык гэта сапраўды напісана па душэўнай патрэбе, неабходнасці выказаць набалелае, тое, што прагне споведзі.

Гэта бачна ўжо з першага раздзела зборніка — «Твае снягі світаюць...» Ёсць у ім і хрэстаматыйныя радкі. Як, напрыклад, верш Яраслава Смелякова «Беларусам»: «Парадніліся не па прымусу, па размаху сваёй дабраты, беларусы мае, беларусы, па крыві і па духу — браты». Ёсць і творы, якія цытуюцца (правільней, цытаваліся да нядаўняга часу) радзей, але і ў іх тая ж любоў, тая ж павага да беларусаў — С. Кірсанава, Б. Пастэрнака, І. Эрэнбурга, А. Вазнясенскага, Я. Еўтушэнкі, Я. Хелемскага...

Згаданыя імёны і творы, як і некаторыя іншыя, уключана ў падраздзел «З расійскае паэзіі». Не менш прадстаўнічы і другі — «З украінскае паэзіі». Ужо згаданы М. Братан, а таксама — Д. Паўлычка, І. Драч, А. Юшчанка, У. Лучук, Т. Каламіец, Р. Лубкіўскі...

«Зялёнаму небу» — другі раздзел кнігі. У ім

Прэзентацыі

# ТОЕ, ШТО ПАТРЭБНА НАЦЫІ

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі апошнім часам сталі рэгулярнымі прэзентацыі кніг. Нядаўна прайшла чарговая з іх. Чарговая, але не радавая. Па-першае, адна з кніг, што былі прадстаўлены, належыць да тых, якія з'яўляюцца не часта, пішуцца гадамі, нараджаюцца дзякуючы апантанай, падзвіжніцкай працы. Гэтая кніга — «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» Міколы Ермаловіча. А, па-другое, яна пабачыла свет не ў дзяржаўным выдавецтве, а ў Выдавецкім цэнтры «Бацькаўшчына». Прэзентацыя кнігі адначасова стала і прэзентацыяй гэтай выдавецкай структуры.

Што ж уяўляе сабой ВЦ «Бацькаўшчына»? Пра гэта падрабязна расказаў яго кіраўнік Яўген Лецка. Недзяржаўных выдавецтваў у нашай дзяржаве шмат, зазначыў ён, але прадукцыю, якую выпускаюць яны, часам нават брыдка прэзентаваць: гэта пераважна «лёгкае чціва», мастацкія сурагаты. Толькі некалькі недзяржаўных выдавецтваў пастаянна выпускаюць беларускую літаратуру. Гэта выдавецтва «Хата» пры Беларускім дзіцячым фондзе, Беларускі гуманітарна-асветніцкі цэнтр, а таксама Выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына». Я. Лецка зазначыў, што «Бацькаўшчына» арыентуецца на выпуск кніг, якія патрэбны не нейкаму чалавеку, а ўсёй нацыі. Найперш гэта літаратура адраджэнскага кірунку. Ужо выйшлі «Пад сінім небам» Н. Арсенневай (факсімільнае перавыданне яе першага зборніка), «Успаміны» В. Рагулі, «Мой радавод да пятага калена» У. Арлова, «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў» П. Урбана. У гэтым шэрагу, безумоўна, сваё адметнае месца займае кніга Міколы Іванавіча Ермаловіча. Яна працяг яго папярэдняй кнігі «Старажытная Беларусь. Навагародскі перыяд».

Стаўшы самастойным Выдавецкім цэнтрам «Бацькаўшчына» (раней выдавецтва было ў структуры Згуртавання беларусаў свету), яно можа больш шырока разгарнуць сваю дзейнасць. Вядома, сёння выданне кніг вымагае шмат матэрыяльных выдаткаў, тым не менш ВЦ «Бацькаўшчына» жыве не толькі днём сённяшнім. Запланаваны выхад шэрагу новых цікавых кніг. Сярод іх — «Талісман» Ніла Гілевіча, народнага паэта Беларусі, знакамітага дзяржаўнага дзеяча, чый голас у абарону суверэнітэту Беларусі, у падтрымку нацыянальнага Адраджэння знаходзіць водгук у сэрцах народа. «Нятусклая краса» — кніга паэзіі цудоўнага паэта Алеся Салаўя, чыя творчасць, на жаль, пакуль што на Радзіме вядома далёка не ўсім, паколькі ён памёр у эміграцыі, а вядома, як да нядаўняга часу ставіліся да тых, хто пакінуў Радзіму. Плануецца выдаць яшчэ дзве кнігі пісьменнікаў-эмігрантаў. Гэта — «На крыжовай дарозе» Аўгена Калубовіча і «Масква — Кітай — Сібір» Язэпа Германовіча. Многія з задавальненнем пазнаёмяцца і з Беларускім народным соннікам», які падрыхтаваў Уладзімір Васілевіч. Плануецца кніга Юрася Залоскі «Версії».

Я. Лецка гаварыў і пра іншыя выданні, расказваў аб тым, як ВЦ «Бацькаўшчына» прымае захады, каб знайсці людзей, гатовых аказаць падтрымку яго выдавецкай дзейнасці, а значыць — і справе нацыянальнага Адраджэння.

А пра кнігу М. Ермаловіча гаварылі на прэзентацыі дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіна Алейнік і загадчык аддзела

недарэчна. Нямоглы Ольгусь і тут аказаўся пачалавечы прыгожым і шчырым: неверагодных намаганняў каштавала яму перамагчы звыклую немату адзіноты і заспяваць услых. А як жа іначай? Пашкадуем маладых, бо не выканаюць заданне, застануцца без грошай.

Аднак дзед не толькі знайшоў сілы заспяваць, але і выказаць жорсткую праўду. У бяспамяцтве дзяцей павінны бацькі, але яшчэ большая віна кладзецца на ўладу, на работнікаў культуры, сродкі масавай інфармацыі. Знішчана, згублена вялікая культура народа: «Паляцелі тыя песні ў вырай, — неспадзявана гучна і выразна прамовіў дзед Ольгусь. — Некалі на край свету мог бы ісці і на ўсю дарогу хапіла б мне песень, а цяпер... Трэба тады было запісваць, як песня была жывая, як людзі яе пялі! — ён ужо крычаў і не выціраў болей твару. — Забыліся людзі на сваю песню, скамечылі яе, парвалі, шматкі на вецер пусцілі. Дагані яе цяпер паспрабуй на сваёй машыне!»

Са старонак кнігі І. Жарнасек праступае дужа непрывабная наша рэальнасць.

Аповесць «Мона Літа» ўзнімае тыя праблемы, з якімі даводзіцца сустракацца сучаснаму юнаку ці дзяўчыне на парозе самастойнага жыцця. І найперш гэта тычыцца поўнай непадрыхтаванасці моладзі да складанасцей жыцця.

За сваімі клопатамі, праблемамі дарослыя, бацькі не ўмеюць ці не хочуць убачыць і зразумець сваё дзіця. Быць яму добрымі дарадцамі, лячыць дзіцячую душу. І асабліва такая разумная ўвага і спагадная чалавечнасць патрэбны тады, калі дзеці выраслі. Ёсць балючая праўда ў словах Літы, калі яна папракае маці: «Мне, часам, здаецца, вам зручна, каб я ўвесь час была малая. Вы мне і цяпер гатовыя соску тыцнуць у рот — абы я не надумалася што-небудзь небяспечнае запытаць. Вы ўвесь час нечага баіцеся. Але чаго? Вы быццам і не заўважылі, што пакуль трэсліся, я неўпрыкмет вырасла ды яшчэ і сама нарадзіла дзіцятка». Фізічна, сапраўды, выраслі, але не акрэплі маральна, духоўна. Не навучыліся разумець, адрозніваць сапраўднае ад уяўнага, знешні бляск ім часта засланяе натуральнае, без памкненняў на вонкавую выключнасць.

Чытаеш кнігу і зноў у каторы раз адчуваеш глыбокую трывогу пісьменніцы: ці ёсць перспектыва, будучыня ў грамадства, якое дбае толькі пра матэрыяльнае? Хваробы часу, хваробы нашай краіны тут акрэслены выразна і пamастацку пераканаўча.

**Тамара НУЖДЗІНА**

*г. Мазыр*

---

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданнне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).***

Святлана КЛІМКОВІЧ

# ГІСТОРЫЯ — КРЫНІЦА НЕВЫЧЭРПНАЯ

1. Калі мы з кампазітарам Уладзімірам Солтанам скончылі працу над операй «Дзікае паляванне караля Стаха», нам адразу ж захацелася ўзяцца за наступную. Незадоўга да гэтага ў «ЛіМе» была надрукавана дакументальная навела К. Тарасава «Чорны шлях». Рамантычнае і трагічнае каханне суддзі Ваньковіча да ашмянскай шляхцянкі Ядвігі Хадзевіч-Русіноўскай падалося нам сюжэтам вельмі оперным, вабіла магчымасць паказаць асабістую драму герояў на фоне гістарычных падзей пачатку XVI стагоддзя — росквіту Вялікага княства Літоўскага.

Спытаўшы дазволу ў Канстанціна Іванавіча і потым не раз звяртаючыся да яго і да А. Мальдзіса за парадамі, мы некалькі гадоў працавалі над новай операй.

І вось наша «Пані Ядвіга» гатова, партытура ляжыць у тэатры. Маем надзею, што ў наступным сезоне дырыжор А. Анісімаў і рэжысёр В. Цюпа пачнуць працаваць над ёй.

І ўсё ж мы адчуваем сябе неяк няёмка, нібы зрабілі нешта недазволенае. «Валодзя, — гавораць Солтану некаторыя яго калегі, — у цябе ўжо ідзе адна опера ў тэатры, а ты хочаш паставіць новую? Ёсць жа і іншыя кампазітары». Мне хочацца запытацца ў такіх выпадках: а чаго б дасягнулі Вердзі ці Чайкоўскі, калі б іх оперная творчасць спынілася пасля першага ж спектакля? Тым не менш у нас, у беларускім музычна-тэатральным мастацтве, практычна атрымліваецца менавіта там. Успомнім Д. Смольскага з яго «Сівой легендай» ці Г. Вагнера са «Сцежкай жыцця». На 10-мільённую краіну мы маем адзін оперны тэатр, які ставіць два спектаклі ў год. Дзе тут разгарнуцца аўтарам?

Словам, трэцюю оперу («Мілавіца») мы з Солтанам пачалі пісаць неяк употай, нават думкі не дапускаючы звярнуцца з ёю ў оперны тэатр. Гэта опера-казка, тэмы якой навеялі нам кніга Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», гістарычныя працы М. Ермаловіча і І. Ласкова. Дзеянне адбываецца ў дахрысціянскія часы, калі нашы продкі, адчуваючы сябе часткай прыроды, абагаўлялі яе, насялялі акаляючы свет лесавымі, вадзянымі, лугавымі, дамавымі духамі, верылі, што нягодніка пакарае маланка, кінутая грознай, але справядлівай рукой Перуна.

Якраз тады, калі мы меркавалі, куды б «прыстроіць» наш твор, нам патэлефанаваў мастацкі кіраўнік дзіцячага музычнага тэатра-студыі «Казка» Г. Аляксандраў і спытаўся, ці няма ў нас чаго для яго тэатра. Зразумела, мы з радасцю прынялі яго прапанову аб супрацоўніцтве.

У мяне была яшчэ адна дзіцячая п'еса, якая лёгка перараблялася ў лібрэта. Запрасілі кампазітара Віктара Войціка, і ў рэкордны тэрмін Войцік напісаў, а тэатр паставіў дзіцячую оперу «Вясновая песня». Зараз «Вясновая песня» — адзіны музычны дзіцячы спектакль на беларускай мове, які ідзе ў Рэспубліцы Беларусь.

На чарзе — «Мілавіца».

Г. Аляксандраў прапанаваў нам з Войцікам напісаць музычны спектакль па матывах кнігі У. Ліпскага «Вясёлая азбука», дзе маленькія адважныя літары з замка Алфавіт будуць змагацца супраць страшэнных інтрыг каралевы Ляноты і Змея-Хапуна.

Так што працы хопіць, калі выжыве сам тэатр. З тым, што нацыянальны дзіцячы музычны тэатр патрэбны, згаджаюцца ўсе. Крышку б дапамагчы — і тэатр запрацаваў бы на поўную сілу. У нас так часта атрымліваецца: ніхто не супраць, а ўмоў для працы практычна няма.

2. Жанр опернага лібрэта вельмі спецыфічны. Некаторыя драматургі (А. Вярцінскі, А. Петрашкевіч), раз паспрабаваўшы, болей да яго не вярталіся. Я ж люблю і найбольш разумею менавіта музычны тэатр. Працуючы ў Саюзе тэатральных дзеячаў, я мела шчаслівую магчымасць прысутнічаць на рэпетыцыях, вывучаць увесь працэс стварэння опернага спектакля. І цяпер, маючы творчае ўзаемаразуменне з такімі здольнымі кампазітарамі, як У. Солтан і В. Войцік, наўрад ці я захачу памяняць жанр.

Калі ж гаварыць пра тэматыку, то гісторыя і фальклор — крыніцы невычэрпныя.

3. Пачну здалёк. Зараз у беларускай грамадскасці адкрыліся вочы, і яна здзіўлена пытае: «Чаму жамойты называюць сябе літвою? Гэта ж мы — літва!» Сапраўды, узяўшы нашу назву, жамойты аўтаматычна прысвоілі і нашу гісторыю. У інтэрв'ю з жамойцкімі дзеячамі даводзіцца чытаць, што, маўляў, Гродзеншчына і частка Віцебшчыны — «гэта этнічна нашы тэрыторыі» (хоць абсалютна ясна, што летапісная літва — гэта асобны народ, які быў асіміляваны славянамі, зліўся з імі і стаў часткай беларускай нацыі).

Іван Ласкоў робіць навуковае адкрыццё: летапісная літва была не балцкім, а фіна-ўгорскім народам. І гэтае адкрыццё кладзе канец усім прэтэнзіям жамойтаў на нейкую выключную ролю ў нашай гісторыі. Кожны новы артыкул Ласкова ўсё больш доказна пацвярджае яго гіпотэзу. Я не магу зразумець зацятага маўчання нашых навукоўцаў. Ну, паспрабуйце яго абвергнуць, калі ён не мае рацыі!

Дзіўную думку пачула я ад адной журналісткі: «Мне больш прыемна быць у сваяцтве з еўрапейскім народам, чым з нейкімі прышэльцамі з Усходу». Не разумею я гэтага арыйскага снабізму. Няўжо сапраўды больш пачэсна быць родзічам жамойтаў і латышоў, чым, скажам, фінаў і эстонцаў?

Не ведаю, ці можна назваць гэта хобі, але з часу публікацыі ў «ЛіМе» артыкула Ласкова «Племя пяці родаў» я стала гарачай прыхільніцай яго тэорыі і пачала па магчымасці дапамагаць яму: прапагандую яго ідэі, адсылаю да яго ў Якуцк патрэбную літаратуру, выконваю яго даручэнні (нават чытала яго даклад на навуковай канферэнцыі ў Маладзечне), адным словам, адчуваю сябе «даверанай асобай» Ласкова ў Мінску.

---

— лепшыя вершы пра Беларусь і беларусаў, напісаныя польскімі, латышскімі, літоўскімі, эстонскімі, балгарскімі, французскімі паэтамі... Усіх і не пералічыш. І — падборка «З яўрэйскай паэзіі».

А колькі імёнаў у раздзеле «Тваё імя ў сусветнай кнізе...»?! Колькі літаратур прадстаўлена?! — Х. Берулава, Р. Гамзатаў, К. Куліеў, Д. Кугульцінаў... Сярод іх і курд Г. Чарказян, які даўно жыве на Беларусі. І пра тое, што адчувае пры гэтым, хораша перадаў у вершы «Другая маці»:

**Шчырэць талакой,**
**жыць вясёлым гуртам**
**Вучылі людзі,**
**вучылі бары.**
**Я ў Беларусі**
**адчуў сябе курдам,**
**За гэта дзякуй,**
**мае сябры!**

Сапраўды, Беларусь і збеларушвае, але ж яна, Беларусь, і дазваляе кожнаму быць адначасова і сынам свайго народа.

**А. М.**

---

беларускай літаратуры Людміла Рабок (яна вяла сустрэчу). Вялікім падзвіжнікам назваў М. Ермаловіча старшыня камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Н. Гілевіч. Спыніўся ён і на дзейнасці ВЦ «Бацькаўшчына», адзначыўшы, што сёння, калі за асвятленне нашай гісторыі пачынаюць брацца людзі з антынародных, антыдзяржаўных пазіцый, вельмі патрэбна сапраўдная літаратура па гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

На прэзентацыі выступілі старшыня суполкі татараў «Байрам» Якуб Якубоўскі, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Язэп Юхо, старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы, супрацоўнік выдавецтва «Народная асвета» Яўген Гучок.

Аб рабоце над кнігай, наогул аб сваім шляху даследчыка роднай гісторыі расказаў цёпла сустрэты прысутнымі М. Ермаловіч.

Вяртанне да нацыянальных вытокаў — адзін з магчымых шляхоў маральнага ачышчэння: ад друзу паўсядзённасці, ад нацыянальнага нігілізму, ад бяспамяцтва. З хваляваннем слухалі ўдзельнікі прэзентацыі выступленне царкоўнага хору «Унія», а калі загучала знакамітая «Малітва» Н. Арсенневай і М. Равенскага, усе ўсталі.

**А. М.**

---

Віншуем!

## Авяр'яну ДЗЕРУЖЫНСКАМУ — 75



Багаты жыццёвы і творчы шлях у Авяр'яна Сафонавіча. Нарадзіўся на Кармяншчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Магілёўскі газетны тэхнікум, а пасля тагачасны Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў карэспандэнтам і супрацоўнікам газет у Краснаярскім краі і Калінінскай вобласці, у Маскве. З 1945 года працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», а з 1949 — у рэспубліканскіх выдавецтвах «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «Юнацтва», адкуль і пайшоў на заслужаны адпачынак.

Літаратурнай дзейнасцю А. Дзеружынскі займаецца з 1939 года. Выдаў некалькі кніг паэзіі для дарослых, апошняя з якіх «Веснавей» толькі што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Лірычнасць, песеннасць, блізкасць да фальклорных матываў надаюць творам асаблівы каларыт, яны лёгка кладуцца на музыку. Лепшыя з вершаў А. Дзеружынскага і сталі песнямі. Сярод іх асабліва папулярныя «Мяцеліца» і «Сабірайся ў госці». На слыху ў многіх і песня «Мінскі вальс».

Аднак больш за ўсё А. Дзеружынскі пісаў для дзяцей. Першая дзіцячая кніжка «Цуды ёсць на свеце» з'явілася ў 1960 годзе. А за ёю — «Дзе жыве зіма», «Карагод», «Кую-кую ножку...» Неаднаразова выходзілі і кнігі выбранага: «Добры ветрык», «Вяселікі», «Залаты каласок...»

Віншуем Авяр'яна Сафонавіча з 75-годдзем! Зычым яму доўгага жыцця, новых творчых поспехаў.

## Алесю ЯСКЕВІЧУ — 60



«Цяжкае мастацтва» — так называецца новая кніга літаратурна-крытычных артыкулаў Алеся Яскевіча, што мае выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Знакаміты даследчык літаратуры гэтым разам задумваецца над праблемамі перастварэння з блізкародных моў, аналізуе культуру сучаснага перакладу. Тэматычны ахоп гаворкі самы шырокі. Пачынаецца яна з часоў Францішка Скарыны, калі наш выдатнейшы нацыянальны дзеяч паўставаў і ў ролі перакладчыка. Акурат пра Скарыну-перакладчыка дагэтуль гаварылася меней, ён як бы «зацямняецца» іншымі гранямі свайго таленту. А. Яскевіч і тут не прайшоў міма, гэта ўжо ў ягоным характары — і чалавека, і крытыка, і даследчыка — да ўсяго дакапацца самому, нічога, як кажуць, не браць напавер.

Гэта характэрна было і для яго першай кнігі «Карані маладога дрэва», што выйшла ў 1967 годзе. У ёй не такі яшчэ і вядомы аўтар (пачаў выступаць у друку ў 1958 годзе) вёў прынцыповую гаворку пра тагачасныя маладыя таленты. Гаварыў не столькі пра набыткі і недахопы, колькі імкнуўся (і гэта яму ўдавалася!) зірнуць наперад, у перспектыву, адчуць, якімі шляхамі пойдзе беларуская літаратура далей. Ужо тады ён заявіў аб сабе як аб удумлівым даследчыку, які ўмее канцэптуальна бачыць пэўныя літаратурныя з'явы ў самым шырокім кантэксце.

І наступныя кнігі А. Яскевіча — «Ад слова да вобраза» (1968), «Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы» (1972, у сааўтарстве з В. Каваленкам і М. Мушынскім), «Пытанні паэтыкі» (1974, у сааўтарстве з В. Жураўлёвым і Я. Шпакоўскім), «У свеце мастацкага твора» (1977), «Выхад за круг» (1985) і іншыя засведчылі, што яго таленту падуладна аналітычнасць аналізу, маштабнасць погляду на з'явы літаратуры і жыцця. Кнігі сведчаць пра вялікую эрудыраванасць аўтара, высокую тэарэтычную падрыхтоўку. Дарэчы, А. Яскевіч — доктар філалагічных навук.

З днём нараджэння, Алесь Сямёнавіч! Няхай і надалей Ваша крытычнае, даследчыцкае пяро служыць на карысць беларускай літаратуры, у імя нацыянальнага Адраджэння!

## Пятру МАХУ — 60

Споўнілася 60 гадоў украінскаму пісьменніку П. Маху. Пётр Пятровіч — з тых літаратараў, хто ў сваёй творчасці не абмінае і Беларусь. У прыватнасці, подзвігу беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі прысвечана яго паэма «Калоссе, або Дума пра пецярых падлеткаў з Арадура, Хатыні, Картэліч і Сангмі», шматлікія вершы. Тэма Беларусі, яе гістарычнае мінулае раскрываюцца ў кнігах П. Маха «Вокны» і «Свячэнне».

Вядомы П. Маха і як празаік, у тым ліку ім напісаны раман «Рунь». У гэтым творы расказваецца пра жыццё працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У сюжэтную канву рамана арганічна ўваходзіць фальклор, раскрываюцца народныя звычаі і традыцыі.

Беларуска-ўкраінскім кантактам і літаратурным узаемасувязям прысвечана эсэ П. Маха «Свет Гаўрылюка». З'яўляецца ён і аўтарам артыкулаў пра сучасную паэзію «Маладыя галасы Беларусі», «Братэрства радасныя шляхі».

Да ўсяго Пётр Пятровіч пераклаў на ўкраінскую мову творы Ніла Гілевіча, Анатоля Грачанікава, Петруся Макаля, паэтаў Брэстчыны Івана Арабейкі, Міколы Пракаповіча, Міхася Рудкоўскага і іншых, з зямлёй якой падтрымлівае асабліва цесныя сувязі.

Віншуем нашага сябра з днём нараджэння, зычым яму і надалей плённа працаваць на ніве творчых кантактаў і ўзаемасувязяў!

ЛіМ
ЧАСАПІС



# «НОВОЕ РУССКОЕ СЛОВО» ПРА М. ЦЕЛЕША

**У цікавых, як заўсёды, нататках «ЛіМ», 28 студзеня 1994 г.) Барыс Сачанка расказвае пра Міколу Целеша, беларускага пісьменніка, чый няпросты і трагічны лёс па сёння застаецца таямніцай для яго суайчыннікаў як у ЗША, так і ў Беларусі.**

**Будучы ў Амерыцы, я спрабаваў адшукаць сляды М. Целеша. Распытваў людзей, якія яго ведалі, шукаў матэрыялы ў сямейных архівах. Што-колечы ўдалося знайсці і высветліць. Зараз рыхтую да публікацыі ліставанне М. Целеша з пісьменнікамі беларуская замежжа. А пакуль хочацца пазнаёміць чытачоў «ЛіМа» з маленькай зацемкай, якую я знайшоў на старонках рускамоўнай газеты «Новое русское слово» (Нью-Йорк) за 9 студзеня 1975 года.**

**АБРАБАВАНА КВАТЭРА ПІСЬМЕННІКА МІКОЛЫ ЦЕЛЕША**

**30 снежня (1974 г. — Л. П.) кватэру беларускага пісьменніка і супрацоўніка нашай газеты Міколы Целеша абрабавалі ў чацвёрты раз за апошнія два гады. Забралі ў ліку іншых рэчаў самае каштоўнае для яго: машынку «Алімпія» і радыёпрымнік «Філко».**

**У доме, дзе жыве пісьменнік, арудуе банда злодзеяў-наркаманаў. Паліцыя добрасумленна рэгіструе кожнае абрабаванне, але... злодзеі працягваюць свае аперацыі беспакарана. Міколу Целешу 70 гадоў, ён літаральна зачынены ў сваёй кватэры. Пісьменнік хадайнічаў перад гарадскімі ўладамі аб перасяленні ў іншы гарадскі жыллёвы праект, але пакуль яго хадайніцтва не мела поспеху.**

**Вось такая зацемка — кароткая і не надта багатая на факты. Але і яна пралівае пэўнае святло на апошнія гады жыцця М. Целеша ў Нью-Йорку.**

**Леанід ПРАНЧАК**

# І НАД ШКЛОЎШЧЫНАЙ... ВЯСЁЛКА

**Яшчэ з даваенных часоў гуртуюцца вакол Шклоўскай раённай газеты мясцовыя літаратары. А нядаўна ў Магілёўскай абласной друкарні выйшаў іх першы калектыўны зборнік паэзіі «Вясёлка над Шклоўшчынай», прысвечаны 50-годдзю вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сродкі на выданне выдзелены з раённага бюджэту.**

**Прадстаўлена дзесяць аўтараў, двое з якіх — удзельнікі баёў, чацвёра перажылі вайну малалеткамі.**

**Падборка былога франтавіка Саўкі Асіповіча невыпадкова называецца «Мае гады за гарызонтам». Яго вершы адначасова пра сучаснасць і вайну, пра той трывожны, трагічна-ўразлівы час, які для аўтара застаўся за гарызонтам.**

**Падзеі мінулай вайны на Шклоўшчыне ляглі ў аснову паэмы «Чэкіст» Георгія Вярбіцкага, а так называлася і партызанская брыгада.**

**Нізкай «Ляцяць гады, як стрэлы...» прадстаўлены даўні аўтар раёнкі Леанід Галіноўскі, які бачыў вайну падлеткам. Пра гэта ўспамін — у вершы «Лес каля Лупалава». Перажыў ваенныя ліхалецце і Віктар Гаўрусёў, і ў яго нешматлікіх творах згадваецца той час. Вершы Міколы Лісоўскага таксама пераважна пра той час, які азмрочыў ружовае дзяцінства, звычайны лёсы не толькі дарослых, а і дзятвы.**

**У зборніку — паэтычныя спробы Яўгеніі Гуцол, Міхаіла Грыбанава, Пятра Давідовіча, Валянціны Канькова, у якіх у асноўным сучасныя матывы.**

**Лявон АНЦІПЕНКА**

# КНІГА ПАШЫРАЕ МЕЖЫ

**З 18 па 24 мая ў Варшаве праходзіў 39-ы Міжнародны кніжны кірмаш. Гэта — адзін з самых аўтарытэтных форумаў кнігавыдаўцоў свету.**

**Асобным вялікім стэндам на кірмашы была прадстаўлена Рэспубліка Беларусь. У складзе яе дэлегацыі, якую ўзначальваў намеснік міністра культуры і друку С. Нічыпаровіч, былі кіраўнікі выдавецтваў: «Юнацтва» — В. Лукша, «Народная асвета» — І. Лапцёнак, «Вышэйшая школа» — А. Жадан, «Полымя» — М. Івановіч, генеральны дырэктар фірмы «Белкніга» А. Гурыновіч, а таксама прадстаўнікі шэрагу альтэрнатыўных выдавецтваў і выдаючых арганізацый.**

**Асабліва вялікую цікавасць у час кірмашу выклікалі выданні па гісторыі Беларусі, па беларускай мове, слоўнікавая літаратура, дзіцячыя кнігі на беларускай і польскай мовах, якія выпускаюцца ў нашай суверэннай дзяржаве.**

Паэзія

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# З «НЕДАПІСАНАЙ КНІГІ»

## МАЯ АДЗІНАЯ

**Зямля бацькоў, зямля дзядоў,
Табе дзве тысячы гадоў,
Ты захлыналася ў крыві,
Але жывеш і век жыві.
Тапталі прыхадні цябе,
А ты мужнела ў барацьбе,
На галавешках і касцях
Зноў пачынала свой працяг,
Чужыя сплочвала даўгі,
Хоць і насіла ланцугі,
І ад вайны і да вайны
Раслі і гінулі сыны.
Ты пралівала рэкі слёз
І праклінала горкі лёс,
Гібела з рання да відна,
Бо ў свеце ты была адна...
Нарэшце вырваўся ў працяг
Наш бел-чырвона-белы сцяг.
Я ім заўсёды ганаруся,
Бо сын нязводнай Беларусі...
Ды ў свеце ўдарылі ў званы,
І стыне кроў ад навіны,
Трывогі збыту не даюць,
Бо зноў агулам прадаюць
І нас, і нашую зямлю.
Я Бога і людзей малю
Свавольству волю не даваць
І родны Край пашкадаваць,
Бо не даруюць нам віны
Ні праўнукі, ні іх сыны.
Сумленне, розум чалавечы,
Збірайцеся усе на веча,
Каб не заплакаць нам аб страце —
Па роднай і адзінай маці,
Каб сэрца не ўчарнела ў скрусе
Па Беларусі. Па Беларусі!**

*28/II—19/IV—94.*

## ПАМЯЦЬ

**О, памяць, што з табой рабіць?
Ты днём і ноччу не даеш спакою:
То Ціхі акіян пад Месяцам рабіць,
То нам нияк не выбрацца з пакою,
Каб не пачулі, уцячы ў палі
І да світання праблукаць паволі.
Ты толькі сэрца жартам не палі
Мне, згаладаламу па волі,
Па спелых вуснах, па тваіх вачах,
Пакуль сузор'е ў небе не растане,
Пакуль агонь нябачны не ачах
І не настала горкае расстанне,
Якое не забудзешца павек
У адзіноце, у журбе, у скрусе,
Калі, прыпаўшы да тваіх павек,
Прызнаюся, што назаўжды скаруся.**

**О, памяць, што з табой рабіць?
Усё жыццё праходзіць прад вачамі,
Як акіян бушуе і рабіць
Бясконцым днём і доўгімі начамі.**

*3-6/IV—94.*

## ЧУЖАЯ РОЛЬ

**І бессаромна хлусім, і іграем
Вясёлую чужую роль,
Каб выглядала пекла раем,
І здaўся асалодай боль.**

**Калі сціскаюць горла слёзы,
Глядзім спакойна на распад
І не зважаем на пагрозы
Былое павярнуць назад.**

**Хлусню з усмешкай непрыкметна
Адчаю засцілае муць,
Хоць і стаім над апраметнай,
І прорвай, што не абмінуць.**

**Калі нарэшце без апаскі
Іграць чужую кінем роль,
Трагедыяю стануць казкі,
Слязамі — слёзы, болем — боль.**

*22/III—94.*

## БЛАКІТНАЯ ЗІМА

**Прыйдзі, як хадзіла калісьці са мною,
У сінім святле да знаёмых дзвярэй.
Цябе я чакаю вясной і зімою,
Прыйдзі і настылае сэрца сагрэй.**

**Я трачу надзею, а ты нечакана,
Калі ні цяпла, ні спакою няма,
Зайшла, зачыніла фіранкі старанна,
Каб сэрцы двaім не студзіла зіма.**

**У змроку падыдзеш нячутнай ступою,
І цёплыя рукі раскінеш шырэй.
Мы ў казачным свеце пабудзем з табою,
Ты толькі настылае сэрца сагрэй.**

**Павольна знікаюць усе таямніцы,
А ты пазіраеш дабрэй і дабрэй.
Я буду табе на каленях маліцца,
Ты толькі настылае сэрца сагрэй.**

*11/I—94.*

●

**Адна не замаўкае нота,
Як абарваная струна.
І адзінота, адзінота,
І сум, і востры боль здаўна,
І зайздрасць прашчурам і продкам,
Што і на гэтай жа зямлі
Хто доўгі век, а хто кароткі
Па-людску некалі жылі,
У дабраце, у поўнай згодзе
Ад першых да апошніх дзён,
Бо і ў людзей, і ў прыродзе
Сумленне — быў адзін закон.**

*1-2/II—94*

## КАЛЯ ВОГНІШЧА

**Давай распалім вогнішча на ўзлессі,
Па зорах паварожым давідна,
Мая і Вераніка, і Алеся,
Ты, як і сэрца, у мяне адна.**

**Зарнiцамі твае іскрацца вочы.
Хоць усміхніся, хоць загавары.
Мінаюць хутка чэрвеньскія ночы,
І перапёлка кліча на зары.**

**Няўжо туман сляды твае укрые?
А я знайду прымятую расу,
І па слядах пад ясені старыя,
Цябе, нібы пушынку, данясу.**

**Пасядзем каля светлае крыніцы
У ціхую світальную пару,
І я табе з расінак завушніцы
І сонечны пярсцёнак падару.**

**Увечары сустрэнемся на ўзлессі,
Пад шэпат ясакараў і дубоў.
Мая ты — Вераніка і Алеся,
І Вера, і Надзея, і Любоў.**

*6/III—94.*

●

**Снег завейвае плечы
І маю галаву.
Да жаданай сустрэчы
Я наўрад дажыву.**

**Праз снягі і завею,
Праз начную жуду
Я хутчэй пасівею,
Чым да шчасця дайду.**

**Толькі ўспомню аб свяце
У былыя гады,
Зразумею, што страціў
Назаўжды-назаўжды.**

**Незваротнаю стратай
Пакараў мяне Бог.
Толькі сам вінаваты,
Што цябе не зберог.**

*2/II—94.*

## ХВІЛІНА АДЧАЮ

**Куды ісці? — Нікому невядома:
Мне цесны горад, цесны свет,
Таму бягу усё далей ад дому,
Ад радыё, рэкламы і газет.**

**Як путы зняць? Як раскілзацца
Ад дум, адчаю і пакут,
І ад бяды цывілізацый,
Што зруйнавалі родны кут,**

**Што слепяць вочы год за годам,
Што атруцілі ўсё да тла?
Чыны зdаволены народам,
Што прагна сёрбае з катла.**

**Знясілены пякельнай зморай
У непрыкаяным жыцці,
Я ведаю, што будзе горай,
Але ж куды далей ісці?**

**Усё агоркла і абрыдла:
За здзекам — здзек, за шокам — шок.
Людзей ператварылі ў быдла,
Сумленне сцерлі ў парашок.**

**Знясіленыя гінуць дзеці,
Жанчыны слёзы льюць ракой,
І недалёка час па свеце
Пайсці з працягнутай рукой.**

*20-21/II—94.*

## З ДАЛЁКАЙ ДАЎНІНЫ

**Не ведаю, вы спіце ці не спіце,
Ці бачыце за снамі сны.
Вы толькі ледзь струну краніце
Ў душы далёкай даўніны.**

**Дзе хвоі з хвоямі гамоняць,
Сумёты сцежкі замялі,
Мяне туга і смутак гоняць
Туды, дзе вы гняздо звілі.**

**У свежы, як пароша, чысты,
Спакойны і салодкі сон
Мне б далящець і ўпасці лістам,
Як у пару далёкіх дзён.**

**Таемным шэптам, поўным згоды,
І поглядам душу сагрэць
І стаць шчаслівым назаўсёды
Ці нечакана дагарэць.**

*19-21/III—94.*

## БАГАЦЦЕ

**Я трацiў усё без звароту
Не раз, і не два, і не тры,
То грукаў дарэмна ў вароты,
Прасіўся ў чужыя двары.**

**Казалі, — работнік не трэба,
Начлежнікам — месца няма.
Галодным скарыначкі хлеба
Нідзе не давалі дарма.**

**О, Божачка, колькі я траціў!
Знайсці ж анічога не змог, —
Навечна у матчынай хаце
Пакінуў стаптаны парог.**

**Гайдаўся, як тычка у полі,
Нібы чарацінка ў трысці.
Ні скарбу, ні лепшае долі
Ні разу не здолеў знайсці.**

**З дзявацкага я пакалення,
За самых працейшых працей,
Таму, што не траціў сумлення,
А значыць, і я — багацей.**

**Як страчу сумленне, ад страху
Пустая душа задрыжыць,
Сябе ахвярую на плаху
І больш не адважуся жыць.**

*9/III—94.*

●

**На шыбах — белыя лілеі
З крышталю выразаў мароз.
Ад захаплення аж нямею
І захапляюся да слёз.**

**І мроіцца далёкі бераг:
Дрыжаць лілеі на вадзе.
Блукаю я ў туманах шэрых,
А любай не відаць нідзе.**

**Як ні гукаў, — не дагукаўся.
Мільгнула прывідам яна.
Гляджу туды, дзе ашукаўся,
Праз шыбы цёмнага акна.**

*22-23/III—94.*

## АДНА НАДЗЕЯ

**Я заўтра ўстану рана-рана,
Работай смагу наталю,
Каб зажыла старая рана,
Святых і грэшных умалю.**

**Улягу ў марную работу,
Хоць і не ведаю, калі
На віражах, на паваротах
Я адарвуся ад зямлі**

**І палячу ў такія высі,
Якіх не бачыў чалавек,
Хоць мне загадваюць: «Не рвіся
Дарэмна ў дваццаць першы век».**

**Наш страшны век даўно на сконе,
Прапах крывёй, атрутай, злом,
Ад нараджэння і па сёння
Нас выпрабоўваюць на злом.**

Куды пякельнымі кругамі
Да ракавых бяздонных сфер
Аслеплы, з вострымі рагамі,
Няўмольны гоніць Люцыфер.

У рай адзіную дарогу
Апанавалі гвалт і здзек.
Надзея толькі што на Бога,
Каб асвяціў наступны век.

Усё, што рупіла, старанна
Зраблю, каб раны залячыць,
Таму устану рана-рана,
Пакуль душа не замаўчыць
*21/II—94.*

## НАДЗЕЯ НА СУСТРЭЧУ

*Памяці сына, якога даўно няма*

Ён часта па начах прыходзіць
У мой трывожны неспакой,
Пяшчотна па шчацэ праводзіць
Заледзянелаю рукой.

Маленечкі, слабенькі, невідушчы,
Бацькоўскай прагне цеплыні.
І рэквіем «Во гробе сущий»
Плыве з бяздоннай вышыні.

Ён гаварыць яшчэ не ўмее,
А нешта сіліцца сказаць,
Бо з цемры, сыкаючы, змеі
Паўзуць, каб і яго звязаць.

Я ўбачыў толькі цераз краты,
Як раптам вочы ажылі,
Ад жаху ён прамовіў: «Тата,
І заслані, і прытулі».

Ён дакранаецца нясмела
Халоднай ручкай да мяне,
І раптам — здаўся пасівелы...
Не знаю, — па чыёй віне.

Глядзіць злюцелы кат лупаты
З-за акрываўленых лясін,
Бо абмінуў я Курапаты,
А за мяне загінуў сын.

Анёламі пасталі дзеці,
Даўно пакінуўшы Зямлю...
Я веру, — хутка на тым свеце
Да сэрца сына прытулю,

Маленечкага, кволага, сівога,
Бо ў кожнага — адзіная дарога.
*1992—1994 г.г.*

●

Няўжо не ўбачу больш нікога,
Калі праб'е апошні час, —
Ні райскіх кушчаў, і ні Бога,
Ні неба зорнага, ні вас.

Усё, чым ганарыўся, рухне,
Нібы ніколі не было,
І толькі для мяне патухне
Навекі дзённае святло.

## СВЯТОЕ ІМЯ

*Валянціне*

За старонкай старонку гартаю,
У пытальніках, кропельках слёз,
І ў дробненькай зноскі чытаю,
Што і мой завяршаецца лёс.

У апошнім радку існавання
Нават коскі нідзе не відно.
Вось і прозвішча хутка растане, —
Кане разам са мною на дно.

Нават з родных ніхто не заплача,
І за гэта удзячны ім я,
На змярканні дыханнем гарачым
Прашапчу я святое імя
І паклічу: «Даруй, дарагая ма-я...»
*6/IX—1993—5/IV—94.*

## АСЕННІ ВЫРАЙ

Так хочацца прайсціся басанож
Па росах, па пяску, па гліне.
Ты толькі мне душу не патрывож,
Асенні вырай, плачам жураўліным.

Згасае пакрысе асенні дзень,
Знікае ў пыле дальняя дарога,
І толькі хісткі учарнелы цень
Вядзе мяне, як павадыр сляпога.

Куды усё ж ён завядзе мяне,
Яшчэ не страціўшага зроку?
Як ні марудзь, а лёс не абміне,
І не вярнуцца болей мне са змроку.
*1994.*

Рыгор БАРАДУЛІН

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА КРЫЧЫЦЬ, АЛЕ ЯЕ НЕ ЧУЮЦЬ...

Па сваёй невытлумачнасці нашая беларуская нацыя бадай што самая загадкавая ў гэтым свеце. Нашыя мацнейшыя ды большыя колькасна суседзі як з усходу, так і з захаду з адначасовым жаданнем захапіць спаконныя землі нашыя маюць на першамэце даказаць, што не існуе гэтакай нацыі, як беларуская, гэтакага народу, як беларускі.

Дужа перад панам Богам няйначай правінілася Беларусь. І войны ўсе на яе, й нясноcці ўсе на яе, і прадказаны Бібліяй чорны дзень. Вынішчэнне за вынішчэннем, генацыд за генацыдам — ленінска-сталінскі, чарнобыльскі, духоўны... Чым яшчэ, калі не віной перад Госпадам, тлумачыць тое, што кожнаму пакаленню трэба даводзіць, што мы беларусы, што мы народ адметны, што мы нацыя. Нашым суседзям, генетычна блізкім нам, — і літоўцам, і латышам, — дастаткова толькі нарадзіцца — й яны літоўцы, латышы. А нас, беларусаў, расцягваюць, раздзіраюць то на праваслаўных, то на католікаў, падкладваючы пад гэтае паняцце, што мы то расейцы, то палякі. І уніяцкая царква, якая б магла стаць нашай нацыянальнай царквой, знішчана. Нават аўтакефаліі на радзіме нашай няма. Усё вядзе ў падпарадкаванне так званага трэцяга Рыма. У поўнай адпаведнасці з былой камуністычнай партыйнай структурай.

Беларусь, як бутэрброд, — на свой чэрствы хлеб намазваюць дужэйшыя суседзі, стараючца намазаць як мага тлусцей і асалоду расцягнуць.

Калі лірычна ўявіць, як хацелася б бачыць нас гэтым мацнейшым суседзям, дык гэта, відаць, вераб'ямі, якія сапраўды на птушыных правах падсуседнічаюць на буслянках, дзе гаспадараць толькі буслы. Прыводжу вобраз бусла, бо ён святы ў беларусаў, каб падкрэсліць і павагу да дужэйшых суседзяў, да лепшай часткі іх. Бо ў змрочныя часіны нашыя апальнікі знаходзілі прыпірышча ў лепшых людзей Расіі і Польшчы.

Тады, калі ў чырвонай імперыі, як заўсёды, ударнымі тэмпамі вынішчалася ўсё нацыянальнае, на беларускіх пісьменнікаў легла адказнасць захаваць мову — аснову нацыі і магчымай будучай дзяржавы. Адразу след агаварыцца, што гэта хутчэй ад усяго была дазволеная адказнасць, вымушаны дазвол з боку манапольнай партыі камуністаў. Давалася амплітуда смеласці, якая рэгулявалася жорстка. Літаратура, як і ўся культура, мусіла быць нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце. Напрыклад, на пляшцы з белавежскай горкай беларускі арнамент нясмела нагадваў нацыянальную прыналежнасць інтэрнацыянальнага напою. У дадзеным выпадку змест урэшце вырашаў усё. А вось у бальшыні твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў хіба дазволеныя формы імёнаў Алесь, Міхась, Рыгор, Паўлюк намякалі, што твор made in BSSR.

Па сваёй ідэі пісьменнік перш за ўсё асоба, творца. І само сабой зразумела, што асоба павінна тварыць аднаасобна, быць, так бы мовіць, аднаасобнікам, самому адказваць за сябе, на сябе браць адказнасць за ўсіх. Ды ў краіне перамогшага, ці, можа, дакладней было б сказаць — перамокшага ў крыві, сацыялізму ўсё мусіла быць калектыўнае. Фальклірысты ў цывільным нават прыдумалі ад імя народа фармулёўку: дзіва дзіўнае, калектыўнае. Дык вось гэтае далёка не казачнае дзіва і стварала творчыя калгасы, яны саюзамі называліся (каб паўтарыць яшчэ і яшчэ раз, назву савецкае імперыі)...

Цяпер фармальна няма імперыі, фармальна Беларусь незалежная Дзяржава, фармальна пісьменнік можа быць вольны. Ды вольны ён перш за ўсё ад сродкаў існавання, ад магчымасці друкавацца і выдавацца. Старыя структуры пад новымі шыльдамі тужаць зашмаргу на шыі беларускай мовы. Па-ранейшаму адчуваецца сумна вядомае: «язык партии — русский язык». Нашая мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі. Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць уладатрымцы, бо яны гадаванцы таталітарнага рэжыму, яны так званыя інтэрнацыяналісты. І беларускія пісьменнікі ў сваёй дзяржаве як пасынкі, ці як байструкі. І сапраўды, што ў той послаўцы: разгуляўся, як сабака ў торбе. Нават выраз «папера ўсё стрывае» зьначыўся. Не стала паперы, яна стала дарагой, недаступнай беларускай кнізе. Але яе хапае на нізкапробную прадукцыю, на чырвонажоўтую прэсу, якая адмывае вядома чые грошы, не абмяжоўваючы сябе ў словах пагарды і нянавісці да беларускай сімволікі, да беларускай мовы, да ўсяго беларускага. Арыентацыя такой прэсы антыдзяржаўная, прасавецкая да замшэласці. Не адстае ў агульным наступе чырвона-карычневікаў на беларушчыну, на суверэнітэт дзяржавы радыё і тэлебачанне, абслугоўваючы партыю ўлады і ейнага стаўленіка, чырваназоркавая мара ў якога прадаць незалежнасць Беларусі так, каб бясплатна ды нястратна.

Прыйшло і прыходзіць у літаратуру новае пакаленне. Але ці стануць асобамі творцы беларускага духу, ці хопіць ім духу выстаяць перад спакусамі рынку, пад пільным позіркам спрадвечнай беларускай нэндзы? На іх надзея. Бо неяк заўважыў Васіль Быкаў: нашая літаратура патраціла дзесяцігоддзі, каб даказаць, што ўмее пісьменна пісаць, выгладжваць кожнае слова. Ды ведаем мы, што аднаго гэтага ўмельства мала, каб літаратура сцвердзіла сябе, заявіла пра сябе на ўвесь голас ва ўсім свеце. Васіль Быкаў першы сказаў слова праўды, сказаў па-беларуску, сказаў шчыра — й свет пачуў Васіля Быкава, пачуў пра Беларусь.

Народ нараджае асобу, асоба ўзбуйняе нацыю.

Віктар КАВАЛЕНКА

# НАБЛІЖЭННЕ ДА СВАБОДЫ СЛОВА

У сваім імкненні да дэмакратыі мы рэдка адважваемся на канкрэтныя справы і задавальняемся эмоцыямі. Выказаныя з адкрытай публічнасцю замахі на свабоду слова не атрымліваюць адпаведнага рэагавання з боку дэмакратычных сіл рэспублікі. Наогул узнікае сумненне, ці здатная сёння беларуская інтэлігенцыя абараніць практычна той кодэкс грамадзянскіх паводзін, які складае сутнасць яе прафесійнай дзейнасці і які адзін толькі можа апраўдаць само яе існаванне.

Ну вось на пачатку года газеты паведамілі, быццам прэм'ер заявіў, што, маўляў, «мы будзем камандаваць прэсай». Усхвалявала гэта каго-небудзь з нас у такой ступені, каб зрушыць на канкрэтнае дзеянне? А між тым прэса не чужая вотчына для пісьменнікаў. Іх творчыя інтарэсы самым непасрэдным чынам звязаны з грамадскім станам прэсы і яе палітычным накірункам. Хіба зрабілі мы спробу высветліць, ці правільна карэспандэнты зразумелі словы прэм'ера? Хіба арганізавалі мы запыт дэпутатаў-дэмакратаў у Вярхоўным Савеце з гэтай нагоды? Не. Калі мы будзем разважаць пра паняцце «свабода слова» ва ўмовах Беларусі толькі ў сферы абстрактна-тэарэтычных намаганняў, наўрад ці апраўдаем сваё існаванне як нацыянальнай інтэлігенцыі.

Можна сказаць, што вось толькі-толькі адбыўся XI з'езд пісьменнікаў, аднак на ім ніхто не скардзіўся, што яго твораў не публікуюць, ніхто не згадаў нават пра пагрозу прэм'ера камандаваць прэсай. Значыць, выходзіць, што ў нас усё ў парадку па гэтай лініі? Думаецца, што не. Мы ўсе адчуваем, што сапраўднай свабоды слова ў рэспубліцы няма. І на тэлебачанні і ў друку ідзе даволі мэтанакіраваны, аднак скрыты адбор аўтараў, не допускаецца палеміка, калі яна вядзе да шматфактарнага ўстанаўлення ісціны. Аднак пра гэта гаварылася мала на нядаўнім пісьменніцкім з'ездзе. І калі такую сітуацыю можна неяк апраўдаць, то хіба толькі тым, што пісьменнікаў на гэты раз займалі яшчэ больш глабальныя праблемы.

Ва ўсіх нас яшчэ не знікла рэліктавае ўяўленне, прывітае таталітарным рэжымам, што ўрад і дзяржава, дзяржава і радзіма — гэта адно і тое ж. У выніку мы не можам пераадолець у сабе псіхалагічна клішыраваную боязь, што апазіцыя ўрада дае апошняму калі не законнае, то, прынамсі, зразумелае з пункту погляду звычайнай жыццёвай мудрасці няпісанае права не падтрымліваць, у тым ліку бюджэтна, тыя культурныя сілы ў грамадстве, якія настроены апазіцыйна. Між тым адной з самых яскравых прыкмет дэмакратыі ў дзяржаве з'яўляецца падтрымка ўрадам усяго культурнага поля незалежна ад таго, ёсць на ім апазіцыйныя ўсплёскі ці няма. Апазіцыя — гарантыя натуральнага прагрэсу. Трэба прывыкнуць нам усім да несумненнага факта, што літаратура наогул пастаянна знаходзіцца ў апазіцыі да дзяржавы і грамадства, бо хоча бачыць іх ідэальна дасканалымі і квітнеючымі. А па той прычыне, што такога ніколі не здараецца, то літаратуры наканавана быць вечнай апазіцыянеркай. Вядомы польскі кінарэжысёр Анджэй Вайда, які нацярпеўся ад нападак з боку ранейшых савецкіх і польскіх ідэалагічных службаў, з гонарам заяўляў: «Я заўсёды апазіцыя!»

Калі ж браць праблему свабоды слова шырэй — у сэнсе абароны культуры і дэмакратыі наогул, то і ў такім ракурсе сур'ёзных стратэгічных распрацовак у нас няшмат. Складанасць заключаецца перш за ўсё ў тым, што беларуская інтэлігенцыя не здолела пакуль што выпрацаваць прымальную для большасці народа нацыянальную праграму незалежнага палітычнага і духоўнага існавання. Роскід пазіцый нават у асяроддзі дэмакратычных арганізацый і партый такі вялікі, што гэта пагражае ваяўнічымі сутыкненнямі і непрымірымай барацьбой. І не трэба быць вялікім празарліўцам, каб прадбачыць у выніку гэтага далейшае паслабленне ўплыву дэмакратычнай ідэалогіі на грамадства.

У сучасны момант ва ўмовах Беларусі, якая робіць першыя крокі як самастойная дзяржава, завершаная ў той ці іншай ступені канцэпцыя культуры набывае ў дадатак да яе асветна-выхаваўчых функцый больш шырокую нацыянальную ўласцівасць. Культура застаецца не проста полем нацыянальнага жыцця, а ўздымаецца на ўзровень выяўлення экзістэнцыяльнага аблічча нацыі, яе індывідуальнай духоўнай канстанты. Але гэты ўздым самым непасрэдным чынам звязаны з магчымасцямі дэмакратычных намаганняў і заваёў грамадства. Вось чаму, калі мець на ўвазе палітычныя рэаліі Беларусі, з усёй падставай можна сказаць, што культура — гэта дэмакратыя.

Ісціна вядомая. Аднак у адносінах да Беларусі яна мае спецыфічны сэнс, які, магчыма, ужо знік як перажытачны з самаадчування іншых народаў, што маюць глыбінна замацаваную культурную традыцыю. Дзякуючы натуральнай духоўнай сіле і напорна-развітому філасофскаму зместу яна сама можа супрацьстаяць антыдэмакратычным тэндэнцыям у дзяржаве і быць гарантам нармальнага прагрэсіўнага развіцця нацыі. Калі ж звярнуцца да абставін у Беларусі, дзе формы дэмакратычнага жыцця не ўсталяваліся, дзе, як і ў Расіі, па выразу Я. Еўтушэнкі, пануе «дэмакратыя недэмакратычная», то тут пакуль што абарона культуры азначае абарону дэмакратыі ў прамым і адкрытым сэнсе гэтага паняцця.

Становішча ўскладняецца тым, што вялікая частка пісьменніцкай арганізацыі, апынуўшыся ў постсавецкай рэчаіснасці, стала адкрыта і ваяўніча падтрымліваць антыдэмакратычныя тэндэнцыі ў грамадстве, хоць некаторыя пісьменнікі з гэтай групы раней лічылі сябе безумоўнымі дэмакратамі і гуманістамі. Гэта несумненна паслабіць інтэлектуальную напружанасць духоўнага жыцця ў рэспубліцы, раз'яднае сілы. Палітычная рэакцыя ў Беларусі можа атрымаць істотную падтрымку ў іх асобе. Хацелася б, каб лепшыя з іх, самыя таленавітыя, апамяталіся і на ўласным творчым вопыце адчулі, што толькі дэмакратычны светапогляд дае сапраўдную прастору для сапраўднай творчасці. Для творчасці, вядома, а не для жыццёвай суперуладкаванасці.

Абарона дэмакратыі і культуры — гэта не толькі дэкларацыі, тэарэтычныя праспекты, публіцыстычныя выступленні, хоць і яны несумненна дужа патрэбныя. Гэта ўрэшце наша штодзённая праца па стварэнні напружанага духоўнага жыцця ў рэспубліцы, па стварэнні такой атмасферы, калі б немагчымым было распаўсюджанне маларазвітых і абскурантысцкіх поглядаў на стан рэчаў у нашай краіне.

Хай запануюць у нас сапраўдная дэмакратыя і культура! Хай яны прынясуць шчасце нашаму народу!

*Гэтыя публікацыі зроблены паводле выступленняў на Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры пад эгідай Беларускага ПЭН-цэнтра (Менск, травень г. г.)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## НА ВЫСТАЎЦЫ ІУДАІКІ

**У экспазіцыйнай зале іерусалімскага Палаца нацыі працавала пятая Міжнародная выстаўка іудаікі. Падобным тэрмінам называюцца матэрыяльныя і мастацкія помнікі яўрэйскай культуры і быту. Сярод шматлікіх работ былі прадстаўлены і творы Леаніда Окуня. Да пераезду ў 1989 годзе ў Ізраіль ён жыў у Бабруйску, працаваў у мясцовым прафесійна-тэхнічным вучылішчы, у якім навучэнцы авалодваюць шматлікімі прафесіямі, звязанымі з мастацтвам. Цяпер у Л. Окуня — новыя вучні, ён выкладае ў школе мастацтваў «Міквэ Ісраэль». А сам па-ранейшаму захапляецца разьбой па дрэве, ствараючы шматлікія партрэты, драўляныя скульптуры.**

**Адзін з павільёнаў Міжнароднай выстаўкі іудаікі займала тэматычная экспазіцыя «Яўрэйскія мастакі Віцебска». Яе падрыхтавалі мастацтвазнаўцы Рыгор Казоўскі і яго жонка Леля Кантар-Казоўская. Яны ў Ізраілі таксама нядаўна, пераехалі сюды ў 1992 годзе з Масквы.**

**Дарэчы, Р. Казоўскі аўтар адзінай на сённяшні дзень манаграфіі «Мастакі Віцебска. Іегуда Пэн і яго вучні», выпушчанай маскоўскім выдавецтвам «Імідж». А вучнямі яго былі Восіп Цадкін, Лазар Лісіцкі, Саламон Юдовін, Абель Пан... І, вядома ж, знакаміты Марк Шагал. У экспазіцыі было прадстаўлена дваццаць карцін і гравюр.**

**По матэрыялах газеты «Иерусалимские вести», 1994, N 31**

## ЛІРЫК ПЕЙЗАЖУ

**У пачатку мая ў Светлагорскай карціннай галерэі «Традыцыя» ўрачыста адкрылася персанальная выстава заслужанага дзеяча мастацтваў, гамяльчаніна Мікалая Канстанцінавіча Казакевіча да 60-годдзя з дня нараджэння. Аднойчы А. Саўрасаў зазначыў: «Калі няма любві да прыроды, то не трэба быць мастаком...» Нават пры першым, павярхоўным знаёмстве з работамі М. Казакевіча можна сказаць адназначна: ён лірык пейзажу.**

**М. Казакевіча звыкла называюць пейзажыстам, хоць працаваў ён у партрэтным і ў жанравым жывапісе. Варта прыгадаць «Юнацтва», «Над роднымі прасторамі», «У тыле ворага», што сталі хрэстаматыйнымі. І ўсё ж пейзаж — улюбёны жанр мастака.**

**Ён жыве ў Гомелі, але ведаюць яго не толькі ў Беларусі. Творы М. Казакевіча экспанаваліся ў Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Германіі, Шры-Ланкі, Фінляндыі, Францыі... Часта выстаўляліся яны ў Маскве. На персанальнай выставе ў Светлагорску прадстаўлены яго пейзажныя работы. Мастак адмовіўся ад дробнага ілюстрацыйнага апісальніцтва. У яго карцінах пануе не прамалінейная дакладнасць, пазнавальнасць пейзажу, а філасофскае абагульненне, што толькі падкрэсліваецца лёгкімі рухомымі мазкамі майстра.**

**Нялёгкі ў мастака лёс. Вайна забрала ў яго бацьку і маці, шасцёра дзяцей шукалі паратунку ў партызанскім атрадзе. Пасля — дзіцячы дом, вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы і ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Мастак і сёння з удзячнасцю прыгадвае такіх педагогаў, як Н. Галоўчанка, А. Малішэўскі, У. Хрусталёў, В. Волкаў, А. Мазалёў, В. Цвірка, У. Сухаверхаў.**

**На выставе ў Светлагорску, мабыць, упершыню сабраны разам карціны М. Казакевіча. Гляджу і прыгадваю нядаўнюю гутарку з ім. Мастак гаварыў аб жаданні прысвяціць шэраг новых карцін Гомелю, бо лічыць яго адным з самых маляўнічых гарадоў. Прызнаўся, што збіраецца сказаць сваё «слова» і аб чарнобыльскай трагедыі. І раптам нібыта спахапіўся, растлумачыў: «Я ніводнай работы не напісаў на палітычную тэму...»**

**Што ж, на тое ён і лірык пейзажу. Спадзяюся, не толькі ў маім уяўленні.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**
*г. Светлагорск*

## У БУДУЧЫХ АФІЦЭРАЎ

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» шэфствуе над Беларускай ваеннай акадэміяй — нядаўнім вышэйшым вучылішчам. Супрацоўнікі выдавецтва частыя госці ў будучых афіцэраў, рэгулярна ў мясцовую бібліятэку паступаюць кніжныя навінкі. І вось — чарговая сустрэча, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паўстагоддзя мінулася з той пары, а памяць — быццам рана. Калі і сцішваецца, дык не надоўга, з цягам часу зноў нагадвае аб сабе. Асабліва ў тых, хто сам прайшоў ваеннае ліхалецце, ваяваў у дзеючай арміі, быў партызанам, падпольшчыкам. А яны, удзельнікі барацьбы з фашызмам, і прыйшлі ў акадэмію — Аляксандр Капусцін, Іван Новікаў, Паўлюк Пранузa, Пятро Прыходзька, Алесь Савіцкі, Анатоль Сульянаў, Віктар Трыхманенка.**

**Адкрыў сустрэчу галоўны рэдактар «Мастацкай літаратуры» Мікола Кусянкоў, а вёў яе А. Сульянаў.**

# ПАЧЫНАЎСЯ Ў НАС

## СЯРГЕЙ ЭЙЗЕНШТЭЙН У БЕЛАРУСІ

Сяргей Эйзенштэйн вучыўся на інжынера ў Петраградзе. Быў час бурных грамадскіх зрухаў. На яго вачах адбыліся лютаўская, а затым кастрычніцкая рэвалюцыі. Акрылены юнак з уласцівым яму запалам робіцца актыўным рэвалюцыянерам, уступае ў студэнцкі атрад народнай міліцыі. Надыдзе час, калі гэты асабісты яго ўдзел у падзеях прынясе яму неацэнную карысць як мастаку. У пастаўленым ім кінафільме «Кастрычнік» будзе адлюстравана эмацыянальнае напружанне рэвалюцыйнага змагання і прыведзена шмат адпаведных дэталяў.

У 1918 годзе будучы кінарэжысёр пакідае інстытут і добраахвотна ідзе ў Чырвоную Армію, на фронт грамадзянскай вайны. У паходных умовах, у дні зацішша, ён рыхтуе спектаклі, робіць дэкарацыі, піша арыгінальныя плакаты. Віртуозна авалодвае алоўкам...

Чырвонаармейцы шчыра палюбілі нядаўняга студэнта, надзіва начытанага, які ўмеў даступна пераказваць змест самых разумных і складаных кніжак. Ён быў адзіны сын у высокаінтэлігентных і забяспечаных людзей (бацька яго — галоўны архітэктар Рыгі), у доме меліся ўсе ўмовы для развіцця і агульнай адукацыі. Асаблівая ўвага надавалася вывучэнню розных моў. Сяргей яшчэ падлеткам, акрамя латышскай, авалодаў рускай, нямецкай, французскай, англійскай, а пасля — беларускай і нават японскай мовамі.

У 1920 годзе Сяргей Эйзенштэйн апынуўся ў Беларусі. «18-е ваеннае будаўніцтва» — так называлася яго інжынерна-тэхнічная часць. Яе накіроўваюць у розныя мясціны франтавой паласы, і Эйзенштэйн знаёміцца з людзьмі нашых вёсак, мястэчак, пасёлкаў і гарадоў.

Прыгадваючы ў 1936 годзе ў Ялце (там здымаліся асобныя эпізоды фільма «Бежын луг») беларускі перыяд свайго жыцця, ён расказваў мне:

— Чырвонаармейцы мяне паважалі. І хоць я быў такі ж малады, як і яны, называлі Сяргеем Міхайлавічам. Мы часта пераязджалі і жылі на сухім пайку. Але беларусы — гасцінныя людзі. Яны запрашалі нас у хаты і частавалі гарачай стравою. У звычайным жыцці яны працавітыя і не дужа патрабавальныя да свайго побыту. Вельмі сціплыя, тактоўныя і ўважлівыя. У суседстве заўсёды памяркоўныя, высока цэняць згоду і сяброўскі лад. Незамкнёныя, шчодрыя і спагадлівыя ў цяжкую хвіліну.

У канцы лета я і іншыя чырвонаармейцы ўдзельнічалі ў малацьбе. У нас былі коні, і мы памагалі беднякам. Пасля працы ўсе разам спявалі і весяліліся за бяседным сталом. Стравы разнастайныя і заўжды смачныя, асабліва ні з чым не параўнаная беларуская мачанка. А славуты булён з цыбуляй і шкваркамі, а грыбы розных гатункаў і прыгатаванняў?!

Асабліва мне помняцца вячоркі-попрадкі. У чыю-небудзь хату сходзіліся маладзіцы і дзяўчаты з кудзеляю і прасніцамі. Прадучы, расказвалі па чарзе розныя былі і небыліцы, а пасля кудзеля канчалася, прасніцы ставілі ў кут і пачыналіся танцы, поўныя захаплення і забавы. І хіба можна забыць шматкаленны сялянскі вальс, поўны лірычных і жартоўных дзеянняў, неад'емнай забавы. Доўжыцца гэты вальс гадзіну і болей і нікому не надакучыць — ні тым, што кружаць у ім, ні прысутным, што назіраюць, бо тэатралізаванае дзеянне ў ім захапляе сюжэтам і нечаканай імправізацыяй...

Прыгадваю касавіцу. Ясныя дні, светлыя ночы, і начлег у копах духмянага сена. Дагэтуль гучаць у душы цудоўныя народныя песні, што пелі касцы, вяртаючыся дахаты. Яны ішлі захадам сонца — на фоне велізарнага барвовага дыска. Я хачу, каб наш кінааператар Эдуард Цісэ зняў гэта ў «Бежыным лузе» — спадзяюся ўзнавіць жывую карціну, якая не пагасла за шмат гадоў у памяці...

Зачаравана слухаў Эйзенштэйн спевы беларускіх жанчын і дзяўчат, гутарыў з імі. Запамінаў прымаўкі, звароты і жарты. Непрыкметна навучыўся гаварыць па-беларуску. Вельмі падабаліся яму словы «лёс», «чуласць», «разлогі», «характво».

Калі вайсковая часць, дзе служыў Эйзенштэйн, знаходзілася пад Лепелем, ён замацаваў сваю пачатую ў Вялікіх Луках дружбу з Канстанцінам Елісеевым. Елісееў быў тады мастацкім кіраўніком тэатральнай трупы палітаддзела арміі, якая базіравалася ў Полацку.

Калі Елісееў працаваў яшчэ ў Вялікіх Луках мастаком і акцёрам Дома асветы, да яго ў грыміровачную аднойчы зайшоў хударлявы юнак у зношанай форме студэнта Петраградскага інстытута цывільных інжынераў і паведаміў, што ў сваёй часці ён арганізаваў аматарскі тэатральны гурток, які намерваецца выкарыстаць пустую сцэну гарадскога кінатэатра. Госць назваў сябе Сяргеем Эйзенштэйнам. Ён спадабаўся Канстанціну Елісееву, і ў іх завязалася шчырае сяброўства. Бачыліся яны часта. У Доме асветы чыталіся лекцыі на розныя тэатральныя тэмы, і Эйзенштэйн ніводнай не прапускаў. Пазней К. Елісееў так апіша тагачаснага С. Эйзенштэйна: «Гэты кволы юнак вабіў да сябе мяккай усмешкай, за якой таілася нейкая хітрынка, а ў невялікіх светлых вачах, схаваных пад высокім ілбом, запальваліся іранічныя агеньчыкі, і тады здавалася, нібы дурэлі ў іх залатыя чарцянятки».

Ужо тады ў Эйзенштэйна было многа малюнкаў. Елісеева вельмі здзіўляла яго спелае майстэрства: разнастайнасць, шырыня ахопу і пранікнёнасць назіранняў. Проста не верылася, што ў зусім яшчэ маладога хлопца столькі ведаў, трапных назіранняў і мастацкіх нечаканасцей. Елісееў заўважыў, што Эйзенштэйн «шмат чытае, шмат ведае, а яшчэ болей думае і выдумляе».

Хвалявала цэлая серыя персанажаў з рускай і сусветнай класічнай драматургіі, а таксама часоў сярэдневечча. «Калі я папрасіў растлумачыць змест некаторых з іх, — прыгадваў Елісееў, — дык ён адказаў, што так ён сабе ўяўляе ўвасабленне п'ес, якія калі яшчэ нікім не напісаны, дык могуць быць напісаны».

Апынуўшыся ў Беларусі, Елісееў успомніў пра Эйзенштэйна. Было вядома, што той недзе на фронце. Але дзе? У сумятні перадыслакацыі яны ўсё ж знайшлі адзін аднаго, і Елісееў паклапаціўся, каб Эйзенштэйна перавялі да яго ў трупу мастаком...

Неўзабаве быў вызвалены Мінск. Елісеева і Эйзенштэйна выклікаў член Рэўваенсавета Юльян Мархлеўскі і прапанаваў размаляваць вагоны агітцягніка, які рыхтавалі на перадавыя пазіцыі.

«Працуючы ўвесь дзень навылёт, — пісаў Канстанцін Елісееў, — мы харчаваліся пайковымі хлебам і воблай, якую смажылі на вуглях тут жа сярод чыгуначных пуцей. Пра гэты перыяд жыцця Эйзенштэйн любіў прыгадваць, калі мы сустракаліся. Нарэшце, нам стала вядома, што першай пастаноўкай аб'яднанай трупы будзе «На дне» М. Горкага, дзе мне даручаецца роля Кляшча, і, апрача таго, мяне прызначаюць галоўным мастаком.

У мінскім тэатры дэкарацыйнай майстэрні не было зусім, і працаваць на сцэне даводзілася ноччу, бо днём яна была занята рэпетыцыямі, а вечарам на ёй выступалі з канцэртамі і эстраднымі нумарамі. Разам з Эйзенштэйнам мы распрацавалі план збудавання «Начлежкі».

Ветэран Купалаўскага тэатра заслужаны артыст рэспублікі Эдуард Шапко расказваў: «У той час зусім яшчэ малады Эйзенштэйн здзіўляў усіх нас сваёй памяццю, глыбокім веданнем сусветнай гісторыі, літаратуры, жывапісу, музыкі і архітэктуры. Слухалі яго мы, затаіўшы дыханне. Ён быў кучаравы, вельмі рухавы, падцягнуты. Падчас работы быў сур'ёзны і засяроджаны. У вольную мінуту любіў дасціпна пажартаваць, пасмяяцца. Умеў прыдумаць бяскрыўдны сяброўскі розыгрыш. На гэта трацiліся секунды, а часцей за ўсё ён шукаў зацішак і доўга чытаў розныя кніжкі...

Я шчыра і сардэчна сябраваў з ім, і яго, адзінокага, часта заводзіў да сябе дадому на гарачы абед, — гаварыў далей Эдуард Шапко. — Спіртнога ні ён, ні я не ўжывалі. І гэта мацавала нашу ўзаемапавагу. Аднойчы, як і належыць сябру, я яму сказаў: «Ведаеш, Сяргей, вакол твайго імя не спыняюцца перашэпты. Нашы акцёры, асабліва актрысы, часта заўважаюць цябе на рынку і сцвярджаюць, што ты да таго лоўкі па скрытнасці гандляр, што ніхто з іх дагэтуль не падлавіў, які тавар перапрадаеш...»

Эйзенштэйн засмяяўся: «Глупства, Эдуард! Брудныя плёткі. Я слухаю жывую беларускую гаворку. Мяне захапляе безліч народных інтанацый. Гэта прыносіць асалоду і радасць ужо само па сабе. А нам жа трэба ствараць нацыянальны тэатр. У каго ж вучыцца, калі не ў народа...»

— Ты знаеш, Аляксей, у мяне тады пырснула сляза. Напрошваецца яна і зараз. Мы ж і дагэтуль не авалодалі сваёй мовай. І дзе?! У сталічным тэатры!? Так дасканала, як Уладзімір Дзядзюшка, ніхто ў нас не гаворыць. Ганьба! Засушылі сваю гаротную, перайначылі, заштампавалі...

Менавіта тады, у 1920 годзе, у вызвалены ад белапалякаў Мінск прыехаў здымаць для кінахронікі Эдуард Цісэ. Агітцягнік, размаляваны Эйзенштэйнам, трапіў у кадр. Значыць, аператар і будучы рэжысёр у той момант знаходзіліся недзе побач, але яны яшчэ не ведалі адзін аднаго. Іхняе знаёмства адбудзецца праз чатыры гады ў Маскве. Гэтае знаёмства зробіцца творчай дружбай — на ўсё жыццё.

Жонка выкладчыка Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве В. Н. Нікіціна пакінула такі запіс у сваім хатнім архіве: «Сярожу Эйзенштэйна прывёў да нас у дом пісьменнік Павел Антонавіч Арэнскі, сын кампазітара Антона Арэнскага. Гэта было ўвосень 1920 года ў горадзе Мінску, куды штаб заходняга фронту перавялі са Смаленска. Мой муж займаў пасаду начальніка гаспадарчага аддзела штаба. У вячэрні час нашу даволі ўтульную кватэру наведвалі знаёмыя прыстойныя людзі. На шырокім стале пыхцеў самавар. Мы пілі чай з хлебам і цукрам, а затым музіцыравалі, спявалі, жартавалі.

Вось так аднойчы ўвечары і з'явіўся ў нас Сяргей Міхайлавіч Эйзенштэйн. Быў ён сярэдняга росту, з вялікай пышнай шавялюрай, і вельмі хударлявы. Гэта праз шэраг гадоў стаў ён нават залішне поўным. На ім быў белы кіцель і шапка са значком інстытута грамадзянскіх інжынераў. Мы з ім былі аднагодкамі, самымі маладымі ў кампаніі, і неяк хутка і проста пасябравалі.

На ноч трэба было зачыняць аканіцы. А ў пакоі неабходна было накінуць на іх нейкія просвы. Я ішла на вуліцу і зачыняла аканіцы, а Сяргей Міхайлавіч павінен быў іх прыцягнуць і накласці просвы. Усё гэта было даволі проста, але ён вырабляў гэта з такой мімікай і жэстыкуляцыяй, як у «сапраўдным кіно». Даволі часта дапамагаў мне па гаспадарцы: раздзьмухваў чобатам вуголле ў самавары, умела калоў на дробненькія кавалачкі цукар, каб піць чай «у прыкуску», тоненькімі лустачкамі наразаў хлеб, заварваў, як ён казаў, чай на «прыбалтыйскі манер».

Пра мінскі перыяд жыцця Елісееў расказваў: «Неўзабаве быў прапанаваны выбар: або ехаць у Рослаў, куды рухалася армія, або заставацца ў Мінску ў сістэме Наркамасветы, дзе пачынаў жыццё Беларускі дзяржаўны тэатр. Я вырашыў застацца ў Мінску, а Сяргей Міхайлавіч заявіў мне, што захапіўся марай паехаць у Маскву, каб паступіць у інстытут на аддзяленне японскай мовы. Акрамя таго, у яго ў Расіі маці, а ён адзіны сын. Мы горача абняліся і з тугою развіталіся».

Канстанцін Елісееў пасля таго яшчэ шмат гадоў жыў і працаваў у Мінску. Яго палюбілі і высока ацанілі нашы класікі Якуб Колас і Янка Купала. Усіх трох звязвала да канца дзён нічым не азмрочаная дружба.

Напярэдадні ад'езду з беларускай сталіцы Эйзенштэйн не спаў усю ноч, думаючы пра свой далейшы лёс. Праз многа гадоў ён напіша пра гэта ў аўтабіяграфічных запісках у звычайнай для яго манеры — кароткіх, адсечаных сказах:

«... Помню ноч у Мінску. Другі год. Палітупраўленне заходняга фронту. Мастак перасоўных франтавых тэатраў, ускудлачаны, качаецца па пасцелі. Мастаку трэба адважыцца на самае непрыемнае ў жыцці, трэба прымаць кардынальнае рашэнне — чым быць і кім быць. Я ведаю, як мастаку цяжка. Бо мастак гэты — я.

Бяссонная ноч.

Я ліхаманкава качаюся па пасцелі.

Поруч на стале папера.

Рашэнне Савета народных камісараў.

Студэнты могуць вярнуцца.

Атрымана ўдзень.

Выклік у інстытут у Петраград.

І ў гэты ж дзень атрыманы ад начальства дазвол ехаць у... Маскву.

Я заслужыў (размалёўка вагонаў, паходная, складная сцэна).

Там інстытут.

Тут... аддзяленне ўсходніх моў. Адна тысяча японскіх слоў.

Сто іерогліфаў.

Інстытут?

Стабільны побыт?

Трохі шкада сіл, пакладзеных на інстытут. Здадзена ўся вышэйшая матэматыка. Аж да інтэгрыраваных дыферэнцыяльных ураўненняў. (Як удзячны я матэматыцы за дысцыпліну!)

Але мне так хочацца пабачыць з цягам часу японскі тэатр.

Я гатовы яшчэ і яшчэ зубрыць і зубрыць словы. І гэтыя дзівосныя фразы інакшага мыслення.

Ды яшчэ хачу бачыць — тэатры маскоўскія.

На досвітку — рашэнне гатова.

Скрыўлены шлях, клапатліва вызначаны бацькавай рукою.

Хамут парваны.

Жэрабя кінута.

Пакінуты інстытут...»

У Маскву паехаў Эйзенштэйн не адзін, а са сваім сябрам літаратарам Паўлам Арэнскім. Той запэўніў, што там у яго не меней сотні добрых сяброў і знаёмых. «Так што пакуль што да чаго, начаваць будзе ў каго. А вось з харчаваннем там кепска». А таму пастараліся назапасіць сяго-таго ў Мінску. Напакавалі яны свае дарожныя рукзакі і рушылі хоць і ў таварняку, але ў вагоне з дашчанымі нарамі.

Ехалі даволі доўга, бо на вузлавых станцыях іхні састаў заганялі на запасныя пуці, дзе прастойвалі суткі, а то і болей. Але ўсё ж нарэшце прыкацілі ў белакаменную...

Эйзенштэйн быў у шынеліку, у палінялым салдацкім адзенні і ў ялавых чаравіках з абмоткамі.

Дзе пераначаваць?..

Куды ні паткнецца Арэнскі — не пускаюць. Можа, сёй-той і прытуліў бы яго аднаго. А з ім жа яшчэ нейкі салдат акопны з пашарпаным пляцаком і паз'яздажанымі абмоткамі...

Усюды дзверы адчыняліся і зачыняліся, як гаворыцца, перад носам. Абышлі шмат не блізкіх адна ад адной кватэр і — усё дарэмна. А трэба ж было паказаць ладны кавалак сала і бохан хлеба, і былі б прынятыя, як родныя браты. Наіўныя хлопцы, маладыя, не здагадаліся...

Насоўвалася цёмная, бесперспектыўная ноч. Дужа стомленыя, прыселі яны на лаўцы ў нейкім бульварчыку. Цяпла няма. На дварэ — кастрычнік. Арэнскі не ўтрымаўся, схліпнуў ад горкага расчаравання ў сябрах, знаёмых, сказаў: «Пайшлі б на які вакзал, але там а чацвёртай ночы ўсіх пасажыраў вытурваюць. Вызваляюць залы на прыбіранне...»

Раптам ускочыў, як уджалены: «Ведаеш, тут непадалёк жыве мая былая жонка. Яна замужам за вядомым тэатральным рэжысёрам Валянцінам Сяргеевічам Смышляевым. Пайшлі!»

Эйзенштэйн, чалавек з гумарам, насцярожыўся: «А памыямі нас там не абальюць, па карку не надаюць?»

— Ды што ты, — заспакоіў Арэнскі. — Яны ж людзі інтэлігентныя...

У гадзіну ночы даклыпалі да кватэры Смышляевых. Пастукалі ў дзверы. Пачулі жаночы голас: «Хто так позна?» Павел Арэнскі нібы здранцвеў, але хуценька ачомаўся, штурхнуў пад локаць сябра: «Гавары!»

Эйзенштэйн: «Я з Мінска. Са мною блізка знаёмы вам чалавек, баязлівы... Адчыніце!»

Кароткая паўза. І вось хлопцы чуюць той жа жаночы голас: «Валік! Нехта з Мінска... Беларускі акцэнт...»

Адказ: «Так, так! Я чакаю адтуль чалавека...»

Дзверы расчыніліся і здарожаныя малайцы ўвайшлі ў кватэру.

Высветлілася: Валянцін Сяргеевіч Смышляеў незадоўга перад гэтым ужо сустракаўся з прадстаўніком беларускага ўрада. Размова вялася пра арганізацыю ў Маскве Беларускай драматычнай студыі, кіраваць якою з вялікім жаданнем згадзіўся гэты выдатны рэжысёр і тэатральны педагог, непасрэдны вучань геніяльнага Станіслаўскага...

Дык вось, Смышляеў і падумаў, што гэта нехта прыехаў з беларускай сталіцы на працяг размовы. Але, тым не менш, у начлезе абодвум прыезджым не было адмоўлена.

«Раніцай, — як сведчыў кампетэнтны эйзенштэйназнаўца Іван Аксёнаў, — праз некалькі хвілін пасля пачатку гутаркі Эйзенштэйн ужо накідваў нейкі дэкарацыйны матыў, і Смышляеў, якому якраз быў патрэбны дэкаратар, мог толькі павіншаваць сябе з госцем. Верагодна, ён падумаў, што на лаўца і звер бяжыць. Эйзенштэйн ва ўсякім выпадку падумаў менавіта так».

... Паглыбляецца ва ўспаміны і, здаецца, нібы толькі ўчора развітаўся з Сяргеем Міхайлавічам альбо нават зусім не развітваўся з ім. Унутраным позіркам з бязмежнай выразнасцю бачыш яго, непаўторнага мастака з усеабдымным розумам, палымяным тэмпераментам і нейкай неадлучнай, магнетычнай абаяльнасцю.

Калі да Эйзенштэйна звяртаўся хто-небудзь, ён слухаў з пільнай увагай, шчырым даверам і непасрэднасцю. У здымачнай групе яго надта любілі і паважалі. Ён карыстаўся такім аўтарытэтам, які не часта бывае нават у самых славутых дзеячаў літаратуры і мастацтва. Людзі, якія працавалі з ім не адзін год, ездзілі разам у кінаэкспедыцыі і жылі пад адным дахам, размаўлялі з ім заўсёды пачціва. Ён разумеў, што валодае вялікай сілай уздзеяння, і змякчаў кожную такую сітуацыю далікатнасцю і сардэчнай усмешкай, вельмі даражыў таварыскай роўнасцю. Не вылучаўся сам і нікога не вылучаў, ставячыся да ўсіх з аднолькавай павагай.

Прыязджаючы на чарговую здымку, Эйзенштэйн вітаўся з кожным за руку і перад пачаткам працы звычайна расказваў што-небудзь смешнае, ствараючы добры настрой у калектыве. Дарэчы, самотным яго ніхто не бачыў нават у дні горкіх непрыемнасцей, якія, на жаль, не мінавалі геніяльнага мастака.

П'есу, якую ён ставіў у тэатры, ці кінасцэнарый Эйзенштэйн ведаў на памяць і мог, заплюшчыўшы вочы, убачыць унутраным позіркам увесь свой будучы фільм ці спектакль. Гэта давалася яму лёгка яшчэ таму, што задоўга да здымкі кожны кадр фільма ці сцэну ў спектаклі ён звычайна замалёўваў на паперы і такім чынам фіксаваў творчыя ўяўленні, якія могуць знікнуць бясследна. Памяць у Эйзенштэйна была фенаменальная ад прыроды, а малюнкі мацавалі яе, матэрыялізавалі. Яны патрэбны былі і для таго, каб багатая і падатная яго фантазія не завяла ўбок ад вызначаных кірункаў.

У працэсе працы Сяргей Міхайлавіч быў надта патрабавальны, настойлівы і цярплівы ў пошуках. Лічыўся з думкамі і парадамі сваіх калег. Паважаў і цаніў адданых справе энтузіястаў. Меў звычку гаварыць ціха, спакойна, ураўнаважана, але з вагою ў голасе. Усё, што адбывалася ў кадры і на здымачнай пляцоўцы, заўважала яго пільнае вока. Бачыў тое, што не заўсёды бачылі старанныя асістэнты і памочнікі. Бываў ён саркастычны і злы на язык, але не помніў і не спаганяў зла. Быў сумленны, справядлівы і гэтага патрабаваў ад іншых.

Рэжысёра разумелі з аднаго яго позірку. У задуманым ён аставаўся непахісны і на шляху да мэты пераадольваў любыя перашкоды.

Усе мы ведалі: калі ў Эйзенштэйна рукі на жываце — падходзь смялей, ён у добрым гуморы, лагодны. Калі ж за спінаю — раззлаваны і непрыступны... Нечым незадаволены. І тады не пазайздросціш таму, хто вінаваты. Ад напружанай работы стамляліся ўсе, толькі не ён. У перапынках людзі адпачывалі, а ён увесь у руху. Убачыш яго ў грыміровачнай, а праз якую хвіліну чуеш голас ужо ў касцюмернай альбо з гукаапаратнай. Да ўсяго меў справу, усё правяраў сам.

Дзіву даешся, адкуль у яго было гэтулькі энергіі і трываласці. А пятай гадзіне раніцы ён канчаў здымкі, а ў дзевяць быў ужо ў кінаінстытуце, чытаў лекцыі студэнтам. Вяртаўся дадому і паглыбляўся ў кнігі, а ўвечары ішоў зноў на здымкі. І так кожны дзень. Рэпеціраваў ён доўга пад асляпляльным святлом велізарных пражэктараў. Захапляўся творчасцю да такога самазабыцця, што губляў адчуванне часу. Памятаю, аднойчы глыбокай ноччу некага не аказалася ў патрэбны момант на здымачнай пляцоўцы. Звычайна ціхі, ураўнаважаны, Эйзенштэйн загрымеў у мікрафон:

— Дзе чалавек?.. Быў чалавек, і няма чалавека! Куды знік?

— Сяргей Міхайлавіч, ён абедае, — нясмела паведаміў нехта з памочнікаў.

Рэжысёр збянтэжыўся:

— Абедае?.. Хто ж ноччу абедае?!

Сяргей Міхайлавіч усім быў даступны не толькі ў жыцці, але і ў творчасці. У час здымкаў дзверы ў яго павільёне не зачыняліся, і кожны мог прысутнічаць. Болей таго, ён любіў здымаць на вачах у людзей. Асабліва многа цікаўных тоўпілася каля здымачнага аб'екта на натуры. З гэтай грамады звычайна падбіралі статыстаў у масоўку. Эйзенштэйн быў адзінокі, меў жыццёвую, а таксама і творчую патрэбу гарнуцца да людзей. Выдатны тэатральны крытык і мастацтвазнаўца Іосіф Юзоўскі дае гэтаму тлумачэнне: «Ён быў таварыскі чалавек, яму патрэбны былі людзі, іх прысутнасць падымала ў ім тонус жыцця, радасць светаўспрымання, і патрэбен быў водгук, просты водгук на тое, што ён зрабіў, добразычлівы водгук дзеля таго, каб абуджаць прагу далейшай дзейнасці. Яна ў яго была, вядома, гэтая прага, але каб яна, так сказаць, здзейснілася, яму патрэбен, вельмі патрэбен быў гэты штуршок».

Ён меў велізарную славу. Адказваючы на бурныя воплескі, якімі яго сустракалі за мяжою, ён безупынна паўтараў: «Вы вітаеце не Цісэ і Эйзенштэйна, а мастацтва нашай краіны».

Сусветна вядомы мастак-кінарэжысёр, з'яўляючыся доктарам мастацтвазнаўства і прафесарам Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі, ён быў найвялікшым тэарэтыкам мастацтва, пакінуў пасля сябе каля двухсот навукова-даследчых прац, якія вывучаюцца цяпер у акадэміях усяго свету. Іменна Эйзенштэйн быў адным з тых, хто заклаў фундамент сучаснай навукі ў галіне кіно.

Жывучы ў Маскве, я наведваў беларускую бібліятэку і клуб на Арбацкай вуліцы, дзе слухаў лекцыі, чытаў і перачытваў творы беларускай літаратуры. Помню, як аднойчы ў чытальную залу беларускай бібліятэкі зайшоў С. Эйзенштэйн, папрасіў том Якуба Коласа і паглыбіўся ў чытанне паэмы «Сымон-музыка». Пасля я даведаўся, што Колас спатрэбіўся яму для навучальнай ілюстрацыі. Праз тыдзень на «Масфільме» была абвешчана лекцыя Эйзенштэйна для акцёраў-лялькаводаў цэха аб'ёмнай мультыплікацыі, які ўзначальваў А. Птушко. Тэма лекцыі — «Развіццё таленту ў працэсе жыцця і творчай працы».

Як заўсёды, на выступленне Эйзенштэйна прыйшло шмат людзей з іншых цэхаў і кіназдымачных груп. Усе з цікавасцю слухалі Сяргея Міхайлавіча, які ілюстраваў сваю прамову багатымі прыкладамі з літаратуры і мастацтва ўсяго свету, пачынаючы з далёкай старажытнасці і да нашых дзён. Гаворачы, напрыклад, пра Пушкінскага Моцарта і Сальеры, ён лёгка і трапна пераходзіў да «Марціна Ідэна» Джэка Лондана і потым ужо нечакана да Лесі Украінкі і яе «Лясной песні».

Расказваючы пра лёс таленту ў дарэвалюцыйныя часы, Эйзенштэйн раптам спаслаўся на паэму Якуба Коласа і прачытаў на чыстай беларускай мове:

**Эх, чаго нам не прыйшлося,**
**Браце мілыя, ужыць!**
**Колькі талентаў звялося,**
**Колькі іх і дзе ляжыць,**
**Невядомых, непрызнаных,**
**Не аплаканых нікім,**
**Толькі ў полі адспяваных**
**Ветру посвістам пустым!**

Гэтыя радкі, вядомыя змалку, раптам ажылі перада мною ў новым зіхатлівым святле.

Сяргей Міхайлавіч Эйзенштэйн пражыў усяго 50 гадоў і 18 дзён. Недацягнуў да свайго ўжо абвешчанага юбілейнага вечара. Эдуард Цісэ гаварыў пра яго так: «Ён любіў жыццё за тое, што яно дае мажлівасць бачыць усё прыгожае, паэтычнае і незвычайна радаваўся яму...»

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА**

# «ПРА ГЭТА» — ПЕРАДУСІМ... У ТЭАТРЫ

***Нядаўняя прэм'ера Рэспубліканскага тэатра юнага гледача «Пра гэта не кажуць» дасціпна засведчыла, што для тэатра няма забароненых тэм, але таксама накрэсліла тэмы звышсучасныя, хворыя, так бы мовіць, для прадстаўнікоў і самых заможных, самых багатых нацый, і для прадстаўнікоў другога, трэцяга, чацвёртага і якога яшчэ там свету... Наша размова з Хубэртам ФЛАХУБЭРАМ, кіраўніком і дырэктарам маладзёжнай трупы «Шнаўль» Нацыянальнага тэатра Мангайма, — аўтарам спектакля, ягоным рэжысёрам і, так бы мовіць, натхніцелем, закрануўшы адвечную мастацкую тэму, схілілася, аднак, крыху ў іншы бок.***

— Я не толькі пазнаёміўся са шмат якімі адметнымі беларускімі акцёрамі, — ласкава пачаў спадар Флахубэр, — але і абмяняўся вопытам работы з імі. Перадусім я пераканаўся ў тым, што нашы погляды на мастацтва супадаюць.

**— Нават у такой далікатнай справе, як палавое выхаванне дзяцей? Вы адважыліся прысвяціць ёй спектакль «Пра гэта не кажуць».**

— Ну, я б на такую цудоўную тэму размаўляў бы пастаянна. Але спадзяюся, што дзеці, якія прыйдуць глядзець на тое, пра што не кажуць, даведаюцца пра яго куды больш у тэатры, чым ад бацькоў ды педагогаў школы.

**— Я ведаю, што вы «не казалі пра гэта» ўжо ў сябе дома ў Мангайме. Як прымалі спектакль на радзіме?**

— Увогуле спектакль карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі ў Германіі, але і ва ўсім свеце, таму што ён вельмі й вельмі даступна распавядае дзецям пра шмат якія праблемы, якія для пэўнага ўзросту бываюць невырашальнымі. Гэты спектакль упершыню паставіў вядучы тэатр з так званага гурта «Ротэ груцэ» («Чырвоная каша»). Гэта была такая суполка тэатральных работнікаў, якая ў сваю творчасць, мовім так, мяшала трошкі сацыялізму, а назва «Чырвоная каша» была потым абыграна, маўляў, калі шмат такой кашы з'есці, ад яе пачынае жывот балець. А тэатр, дзе я працую, называецца «Шнавэль», што ў перакладзе азначае «адкрыты рот», або «разяўленая дзюбка». Гаворка на нашых спектаклях ідзе пра моладзь, якая часцяком задае пытанні, на якія старэйшае пакаленне не мае што адказаць. Тэатр наш параўнальна малады і перажывае зараз юнацкі ўзрост. З куртатых штонікаў мы ўжо выраслі, зрабіўшыся важным складнікам мастацкай культуры Мангайма. Нам трынаццаць гадоў. За год мы даём па дзвесце-дзвесце пяцьдзесят спектакляў. У тэатры працуе ўсяго шаснаццаць чалавек. У пастаянным штаце — толькі чацвёра. Нашы гледачы — гэта жыхары Мангайма і навакольных раёнаў у радыусе ста пяцідзесяці кіламетраў. Бальшыня нашых гледачоў — ад шасці да дзесяці гадоў. Але, па маіх назіраннях, самыя цікавыя прадстаўленні надараюцца тады, калі разам з дзецьмі прыходзяць бацькі. Асабліва важна для нас ставіць для моладзі, якая ведае толькі дыскатэкі ды клубы.

**— У нас падобныя праблемы...**

— Таму варта падбіраць такія спектаклі, якія б цікавілі моладзь з самых нечаканых бакоў. Мы, напрыклад, увялі ў свой рэпертуар яшчэ адзін спектакль «Чырвонай кашы» — «Што значыць каханне». Гаворка там ідзе пра пачатак самых пяшчотных дачыненняў між людзьмі, пра радасць блізкасці, ну і, вядома, пра сродкі супраць цяжарнасці ды СНІД. У нас такія тэмы вельмі цікавяць моладзь, зала зазвычай перапоўненая. Праўда, у нашай зале ўсяго сто пяцьдзесят месц, але пляцоўка, на якой працуюць артысты, на адным узроўні з глядацкімі крэсламі. Нам вельмі важна ўзаемадзеянне між акцёрам і гледачом.

**— А чаму вы аддаяце перавагу як рэжысёр?**

— Сумленнасці. Слова і дзеянне могуць быць цікавымі толькі ў тым выпадку, калі глядач адчувае, што чалавек на сцэне хоча сказаць нешта яму і толькі яму, і — шчыра. А інакш — гэта змарнаваныя высілкі кахання... Мы лічым, што любы артыст — гэта першазвеснік любой філасофіі. Каб стварыць свет, годны чалавека.

**— А як вы ставіцеся да нямецкай класікі?**

— Як прадстаўнік дзіцячага і маладзёжнага тэатра я кажу ёй — не! Мы намагаемся знайсці сучасных аўтараў, таму звяртаемся і ў Швейцарыю, і ў Галандыю, і ў Данію. Менавіта драматургі гэтых краін цяпер шмат уплываюць на нашы маладзёжныя тэатры. Хоць я пераканаўся, што моладзь з цікавасцю глядзіць у Нацыянальным тэатры Шылера, напрыклад. Але сваю задачу я бачу ў іншым: дапамагчы дзецям, юнакам неяк прыстасавацца да жыцця, больш яго спазнаць, а ў гэтым сэнсе Шылер і Гётэ мала дапамагаюць. Хоць не выключаю, што якісьці таленавіты рэжысёр з Беларусі так ператрактуе нямецкую класіку, што яна зробіцца тэатральным шлягерам.

**— Я б хацела запытацца, хто вас фінансуе, як пастаўлена справа з рэкламаю, як паводзіць сябе з вашым тэатрам прэса і, скажам, міністр культуры, але коратка гэта, напэўна, варта сфармуляваць так: што такое спектаклі вашага тэатра для горада і для тых, ад каго залежыць і горад, і, апасродкавана, спектаклі?**

— У нас ёсць свой зямельны (зямлі Бадэн-Вюртэмберг. — **Ж. Л.**) міністр культуры, але ягоная якасць куды ніжэй за якасць спадара Рылаткі (намесніка міністра культуры Беларусі. — **Ж. Л.**), таму што ваш спадар умее паставіць справу так, што такія выдатныя майстры, як я, маюць магчымасць працаваць як лічаць патрэбным. (Пры гэтым спадар Фалхубэр абаяльна пасміхаецца і хітравата назірае за маёй рэакцыяй!) А што да стаўлення... Вось вам, напрыклад, артыкулы з нямецкіх газет. Вось загалоўкі: «Запрашэнне да распусты», «Спакуса», «Спакушэнне распустаю». У 1983 годзе, калі спектакль з'явіўся, яго спаткала бура абурэння, у 1987 некаторым класам у школах было забаронена наведваць наш тэатр. Маўляў, бацькі баяліся, што іхніх дзяцей... спакусяць! Гаротныя бацькі, яны не разумелі, што дзеці ўжо даўно ведаюць куды больш, чым яны, узорныя мацяркі ды бацькі, ім дазваляюць... Бо дзеці ўжо даўно глядзелі парнафільмы па некаторых каналах тэлебачання, не прамінулі часопісы з аголенымі кабетамі, а ў тэатры голых людзей няма. Праўда, за час эксплуатацыі стаўленне шырокай публікі да спектакля ўсё-такі змянілася, але ёсць зашмат кансерватыўна настроеных людзей. Наш спектакль цікавы тым, што кожны раз ідзе па-новаму: таму што асноўным нашым партнёрам з'яўляецца глядач! І тэма, і праблемы, узятыя намі, невычарпальныя. І я захапляюся вашым ТЮГам і, вядома, Беларуссю, самой рэспублікай, якія ўпершыню адкрылі гэтую тэму для ўсіх былых рэспублік СССР, якія не пабаяліся эксперыменту.

**— Здаецца, нас хутка з галавою накрые хваля парнакіно, аголенай натуры на вокладках магчымых і немагчымых выданняў і да т. п...**

— Таму як ніколі важна менавіта з маленства паказаць дзецям, што каханне — гэта не парнаграфія, што нічога агульнага яна з ёй не мае, але звязана з вялікай пяшчотай і вялікай адказнасцю.

**— «Пра гэта не кажуць» — гэта яшчэ і пра каханне?**

— О, так, бо пра каханне таксама няшмат цяпер кажуць.

**— А ў спадара Флахубэра ёсць дзеці?**

— Няма, але я штодня намагаюся зрабіць так, каб яны былі.

**— А вы б іх на свой спектакль запрасілі?**

— Я б іх кожны дзень браў у тэатр. Браў бы, бо працую з пачуццём вялікай адказнасці перад дзецьмі і моладдзю. Рэч у тым, што дзіця не знаходзіцца ў цэнтры ўвагі нямецкага грамадства. Гэта не проста маё меркаванне, — на жаль, я канстатую факт, не мною даведзены да грамадскіх вушэй. Калі вы паглядзіце хоць бы на тое, якія памяшканні аддадзены дзецям для гульняў і навучання, дык самі пераканаецеся, што дзіця не можа, як у нас кажуць, «прадстаўляць грамадскую думку». Для рэкламы — так, дзіця мае вялікае значэнне. Напрыклад, для прыватнага тэлебачання, — яно без дзіцячай рэкламы жыць не можа: каб дзеці паўплывалі на бацькоў ды прымусілі іх набыць тое, што рэкламуюць! Рэкламныя выдавецтвы проста эксплуатуюць дзяцей! І робіцца гэта так па-майстэрску, што ніхто нізавошта не скажа: эксплуатацыя.

**— Ці не значыць гэта, што тэатру ў жыцці дзіцяці вы надаяце яшчэ і пэўную ахоўную функцыю?**

— Менавіта так я разумею сваю задачу. Таму і займаюся толькі дзіцячым тэатрам. У нас дзецьмі злоўжываюць, а я магу для іх сёе-тое зрабіць.

**— Але беларуская прэса поўніцца прыкладамі нямецкай дапамогі нашым беларускім дзецям, якіх цяпер ужо ўсіх можна назваць дзецьмі Чарнобыля...**

— Немец намагаецца супакоіць сваё сумленне тым, што можа ахвяраваць дзесяць марак і сказаць сабе, што зрабіў добрую справу. Але калі яму кажуць, што дзесяць марак у Германіі — гэта ж зусім няшмат, а беларускаму дзіцяці можа спатрэбіцца куды больш, — вы няшмат знойдзеце людзей, якія гатовы зрабіць гэтае «куды больш». Сацыяльнае сумленне прасцей за ўсё супакоіць дзесяццю маркамі. Свет перакулены... І перакуленае светаадчуванне, на жаль, амаль што норма для жыхароў Германіі. Хоць, ваша праўда, тыя, якія, спачуваючы, дапамагаюць дзейсна, умеюць аб'ядноўвацца і павялічваць, узмацняць сваю дапамогу... І сябе я разглядаю як маленькага пасланца, які спракавечную нямецкую дабрыню ўсё-такі распаўсюдзіць наўкола...

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**
**з дзейснаю дапамогаю перакладчыцы**
**Галіны БЯСПОЛАВАЙ**

ЛіМ
ЧАСАПІС

# АД РЫСАСЛОЎ ДА РОК-Н-РОЛУ

**8 траўня ў полацкай галерэі «Рыса» адзначыла свае першыя ўгодкі Таварыства вольных літаратараў. Падчас імпрэзы адкрылася мастацкая выстава «ТВЛаўская рэтраспектыва», дзе бралі ўдзел самі літаратары-тэвэлаўцы (некаторыя з іх маюць мастацкую адукацыю) і прафесіяналы, што афармляюць выданні Таварыства (Рыта Цімохава, Алесь Аўчыннікаў). Экспазіцыя распачалася «ТВЛаўскім стадам» — вялікім аркушам, склееным з аіша і вокладак паэтычных зборнікаў Таварыства. Недалёка ад яго сустракаў гасцей і транспарант «Няхай жыве беларуская літаратура»», падпісаны як «транспарант, які адпачывае». У экспазіцыі таксама прысутнічалі «рысасловы» Людмілы Сільновай, канцэптуальныя малюнкі Алеся Аркуша, графіка Рыты Цімохавай, Алеся Аўчыннікава і Лявона Вольскага, малюнкі на фотапаперы Леры Сом, дзіцячы малюнак Антона Козіка, вядомы па вокладцы «Ксэракса беларускага», N 5, і чыстыя аркушы паперы, якія былі размаляваны і спісаны вершамі падчас імпрэзы.**

**У паэтычнай частцы выступілі Славамір Адамовіч, Сяргей Мінскевіч, Юры Гумянюк і Алесь Аркуш. Полацкая паэтка Лера Сом, праспяваўшы ўласныя бардаўскія песні, распачала музычную праграму імпрэзы, у якой, акрамя яе, выступілі Лявон Вольскі («Мроя»), Кася Камоцкая («Новае неба»), Алесь Кузьмін (экс-»Мясцовы час») і Сяргей Анішчанка (экс-»Грунвальд»).**

**А. КОЗІК**

# ЛЯСНЫЯ ФАНТАЗІІ



**Цудоўныя вырабы з бярозы выходзяць з-пад рук жыхара Навагрудка Аляксандра Іванавіча Кондру. Ягоныя вазы, пісьмовыя прыборы, глякі, сальнічкі не раз экспанаваліся на выстаўках у Гродне і Мінску і заўсёды карысталіся поспехам.**

**Трыццаць тры гады выкладаў Аляксандр Іванавіч матэматыку ў школах Навагрудчыны. А калі пайшоў на пенсію, таксама вырашыў не сядзець, склаўшы рукі. Часта ходзіць у лес, адшуквае розныя нарасты, бярозавыя капы і... фантазіруе.**

*На здымку: А. Кондру са сваімі вырабамі.*

*Фота Эдуарда КОБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

# «НАША НІВА», N6

**Аднаўленая «НН» распачала чацвёрты год свайго існавання. З гэтай нагоды рэдакцыя ўчыніла праменад з Вільні ў Давыд-Гарадок і назад у Вільню, двума шляхамі перасякаючы ўсю Беларусь з поўдня на поўдзень. Было што пачуць ды пабачыць у Слоніме, Івацэвічах, Бярозе, Пінску, Століне ды шматлікіх беларускіх мястэчках і вёсках. Акрамя падарожных нататкаў у гэтым нумары «НН» друкуюцца матэрыялы пра рэдактара колішняй «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава — самую каларытную постаць беларускага нацыянальнага руху і пра драматурга Эжэна Ёнэско, які нядаўна памёр у Парыжы. Адзінаццаць гадоў таму п'еса Ёнэско «Лысая спявачка» была пастаўлена ў Менску. Змешчаныя навелы аднаго з найбольш папулярных сёння ў Польшчы пісьменнікаў Уладзіміра Пазнеўскага, эсэ ірландскай карэспандэнткі «НН» Мэвы Марон, проза, артыкулы, аналіз таго, што сёння адбываецца на Беларусі, рэцэнзіі ды шмат усяго іншага. Нават гумар.**

Пошта

# ЯШЧЭ РАЗ ВАКОЛ НАШАГА СУВЕРЭНІТЭТУ

Не магу не падзяліцца некаторымі заўвагамі аб тым тэатры абсурду, у які ператворана кампанія па выбарах прэзідэнта нашай суверэннай краіны. Нехта нам дэкляраваў з тэлеэкрана, што будзе прадстаўлены роўны тэлеэфірны час для выступленняў усім афіцыйна зарэгістраваным кандыдатам на пасаду прэзідэнта. Той эфірны час, мабыць, усё яшчэ наперадзе.

А цяпер глядзім «Панараму». Што тут скажаш? У апошнія часы аднаго вядомага палітычнага дзеяча праграмы «Час» у народзе называлі так: «Бэнефіс Брэжнева і трошкі аб надвор'і». Цяпер тое самае, што так надакучыла ўсесаюзнаму гледачу, прапануюць паўторна гледачу беларускаму. Кожны выпуск нашай афіцыйнай інфармацыйнай праграмы пачынаецца з аднаго і таго ж — удзелу «рэальнага прэтэндэнта» ў той ці другой, іншы раз спецыяльна падрыхтаванай імпрэзе, расказ пра якую доўжыцца пасля заканчэння «Панарамы» на працягу адвольнага прамежку найлепшага эфірнага часу. І за каго нас лічыць гэтая папулярная тэлеэкранная асоба! Бачыце, якая яна добрая: надрукавала ажно 4 трыльёны зайчыкаў для сельскай гаспадаркі! А камерцыйныя банкі, якія яны нядобрыя, усё больш і больш задзіраюць курс расійскага рубля ў адносінах да таго самага зайчыка! Толькі ці лёгка цяпер знайсці настолькі недасведчаных людзей, якія б не ведалі аб існаванні жорсткай аб'ектыўнай залежнасці другой з'явы ад першай.

Ва ўсе часы, ва ўсякай краіне адным з самых злосных злачынцаў лічыўся фальшываманетчык. Справа тут не толькі ў тым, што гэта — шлях да лёгкага абагачэння канкрэтнай асобы. Выпуск не забяспечаных новымі матэрыяльнымі дабротамі новых грошай падрывае фінансавую сістэму любой дзяржавы. Саматужных фальшываманетчыкаў у нас як быццам не выяўлена. Значыць, адзіная прычына інфляцыі ў нашай краіне — выпуск незабяспечаных грошай самой дзяржавай, якая хоча патраціць болей, чым зарабіла.

Папулярная тэлеэфірная асоба клянецца, што з падпісанага ёю дагавору з Расіяй не вынікае ніякай шкоды для нашага суверэнітэту. Што на гэта сказаць? Калі б тыя мёртванароджаныя дакументы, якія былі падпісаны насуперак дзеючай Канстытуцыі, без агульнанароднага рэферэндуму, уступілі ў сілу, то гэта быў бы крок назад нават у параўнанні са сталінска-брэжнеўскім Саюзам. У рамках былога Саюза многае вырашалася як бы не яўна. Беларусь атрымлівала танную нафту, іншую дапамогу за тое, што размясціла ў сябе вялікую колькасць агульнага войска, за транзіт грузаў па яе тэрыторыі, за тое, што першай сустракала ворага, за працу беларусаў на неабсяжных прасторах Сібіры, нарэшце, за тое, што над яе тэрыторыяй быў рассеяны чарнобыльскі попел, які пагражаў Ленінграду і Маскве. Цяпер расійскі бок узняў цэны на сваю нафту і іншыя энерганосьбіты, — што ж, давайма лічыць грошы і мы. Думаю, што гэта было б цалкам лагічна. Нават прэзідэнт Назарбаеў, вядомы прыхільнік агульнай эканамічнай і палітычнай прасторы, дамогся штогадовых выплат за Байканур. Нам жа прапануюць праглынуць аднаразовую падачку ў выглядзе абмену адных папяровых грошай на другія. Аднак папяровыя грошы зручныя тым, што іх можна надрукаваць яшчэ і яшчэ. А вось суверэнітэт — такая кепская штука, што прадаць яе можна толькі адзін раз, другі раз прадаваць ужо не будзе чаго.

**Аляксандр УРБАНОВІЧ**

*г. Гомель*

# НЕ ЗМІРУСЯ З БОЛЕМ НІКОЛІ

Пра тое, што баліць, а чаму баліць — не ведаем, — чаму б не пагаварыць з любімай газетай? Гэты боль схаваны недзе далёка-далёка, мабыць, перададзены нам разам з генамі. А мы яго сароменіся і запіхвалі яшчэ глыбей. Але ён увесь час дрэнчыў, а калі-небудзь моцна напамінаў аб сабе, проста выбухаў. Знайшоўся-такі, хоць і позна, адзін дужы чалавек, якому гэты боль стаў нясцерпным, і ён захацеў пазбавіцца болю. Але боль трэба выдаляць з усіх нас, бо ўсе мы хворыя. Мы розныя. Хтосьці зміры́ўся са сваім болем, махнуў на яго рукою ды марудна памірае. А камусьці наш боль не баліць. Ёсць і такія, хто радуецца нашаму болю.

«Скажу стучащимся — на пути вашем может встретиться духовности полный сосуд, сумейте распознать его». Гэта — з вучэння Жывой этыкі. Ці пазнаем мы «духовности полный сосуд»? Ці патрэбен ён будзе нам, знявераным, зняважаным ды абражаным?

Асабіста я веру ў тое, што Максім Багдановіч быў дадзены нам Богам. «Случайностей не бывает», — сцвярджае Жывая этыка. Нашыя бацькі казалі тое самае: «На ўсё воля Боская». «Хоць зернейкі засохшымі былі — усё ж жыццёвая іх сіла збудзілася; і буйна ўскаласіла вясною жыта на раллі». Вырас, выспеў Колас — наш хлеб. Паўстаў з нябыту язычаскі бог — Купала. І мы старанна, як археолагі, пэндзлікамі ачышчаем сваю душу ад пылу стагоддзяў. Аднаўляем старажытнае вясёлае свята — Купалле. Яно таямнічае і рамантычнае, як сам Купала. І Ярыла прыходзіць да нас на Вялікдзень. Мы ўсе адтуль, з язычнікаў, з язычніцтва. І мы, усе людзі жывём на адной зямлі, імя якой Беларусь. Разбягаемся па веравызнаннях, канфесіях, партыях — варагуем. Давайце маліцца адной Багіні — Незалежнасці. Будзе ў нас свая Маці — Краіна, — яна памірыць каталіка з праваслаўным, аддасць належнае габрэю, паляку, рускаму...

На другі Вялікдзень (а першы быў мой — каталіцкі) я хадзіла на ўсяночную ў царкву. Трымала ў руках запаленую свечку й у думках малілася за нас, за нашых дзяцей, за Беларусь, за таго, хто позна прыйшоў на нашую зямлю, каб мы здзейснілі тое, што другія народы даўно зрабілі. Яны вызначыліся, як нацыі, як дзяржавы. Але ж, што датычыць нас: сапраўды — лепш позна, чым ніколі.

**Ганна МАТУСЕВІЧ**

*м. Койданава*

# ГОРАД МІЛОСЦІ

*(Пачатак на стар. 5)*

хопіць сіл і волі дамагчыся нармальных дэмакратычных пераўтварэнняў — гэта пытанне. Але вымогі ў гэтым кірунку прыкладаюцца — і пісьменнікамі, і мастацкай інтэлігенцыяй, і інтэлектуаламі. Што да тонкай палітычнай дыферэнцыяцыі, дык у нас да яе пакуль далёка, бо адносна закансерваванай сацыялістычнай стагнацыі можа быць толькі два радыкальныя франты — «за» і «супраць». Хто «за», той маўчыць, хто «супраць» — не можа зрабіць амаль нічога. Горад Зэра... У тым наша «спецыфіка».

Але, думаецца, мінуў час вектарнага супадзення клопатаў нацыянальнай інтэлігенцыі і клопатаў дзяржавы. Так было ўсцяж у XX стагоддзі. Сёння, аднак, пры непарыўнай гістарычнай еднасці дзяржаўнасці і духоўнасці краін Усходняй і Сярэдняй Еўропы, — інтэлектуалы выступаюць хутчэй як нацыянальныя агасферы, вольныя людзі, прадстаўнікі міжнароднага ордэна духу. І арыентавацца ў сваіх стасунках мы мусім перадусім на ідэалістычны элемент ці то ў Польшчы, ці то ў Беларусі, ці то на Украіне. Бо эмпірычная рэальнасць і рэальнасць духоўная, ідэальная, — розныя рэчы. Асабліва што датычыць Беларусі...

Знаны польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі, чые фільмы ў мінулым годзе далялі нарэшце да Беларусі, падзяліўся з гледачамі поглядамі на будучнасць усходнееўрапейскага рэгіёна. Маэстра-філосаф лічыць, што, маючы за сабою стагоддзе страт і марнага лёсу, нашыя народы павінны знайсці новую ідэнтычнасць у свеце, новае самаасведамленне, і гэта, на яго думку, і павінна даць новы спадзеўны імпульс для палітычнага і духоўнага ўладкавання нашых краін, новы штуршок для развіцця мастацтва. З гэтай думкай цяжка не пагадзіцца. Але дзеля ўсяго той жаданы ідэнтытэт, тую нязнаную свомасць перадусім трэба знайсці. Знайсці ўсім нам. Дзякуй за ўвагу!».

Дарэчы, захапіўшыся «Еўропай», зусім забыліся пра Летуву. Для трох славянскіх бакоў — польскага, украінскага і беларускага — таямніцай засталося, прынамсі, сённяшняе ўнутранае інтэлектуальнае жыццё ў Летуве, бо яе прадстаўнікі не выявілі славянскага імпэту падчас гамонак і засталіся самнасам са сваімі думкамі... Ім не перашкаджалі бавіцца ўнутранымі роздумамі.

Ды ўсё ўрэшце канчаецца. Горад Мілосці застаецца такім толькі да пэўнага часу, і самае галоўнае — пакінуць яго да таго моманту, калі з'явіцца першая хмурынка жалю ці то расчаравання. І па той жа Любартоўскай вуліцы, як калісь паны-рада, ці як яшчэ раней Францыск Скарына, — сыходзім да вакзала аўтабуснага, купляючы поспехам булкі з макам і акідваючы на развітанне паглядам каралеўскі палац, у які ўваходзіць новая хваля экскурсантаў з усяе Еўропы. Былі там і мы... Перад намі ад Люблінскага вакзала адыходзіць аўтобус «Люблін—Лондан»... «Шаноўнае спадарства! Падаецца, сам факт арганізацыі такой канферэнцыі, як наша, ёсць сведчаннем на карысць пэўнай метафізічнай з'явы, менавіта метафізічнага звароту да таго ідэалёва-культурнага кантынууму (еднасці), што рэальна існаваў у нашай супольнай дзяржаве калісь... Аказваецца, сучасная герменеўтыка сутыкаецца ледзь не з немагчымасцю дыферынцыраваць той кантынуум на польскі, беларускі, украінскі ды летувіскі складнікі, і так па розных відах мастацтва і досведу: музыцы, філасофіі, літаратуры, жывапісе і інш. Адбываецца як быццам унутрана супярэчлівая рэч: грунтуючы культуровыя штудыі ў абсягу свайго айчыннага (польскага, украінскага, беларускага...) дыскурсу, мы адначасна торым шлях і ў мінуласць, да мінулае еднасці. І наша прыяцельская сустрэча ў старажытным Любліне ёсць не што іншае, як пэўны знак вяртання да тае еднасці... » — казаў адзін з нас на развітальны спіч, і яго чулі сцены Трыбунала, што ў старажытнасці выслухалі безліч «вышніх» разборак з нагоды ўпартага нясkладвання рэчпаспалітай еднасці. На гэты раз «суддзі» ўсядаліся на пышных крэслах, аздобленых дзяржаўнай польскай чырвона-белай сімволікай, у зале, дзе штодзень бяруць шлюб дзесяткі люблінскіх пар... Карцела самазапытацца: няўжо сімвалічнае супадзенне невыпадковае — шлюб і паяднанне, каханне і дыялог... Так, ці не ўпершыню за апошнія чатыры стагоддзі сцены люблінскага Трыбунала слухалі поліфанію чатырох суседніх моў; і моўнікі разумелі адзін аднаго без пасярэднікаў, як і іх далёкія продкі; і дзівіўся мясцовы люд, студэнцтва найперш, таму шматгалоссю, так падобнаму да жывога шматгалосся на люблінскім рынку, вакзале, ва універсітэтах...

Дзівіліся і мы, што патрапілі ў гэтую рэальнасць. Яна адпачатку нагадвала сон, які ні на хвіліну не перапыняўся.

Ужо ў менскім цягніку, пасля мяжы, я зразумеў, у чым для мяне надалей будзе заключацца сутнасць Польшчы і палякаў. Суб'ектыўны *essai* гэтай краіны дазволіў адчуць **усё ж існуючы** польскі надлом, псіхалагічны надрыў, прыкрыты знешняй экспрэсіяй і эксцэнтрычнасцю. Ці то так выяўляецца памяць пра вайну, пра Майданэк (ён, дарэчы, і знаходзіцца ў Любліне, на поўдні горада), пра савецкі ўціск... Ці, можа, карані польскага надлому знаходзяцца шмат глыбей — у канцы XVIII стагоддзя, адкуль даходзяць да нас звесткі пра трагікамічныя дзівацтвы Пана Каханку падчас загібення рэчпаспалітай дзяржавы... Можа ж, карэнне гэтае і яшчэ глыбей — у пары каралявання Уладзіслава IV Кучаравага, які ў сярэдзіне XII стагоддзя адмовіўся на карысць немцаў ад зямлі паміж Одрай і Лабай... Увогуле, важней адчуць і ўспрыняць **сам надрыў**, чым зразумець яго рацыю; бо і нас, беларусаў, рацыянальным чынам пэўна ж не зразумець, ды і самі сябе мы ці разумеем...

Я існа адчуў польскі надлом у думцы, аповядзе, дзеі. Дзеля таго гэты народ мне хочацца паважаць, яго гістарычны вопыт хацелася б засвоіць. Бо «сваё» — гэта не толькі «наша», «сваё» — гэта ўсё **сапраўднае** навокал; яно, сапраўднае, паўсюль, дзе адбываецца змаганне і трымціць чалавечая пакута, дзе дух чалавечы пераўзыходзіць самога сябе ў змаганні за волю. Чамусьці заўжды ўзлёты духу суправаджаюцца ахвяралрынашэннем... Палякі за сваю вольнасць сплацілі велізарную ахвярную плату. І здабылі ўрэшце тое, што меліся, што **заслужылі** здабыць. Беларусы кашчунную навуку ахвяравання — крэўнага — таксама прайшлі. Аднак сёння ад народа патрабуецца не гатоўнасць памерці, а — прага жыць. Прага жыць у волі. Навука жыць у волі нікольki б не зашкодзіла беларусам...

А вясна ў Польшчы, аказваецца, надыходзіць значна раней, чым у Беларусі. Можа, таму, што прынамсі Люблін і люблінцы і створаны адно для вясны — для квецені сквераў і садкоў, пастаральнага ўбору гараджан, бясконцай паслабленасці і мройнасці існавання ў гэтым месцы... Гэта быў Горад Мілосці; гэта быў сон, які застанецца заўсёды з табой.



*На сцэне — прэзідэнт Асацыяцыі дамрыстаў і мандаліністаў Галіна АСМАЛОЎСКАЯ, вядучая вечара Марына НОВІКАВА і Маладзечанскі аркестр.*

# СУМЛЕННАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ...

(Пачатак на стар. 1)

Так, гэта — падзея.

Амаль праз паўвека высвятляецца, якая чынілася несправядлівасць: нізавошта пакрыўдзілі іх, мандаліну ды гітару. Сунулі пад лаўку ў роднай хаце, вызваліўшы пачэснае месца чамусьці для іншых цудоўных і больш малады інструментаў — для домры з балалайкаю, якім «забяспечылі масавасць». І аркестры рускіх народных інструментаў спакваля зрабіліся фактам беларускай культуры. Асалода ад іх радаснага каларытнага мастацтва набывае прысмак парадокса, калі задумаешся над тым, што «культурнае ўзбагачэнне» адбывалася не поруч з развіццём даўнейшых традыцый, а за іх кошт...



*Мастацкі кіраўнік аркестра «Менск» Генадзь НОВІКАЎ.*

Падчас вялікага канцэрта-прэзентацыі, красамоўнага жывога дапаўнення да тэарэтычных размоў, дакладаў і спрэчак, са сцэны вострa, ды слушна прагучала заўвага таленавітага сумленнага музыканта Валерыя Жывалеўскага: маўляў, з 1947 года, як з'явілася ў кансерваторыі кафедра домры, беларускія музыканты плённа працавалі на карысць рускай народна-інструментальнай культуры, таму варта было б успомніць, нарэшце, пра свае народна-інструментальныя традыцыі ды заняцца іх развіццём.

Дзякуючы гродзенскай музыказнаўцы С. Калчанавай, В. Жывалеўскі знайшоў у архіве цікавую рэч — справу аб зацвярджэнні статута Гродзенскага гуртка аматараў музыкі і драматычнага мастацтва. Прынамсі, у заяве на імя гродзенскага губернатара гаворыцца: «На падставе арт. 17 і 18 правілаў аб саюзах і грамадскіх суполках, найвысачэйша зацверджаных 4 сакавіка 1906 г., маем гонар заявіць Вашаму Правасхадзіцельству, што мы, якія ніжэй паставілі ўласнаручныя подпісы, служачыя ў Гродзенскай казённай палаце на пасадзе Столаначальніка Веніямін Аляксеевіч Шамоўскі, Намесніка Бухгалтара Уладзімір Іосіфавіч Габрыелеўскі і падлёкавага чыноўніка Аўксенцій Іванавіч Шабельнікаў маем намер утварыць у г. Гродне грамадскую суполку пад назвай «Гурток аматараў ігры на мандалінах і гітарах» з мэтай утварыць і ўдасканальваць у г. Гродне аркестравую ігру на ўдарных струнных інструментах».

А вось некаторыя параграфы прадстаўленага статута: «Для замацавання грашовых сродкаў гурток мае права наладжваць канцэрты, спектаклі, літаратурныя і танцавальныя вечарыны... Чальцы прымаюцца ў гурток Праўленнем гуртка і зацвярджаюцца затым бліжэйшым агульным сходам. Прыём членаў у склад аркестра залежыць выключна ад дырыжора... Членскі ўзнос вызначаецца ў памеры 1 рубля ў год. Заўвага: чальцы, жадаючыя вучыцца на аркестравых інструментах пад кіраўніцтвам удзельнікаў аркестра, акрамя членскага ўзносу ўносяць па адным рублі штомесяц, да прыёму дырыжорам у склад аркестра». Дадаваўся і спіс чальцоў праўлення, а таксама кандыдатаў, у ліку якіх называліся «Яўген Валяр'яновіч Лагода, справавод Губеранскага распарадчага Камітэта, жыхар у доме Аўгустоўскай, Пётр Іванавіч Януцэвіч, столаначальнік Казённай Палаты, жыхар у доме Вейсбрэма па Палявой вуліцы і Густаў Станіслававіч Гілянд, чыноўнік Гродзенскага Аддзялення Дзяржаўнага Банка, жыхар у доме Бянецкага па Банкавай вуліцы». 28 ліпеня 1907 г. з'явілася прашэнне аб перайменаванні «Гуртка аматараў ігры на мандалінах і гітарах» у «Гродзенскі гурток аматараў музыкі і драматычнага мастацтва».

Такі вось факт. Знойдзены таксама дакументальныя сведчанні таго, што да 1917 г. у Мінску было 5 гітарна-мандалінавых, т. зв. неапалітанскіх аркестраў, адзін з якіх быў цалкам жаночы і працаваў... пры рэстаране. А яшчэ ёсць шматлікія фотаздымкі 20-х гадоў, якія пацвярджаюць папулярнасць на Беларусі менавіта неапалітанскіх ансамбляў... Ну, а пазней жа з «буржуазнай» гітарай змагаліся. Не ў пашане аказалася й мандаліна.

Часу сплыло нямала, і страчаную «музычную памяць» аднаўляць даволі цяжка, тым больш, калі ў свядомасці замацаваліся ўжо ўяўленні пра іншыя гістарычныя традыцыі, іншыя культурныя прыярытэты. Вядома, сёння выпрабаванне свабодай выбару праціснае ўсё наша жыццё. Аднак ніякавата пачуваецца той, хто прывык да выбараў без выбару, бо выбар за яго рабілі іншыя, больш ці менш настойліва даводзячы-рэкамендуючы, як трактаваць гісторыю і сваё месца ў ёй, якую культуру лічыць крэўнай, якую — братняй, якую проста роднаснай, якую — «чужародным элементам», што ды як развіваць, з кім ды як размаўляць...

Выпрабаванне свабодай выбару — пакута для тых, каму не хочацца нічога мяняць не толькі ў масавай музычнай свядомасці, але і ў сваёй уласнай. І як жа ўсцешна, калі сталыя майстры, аўтарытэтныя музыканты, вытрымліваюць гэтае выпрабаванне з годнасцю, сумленна глядзяць у вочы гісторыі, а значыць, сумленна глядзяць і ў вочы новаму пакаленню сваіх вучняў і паслядоўнікаў.

Адкрываючы канцэрт-прэзентацыю, прэзідэнт Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў, знаная дамрыстка, заслужаная артыстка рэспублікі прафесар Галіна Асмалоўская, прынамсі, сказала: «Асацыяцыя створана, каб адрадзіць цікавае мастацтва, якое існавала на Беларусі шмат стагоддзяў, — выканальніцтва на мандаліне, пяшчотным інструменце, які паходзіць з сонечнай Італіі. Домра працягвае традыцыі мандалiннага выканальніцтва, бо яе паходжанне звязана з мандалінай. І цяпер усе дамрысты вучацца валодаць мандалінай...»

Толькі б не паводле сумнавядомай формулы, толькі б не «адно за кошт другога»! Чым шырэйшай зробіцца інструментальная палітра нашага выканальніцкага мастацтва, тым багацейшым ды ярчэйшым будзе сучасны голас беларускай нацыянальнай музыкі. Голас, які пачула ў той вечар ладна запоўненая філарманічная зала.

Так, гэта — падзея: і сярод публікі, і сярод музыкантаў шмат моладзі, выступленні натхнёныя, воплескі гарачыя, «бісы» шчодрыя. Са сцэны ў залу, здаецца, перакінулася вясёлка: столькі, сонца, свежасці, лёгкасці, чысціні ў гучанні, у гранні разнаіх калектываў!

Аркестр «Менск» на чале з маладым маэстра Г. Новікавым і салістам Р. Палішчуком, якому далікатным хорам падпявалі самі музыкі; Віцебскі актэт балалаек пад кіраўніцтвам знанай Т. Шафранавай; аркестр народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча з вядомым дырыжорам Р. Сарокам і цудоўным салістам — В. Кучынскім... Віртуозны і вытанчаны мастак — цымбалістка Ларыса Рыдлеўская; чароўны ансамбль дамрыстак А. Шоман ды А. Сакалоўская плюс піяністка В. Карасёва ды ўдарнік В. Кардаільскі. Гучалі мелодыі Я. Глебава, В. Іванова, В. Капыцькі, І. Лучанка, В. Помазава, А. Шпянёва, народныя напевы...

А вось і мандаліна з нямоцным, але такім пранікнёна-спакушальным, ласкавым голасам. Канцэрт для дзвюх мандалінаў, струнных і аргана А. Вівальдзі ў выкананні М. Марэцкага, Н. Ручымскай, К. Шарава ды квартэта «Забытыя мелодыі» здзівіў, узрушыў, расхваляваў публіку водарам фантазійных тэмбравых спалучэнняў. Ну, а неапалітанскі аркестр пад кіраўніцтвам Л. Жывалеўскай сустракалі, як сенсацыю. Букет з гэткіх вышэйталцоных музычных красак — асалода для меламана. Але сабраць такі «букет» з ліку выкладчыкаў, студэнтаў Акадэміі музыкі ды універсітэта культуры, музыкантаў-выканаўцаў аказалася, з-за праблем і выдаткаў нашай сістэмы музычнай адукацыі, справай на мяжы рэальнага. 27 чалавек, «узброеныя» дзевяццю гітарамі, дзевяццю мандалінамі, віяланчэлямі, лірай, цымбаламі, клавесінам, драўлянымі духавымі, ударнымі інструментамі, усё ж скарэктавалі свае планы, падрыхтаваліся і выступілі. Каларытна, свежа для вуха прагучаў «Трыпціх на беларускія тэмы» В. Жывалеўскага, падалося больш арганічным, чым у варыянце для струннага камернага складу, выкананне Інтрадукцыі і фанданга Л. Бакерыні.

Неапалітанскі аркестр і можа, і павінен аздобіць наша музычнае жыццё, але для гэтага ён мусіць працаваць рэгулярна, мець сталую базу, а не збірацца вялікімі высілкамі самых удзельнікаў ды кіраўніка. Аркестру «Менск» пашанцавала на дапамогу «Комплекс-банка». Аднаразовая спонсарская падтрымка паспрыяла правядзенню канцэрта-прэзентацыі ў філармоніі. А хто будзе свядома і пастаянна падтрымліваць адраджэнне на Беларусі гітарна-мандалінных аркестраў, калі само выканальніцтва на гэтых інструментах вымагае допінгу, бо, па вялікім рахунку, апынулася ў заняпадзе і трымаецца намаганнямі педагогаў-энтузіястаў?

Зрэшты, калі новая генерацыя музыкаў, падтрыманая мудрымі таленавітымі настаўнікамі, выбірае шлях адраджэння, яна вымушана прыняць на свае плечы ношу з яшчэ многіх, многіх пытанняў...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*«Забытыя мелодыі»...*



*З.а. Беларусі Тамара ШАФРАНАВА.*



*Вясковыя музыкі... з «Менска».*

ЛіМ
ЧАСАПІС

## АДКРЫЦЬ СМІЛАВІЧЫ СУЦІНА

Цэнтр навукова-мастацкага жыцця яўна апошнім часам перамясціўся ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Прынамсі, толькі за кароткі час тут запар адбылося некалькі вызначальных па-свойму мерапрыемстваў.

У шэрагу іх — канферэнцыя да стагоддзя Хаіма Суціна, выдатнага каларыста, беларуса па паходжанні, на работах якога вырасла не адно пакаленне мастакоў. Канферэнцыя была наладжана выкладчыкамі Беларускай акадэміі мастацтваў разам з навуковымі супрацоўнікамі музея. Нацыянальная бібліятэка Беларусі прадставіла выставу кніг пра мастака.

Праўда, кола прысутных звыкла абмежавалася сябрамі і выступаючымі, якія даводзілі і даказвалі беларускі менталітэт Суціна, бо яшчэ не скончыўся працэс увядзення «новых» імёнаў у кантэкст беларускага мастацтва. І Суцін сярод іх — найярчэйшая велічыня.

У адрозненне ад вынікаў папярэдніх канферэнцый адна з прапаноў была ўсё ж «пачута» Міністэрствам культуры і друку — падчас мяркуемага ў бліжэйшы час Шагалаўскага пленэру завітаць у Смілавічы, радзіму Суціна, а надалей, магчыма, наладзіць там наступны міжнародны пленэр. На жаль, у Смілавічах не памятаюць імя Суціна, мястэчка ўшчэнт было зруйнавана ў вайну. Толькі дрэвы, што так натхнёна выпісаны на яго парыжскіх палотнах, дасюль буяюць зелянінай...

Н. Ш.

## НАШ КАЛЯНДАР

7 чэрвеня — 105 гадоў з дня нараджэння польскага філолага, славіста, гісторыка літаратуры ЮЗАФА ГАЛОМБАКА (1889—1939). Даследаваў беларускую літаратуру, фальклор, этнаграфію. У 1932 годзе выдаў манаграфію «Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч — польска-беларускі паэт», у якой падкрэслівае, што той «даў беларусам наймацнейшую зброю ў барацьбе за народнасць — уласную народную літаратуру».

8 чэрвеня — 70 гадоў з дня выхаду першага нумара часопіса сатыры і гумару «АВАДЗЕНЬ». З перапынкамі пабачыла свет трынаццаць нумароў, апошні ў 1933 годзе.

11 чэрвеня — 100 гадоў з дня смерці беларускага дзяржаўнага дзеяча, журналіста СЦЯПАНА БУЛАТА (1894—1921). Быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь». У лютым 1921 арганізаваў газету «Белорусская деревня», якая затым выходзіла як «Беларуская вёска». Янка Купала напісаў верш «На смерць Сцяпана Булата».

17 чэрвеня — 130 гадоў з дня нараджэння рускага мовазнаўцы АЛЯКСЕЯ ШАХМАТАВА (1864—1920). Запісваў беларускі фальклор у Барысаўскім павеце.

21 чэрвеня — 60 гадоў з дня нараджэння паэта ВІКТАРА ХАЎРАТОВІЧА (1934—1991). Першая кніга «Сонца на кельме» выйшла ў 1983 годзе.

21 чэрвеня — 130 гадоў з дня нараджэння этнографа і фальклапыста АЛЯКСАНДРА СЕРЖПУТОЎСКАГА (1864—1940). Аўтар шэрагу навуковых прац, сярод якіх «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (1911), «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета» (1926), «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930) і іншыя.

24 чэрвеня — 30 гадоў назад у вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна быў адкрыты народны музей Кузьмы Чорнага.

27 чэрвеня — 85 гадоў з дня нараджэння пісьменніка СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА (1909—1937).

28 чэрвеня — 80 гадоў з дня нараджэння паэта і празаіка УЛАДЗІМІРА САВІЦКАГА (1914—1989), які пісаў па-руску. Творы выдаваліся ў Маскве і Мінску.

## І ПАДАРУНАК — ДА ЮБІЛЕЮ

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла чарговы, пяты том Збору твораў Васіля Быкава. Як вядома, ён будзе складацца з шасці тамоў. Змест жа гэтай кнігі — аповесці, напісаныя параўнальна нядаўна — «Кар'ер», «У тумане», «Аблава». Том, безумоўна, добры падарунак чытачам ды і самому Васілю Уладзіміравічу.

# ДЫ ЯШЧЭ П'ЮЦЬ. БЕЗ ПРЫЧЫНЫ І МЕРЫ...

*(Пачатак на стар. 3)*

п'янства, алкагалізм, а я ж з'яўляюся адным з кіраўнікоў галіны народнай гаспадаркі, дзе гэты самы алкаголь выпрабляецца. Тым не менш, я разумею, чаму рэдакцыя запрасіла прыняць удзел у такой гаворцы і мяне, хоць я быццам бы належу да «варожага лагера». Мне спадабалася, што ніхто тут не заклікаў да ўвядзення «сухога» закона, да забароны вырабу алкагольных напояў. Сёння, відаць, ужо мала хто верыць у мэтазгоднасць такіх радыкальных мер. Значыць, гаворку трэба весці пра культуру спажывання алкаголю. Дарэчы, у цывілізаванай Заходняй Еўропе яго спажываюць на душу насельніцтва больш, чым у нас. Тым не менш, усе, каму давялося там пабыць, у адзін голас сцвярджаюць, што п'яныя на вуліцах там, як у нас, не бадзяюцца. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што п'юць там пераважна піва, вінаградныя віны ды шампанскае. І на апошнім месцы — моцныя алкагольныя напоі тыпу гарэлкі.

Цяпер паглядзім, якая ў гэтым сэнсе карціна наглядаецца ў нас. Да 1984 года ў нашай рэспубліцы гадавы выраб і продаж гарэлкі, каньяку і іншых моцных напояў складаў 7,4 мільёна дэкалітраў, вінаградных він — каля 14 мільёнаў, пладова-ягадных — больш як 11 мільёнаў і шампанскага — 0,5 мільёна дэкалітраў.

**М. Замскі:** — Разліванае мора...

**А. Рубец:** — Так, але звярніце ўвагу на суадносіны нагаданых лічбаў. У гэтым «наборы» алкагольных напояў пераважалі вінаградныя і пладоваягадныя віны...

**М. Замскі:** — Тыя пладоваягадныя ў народзе ахрысцілі «чарніламі». З'явілася нават катэгорыя п'яніц-чарнільшчыкаў»...

**А. Рубец:** — Не трэба так крыўдзіць нашы беларускія пладова-ягадныя віны. Яны акурат вызначаліся неблагімі смакавымі і іншымі якасцямі. Не трэба думаць, што якое-небудзь там азербайджанскае вінаграднае віно, выробленае ў палявых умовах, дзе і вады няма, было лепшым за наша яблычнае. Усе гэтыя паўднёвыя «вермуты», «партвейны», «агдамы» і былі тыповымі «чарніламі» — любімым напоем алкашоў.

Пасля вядомай супрацьалкагольнай пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР у 1986 годзе выраб гарэлкі ў рэспубліцы быў скарочаны да 5,2 мільёна дэкалітраў, вінаградных він паступіла ў продаж толькі 8,3 мільёна дэкалітраў (супраць 13,4 мільёна, што было дагэтуль), поўнасцю была спынена вытворчасць пладова-ягадных він. Слова «спынена», якое я зараз ужыў, утрымлівала самы злавесны сэнс. На большасці нашых вінзаводаў па загадзе дырэктыўных органаў было проста знішчана абсталяванне, цэлыя тэхналагічныя лініі. І хоць у нагаданай мной пастанове гаварылася аб перапрафіліраванні вінзаводаў на прадпрыемствы па вырабе сокаў з яблык, ігруш і ягад, практычна мала што ў гэтай справе было зроблена. Дзесяткі тысяч тон садавіны, нарыхтоўку якой спажывецкая кааперацыя амаль спыніла, было ў тыя гады згноена ў калгасных і прыватных садах.

Што мы маем цяпер? У 1991 годзе Саўмін рэспублікі прыняў комплексную праграму развіцця спірта- і лікёра-гарэлачнай прамысловасці. Сёння, дарэчы, Рэспубліка Беларусь адзіная ў СНД краіна, якая мае такую праграму. Іншая справа, што жыццё ўнесла ў яе свае карэктывы. З-за вядомых падзей, разрыву эканамічных сувязей паміж былымі савецкімі рэспублікамі мы зараз амаль не маем вінаградных він, якія раней завозіліся з паўднёвых раёнаў СССР, найперш з Малдавіі, у чыгуначных цыстэрнах і тут разліваліся ў бутэлькі. У мінулым годзе мы атрымалі ўсяго 0,8 мільёна дэкалітраў вінаграднага віна — у 15 разоў менш, чым дзесяць гадоў назад. Затое гарэлкі мы зараз выпрабляем як ніколі раней многа — 13,3 мільёна дэкалітраў (сама болей некалі было — 7,4 мільёна). Такім чынам, мы можам зараз прапанаваць спажыўцу толькі моцныя алкагольныя напоі. Таму, відаць, і столькі п'яных у нас на вуліцах, у транспарце, іншых людных месцах...

**С. Лапцёнак:** — Тут ёсць адзін пэўны нюанс — гарэлка ў нас сёння больш танная, чым прадукты харчавання. Пітушчы чалавек на спіртным эканоміць не будзе, ён эканоміць на «закусі». І адразу хмялее. Хто, захмялеўшы, пойдзе спаць, а хто адразу пачынае паказваць характар...

**М. Замскі:** — Вы, Аляксей Аляксеевіч, распавядаючы пра выраб гарэлкі ў рэспубліцы, мелі на ўвазе, як можна зразумець, дзяржаўныя вытворчыя магутнасці. Але ж шмат алкагольных вырабаў завозіцца камерцыйнымі структурамі з-за мяжы. Яшчэ, здаецца, зусім нядаўна бадай у кожным камерцыйным «камку» прадаваўся фінскі спірт «Роял».

**А. Рубец:** — Каб вы ведалі, колькі мы напісалі папер у розныя інстанцыі, пакуль продаж таго «Рояла» быў забаронены. Не думаю, што спрытнюгі, якія завозілі яго сюды, не ведалі, што гэта не харчовы, а тэхнічны спірт і, спажываючы які ў якасці пітва, можна лёгка атруціцца. Як спецыяліст, магу засведчыць, што вельмі нізкай якасці і некаторыя іншыя імпартныя гатункі гарэлак, хоць і спакушаюць яны спажыўца прыгожай бутэлькай ды маляўнічай наклейкай. Я ўжо не кажу пра розныя «армянскія» ды «грузінскія» «каньякі», што ўяўляюць сабой грубую падробку.

**М. Замскі:** — Як я разумею, дзяржава зацікаўлена ў імпарце алкагольнай прадукцыі, бо спаганяе за яе з камерсантаў вялікія падаткі?

**А. Рубец:** — Магу вас запэўніць, што многія камерсанты ведаюць, як можна абвесці тыя падатковыя службы вакол пальца. Гэта мы плацім спаўна акцызны і іншы падатак з кожнага літра выпрабленага алкагольнага напою.

**М. Замскі:** — Вядома, што ў многіх краінах Захаду карпарацыі, якія выпрабляюць спіртныя напоі, фінансуюць розныя гуманітарныя праграмы, у тым ліку нават, як гэта ні гучыць парадаксальна, — антыалкагольныя. Гэтым самым нібы кампенсуючы шкоду, якую яны наносяць грамадству.

**Р. Шылава:** — Я ведаю, што так робіцца, напрыклад, у Фінляндыі. У нас такой завядзёнкі няма. Праўда, канцэрн, які тут прадстаўляе Аляксей Аляксеевіч Рубец, аднойчы аказаў нашаму таварыству разавую фінансавую дапамогу. Але было гэта даўно...

**А. Рубец:** — Толькі акцызны падатак складае 75 працэнтаў кошту кожнай бутэлкі гарэлкі. Але ж гэта не адзіны падатак. Акрамя таго, нам моцна абмяжоўваюць узровень рэнтабельнасці нашай галіны, яна не павінна перавышаць 15 працэнтаў. Так што кожная капейчына ў нас на ўліку і фінансаваць нейкія гуманітарныя праграмы мы не ў стане.

**У. Іваноў:** — Амаль усе нашыя антыалкагольныя мерапрыемствы не даюць патрэбнага эфекту таму, што трымаюцца на голым энтузіязме. Рызыкну паўтарыцца, але зноў скажу — гэта адбываецца з-за таго, што ў нас няма дзяржаўнай праграмы барацьбы за цвярозы лад жыцця. З 1987 года Міністэрства аховы здароўя пастаянна звяртаецца ў Саўмін з просьбай выдаткоўваць нейкую частку акцызнага падатку менавіта на барацьбу з п'янствам і алкагалізмам, як гэта робіцца, напрыклад, у краінах Скандынавіі. Але паразумення ў гэтым пытанні мы са сваім урадам не знаходзім.

**М. Крэчка:** — На маю думку, вы, Уладзімір Уладзіміравіч, перабольшваеце значэнне розных праграм і пастаноў «па пераадоленні» розных негатыўных з'яў у нашым жыцці. Бяда ў тым, што мы забываемся на іх прычынную сувязь. Скажыце, што дасць самая лепшая праграма барацьбы з п'янствам, калі не ўлічваць, што сёння кожная пятая сям'я ў рэспубліцы не мае кватэры, што 250 тысяч дзяцей жывуць у няпоўных сем'ях?

Цяпер колькі слоў аб сувязі няспыннай алкагалізацыі насельніцтва з пагаршэннем крымінальнай сітуацыі ў рэспубліцы. Ужо стала банальным гаварыць, што п'янства штурхае многіх грамадзян на правапарушэнні. У мінулым годзе са 100 тысяч злачынстваў трэцяя частка была здзейснена грамадзянамі ў стане алкагольнага ап'янення. 57 працэнтаў злачынстваў на так званай бытавой глебе, у тым ліку забойстваў, таксама здзейснена ачмурэлымі ад гарэлкі людзьмі. Пра маштабы п'янства красамоўна гавораць і такія лічбы — летась за з'яўленне ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане было затрымана органамі ўнутраных спраў каля 600 тысяч чалавек, у тым ліку 16 тысяч падлеткаў. 135 тысяч грамадзян пабыло за год у медвыцвярэзніках.

Вось такая сумная карціна. І, разам з тым, перакананы, што скарачэнне вырабу алкагольных напояў, як гэтага патрабуюць некаторыя змагары з п'янствам, нічога не дасць. І, потым, будзем рэальна глядзець на рэчы — 60 працэнтаў бюджэту фарміруецца за кошт вырабу і продажу гарэлкі і іншых алкагольных напояў. Значыць, не з увядзення «сухога» ці «паўсухога» закона нам трэба пачынаць змагацца з алкагалізацыяй насельніцтва. Пачынаць трэба са стварэння вакол п'яніц атмасферы грамадскага асуджэння. Чаму ў большасці цывілізаваных краін свету грамадская думка адназначна негатыўна ставіцца да людзей, што злоўжываюць алкаголем? П'яніц там ніхто трымаць на працы не будзе. У нас жа з імі цацкаюцца, ліберальнічаюць, бясконца ўгаворваюць кінуць піць, «узяцца за розум».

**М. Замскі:** — Усё гэтае ліберальнічанне адбываецца за кошт дзяржавы. Калі б той завод, ці майстэрня былі прыватнай уласнасцю, наўрад ці цярпеў бы гаспадар у сябе п'яніцу...

**М. Крэчка:** — Не магу ўстрымацца і ад папроку па адрасе нашых медыкаў менавіта ў кантэксце нашай гаворкі. Мне давялося прысутнічаць на адным з пасяджэнняў калегіі Міністэрства аховы здароўя, дзе вырашаліся некаторыя пытанні барацьбы з п'янствам. Слухаў выступаючых і дзіву даваўся, як некаторыя нашы эскулапы вузка разумеюць саму праблему алкагалізацыі насельніцтва. Так, вядома ж, яны прызнаюць, што алкагалізм — гэта хвароба і лячыць яе яны згодны. Што ж тычыць алкагалізму як сацыяльнай з'явы, дык гэты бок справы іх не цікавіць.

**У. Іваноў:** — Даруйце, Мікалай Васільевіч, якімі гэта пытаннямі, звязанымі з барацьбой з п'янствам, не хоча займацца Міністэрства аховы здароўя?

**М. Крэчка:** — Сістэма павінна быць, так сказаць, замкнёнай — ад выяўлення алкаголіка, змяшчэння яго ў ЛПП да рэабілітацыі і працаўладкавання. І ва ўсім гэтым працэсе ад пачатку да канца павінны прымаць удзел медыкі. А што на самай справе? Выцвярэзнік хоць і называецца медыцынскім, а знаходзіцца ў сістэме Міністэрства ўнутраных спраў. Тое самае можна сказаць і пра ЛПП — лячэбна-працоўныя прафілакторыі для алкаголікаў. Лячэбныя!





Фота А.МАЦЮША

**У. Іваноў:** — Калі Міністэрства ўнутраных спраў пачынае скарачаць колькасць месц у ЛПП, я не вазьму на сябе смеласць казаць, што гэта яно робіць таму, што не хоча змагацца з алкагалізмам. У праваахоўных органаў шмат праблем, у тым ліку і фінансавых, і гэта я разумею. Не разумею толькі папрокаў, якія тут прагучалі ў наш адрас. Як можна казаць, што медыкі не займаюцца прафілактыкай п'янства, калі ў наркалагічных дыспансерах рэспублікі ўзята на ўлік 150 тысяч чалавек, злоўжываючых алкаголем?

**М. Замскі:** — Узяты на ўлік, ці праходзяць курс лячэння? Гэта, відаць, розныя рэчы.

**У. Іваноў:** — Вядома ж, іх там лечаць. Як, наколькі эфектыўна — гэта ўжо іншая справа. Што датычыць пытання, якім ведамствам павінны належаць медвыцвярэзнікі і лячэбна-працоўныя прафілакторыі, дык ва ўсім свеце п'янымі займаецца паліцыя, а хворымі — медыкі. Так, алкаголікам, а гэта хворы чалавек, мы павінны займацца, але не п'яніцам, якога ў паўжывёльным, даруйце, выглядзе прывезлі ў выцвярэзнік.

**М. Крэчка:** — Летась у медвыцвярэзніках памерла 20 чалавек. Памерлі яны таму, што ім не была своечасова аказана кваліфікаваная медыцынская дапамога.

**А. Зярнятка:** — Па існуючым штатным раскладзе ў медвыцвярэзніку належыць месц толькі фельчара. Вось і ў нашай установе працуе фельчарыца, якая ў стане толькі вызна-

чыць ступень алкагольнага атручвання пацыента. І то робіцца гэта зыходзячы з чыста вонкавага ўражання. Натуральна, у такіх умовах можна не заўважыць і сардэчнага прыступу, нават інфаркту, кровацячэння страўніка і да т. п. Вось і нядаўна, ужо пры выпісцы, кліенту раптам стала кепска, выклікалі «хуткую дапамогу», і аказалася, што гэты чалавек паступіў да нас з разрывам селязёнкі.

**М. Замскі:** — Колькі за год праз вас «праходзіць» людзей?

**А. Зярнятка:** — Летась — пяць тысяч. Раней было значна менш. Сярод нашай кліентуры пабольшала жанчын. Наогул, па маіх назіраннях, жаночае п'янства набірае моцы. Жанчына-алкагалічка — сёння звычайная з'ява. Прычым, алкагалізм у жанчын праяўляецца ў самых агідных, самых пачварных формах. Магу таксама засведчыць, што п'янства значна «памаладзела», асноўны наш кантынгент — маладыя людзі ад 18 да 25 гадоў. І яшчэ такая статыстыка — кожны другі, што трапіў да нас, нідзе не працуе.

**С. Лапцёнак:** — Але ж «адпачынак» у выцвярэзніку ўлятае чалавеку ў капейчыну?

**А. Зярнятка:** — Мы з яго спаганяем за абслугоўванне 30 тысяч рублёў. Тым не менш, выцвярэзнікі ў Мінску, як я ведаю, знаходзяцца на дзяржаўнай датацыі. Прыбытак у нас невялікі, бо паспрабуй, напрыклад, спагнаць грошы з кліента, які нідзе не працуе.

**А. Ніканчук:** — Відаць, наогул трэба было б так адпрацаваць сістэму спагнання грошай за ўтрыманне ў выцвярэзніку, каб гэта як мага менш хваравіта адбівалася на матэрыяльным становішчы сям'і п'яніцы. Яго жонка і дзеці ні ў чым жа не вінаватыя. Алкаша трэба прыцягваць да прымусовай працы.

**А. Зярнятка:** — Мы да гэтай думкі таксама схіляліся, але, скажыце, якое сёння прадпрыемства, пры цяперашнім лішку рабочай сілы, нават беспрацоўі, возьме на працу, хай і часовую, п'яніцу?

**М. Крэчка:** — Мы звярталіся ў Саўмін з прапановай увесці такі від адміністрацыйнага пакарання, як грамадскія работы — недзе 200 гадзін у месяц, а зробленыя пакараным чалавекам грошы пераводзіць на муніцыпальныя патрэбы, наркалагічным установам, тым жа медвыцвярэзнікам. Але падтрымкі наша прапанова пакуль што не атрымала.

**А. Ніканчук:** — Магчыма, гэтая прапанова заслугоўвае таго, каб быць прынятай у Вярхоўным Савеце ў заканадаўчым парадку.

**Р. Война:** — Да нас у ЛПП паступаюць людзі ў крайняй ступені дэградацыі. Тут зайшла спрэчка, хто гэтай «публікай» павінен у першую чаргу займацца — органы правапарадку ці медыкі. Мяркую, што і тыя, і другія. Калі пацікавіцца анамнезам нашых «пацыентаў», дык адразу кінецца ў вочы, што многія з іх — асобы з цяжкай спадчыннасцю: або дзеці алкаголікаў, або атрымаўшыя пашкоджанні мозга пры нараджэнні, або чэрапна-мазгавыя траўмы ў юначым ці сталым ужо ўзросце. Заўважана, што ва ўсіх іх алкагалізм за кароткі прамежак часу набывае злаякасныя формы і вельмі цяжка паддаецца лячэнню. Мой шматгадовы вопыт працы ў ЛПП падказвае, што многія з іх пазбегнулі б бяды, калі б з дзяцінства знаходзіліся пад пільным наглядам урачоўнарколагаў. Дарэчы, нарколаг сёння — адна з самых дэфіцытных урачэбных спецыяльнасцей, бо, па сутнасці, у мединстытутах іх не рыхтуюць.

**М. Замскі:** — Дык усё-такі, Рыгор Антонавіч, лячэбна-працоўны прафілакторый — установа лячэбная ці карная? Колькі гадоў назад я прыязджаў у ваш Светлагорскі ЛПП, і тое, што я там пабачыў, пакінула цяжкае ўражанне — строгі, як у калоніі для крымінальных злачынцаў, прапускны рэжым, высокая агароджа з калючым дротам, краты на вокнах жылых памяшканняў...

**Р. Война:** — Тут сапраўды ёсць праблема. Я б сказаў, этычнага характару. У ЛПП, як вядома, накіроўваюць па рашэнні суда, але ў рашэнні гэтым ні слова не гаворыцца аб тым, што «асуджаны» з'яўляецца хворым на алкагалізм.

**У. Іваноў:** — Лячэбна-працоўны прафілакторый — назва, якая не адпавядае сапраўднаму характару гэтай установы. Не для лячэння сюды змяшчаюць алкаголікаў, а для, як сказана ў законе, — медыка-сацыяльнай рэабілітацыі. Пасля таго, як змешчаны сюды чалавек прайшоў дэтаксікацыю, ім павінен заняцца майстар па працы, сацыяльны работнік.

**М. Замскі:** — Я зноў за сваё. Па сутнасці, хворага чалавека, хай і хворага на алкагалізм, ізалююць, прыцягваюць да паднявольнай працы. Фактычна як крымінальнага злачынцу. Ці не парушаюцца тут фундаментальныя правы чалавека?

**У. Іваноў:** — Не парушаюцца. Аналагічныя меры прымаюцца ва ўсім цывілізаваным свеце.

**А. Ніканчук:** — Мы не дасягнем прыкметных зрухаў у пераадоленні п'янства пры існуючым у грамадстве ўзроўні культуры. Культуры ў самым шырокім разуменні гэтага паняцця. Ад чаргі ў тэатральны гардэроб да чаргі ля піўной бочкі, дзе пануе жудасная антысанітарыя, паветра сатрасае брудная лаянка, а людзі глытаюць падазроную па смаку вадкасць з брудных слоікаў. Вось вам і культура піцця, пра якую мы тут пачалі гаворку, вось вам і барацьба супраць п'янства і алкагалізму. Ды і наогул, пра якую барацьбу з п'янствам мы можам сёння гаварыць, калі ўлада, тыя ж райсаветы, перасталі займацца арганізацыяй вольнага часу моладзі? Увесь так званы сацкультбыт пераведзены на платную аснову. Хочаш наведваць музычную школу — плаці, займацца ў харэаграфічным ці мастацкім гуртку — плаці, хадзіць у басейн ці спартзалу — зноў жа плаці! Вось так у нас дбаюць аб тым, каб абараніць таго ж юнака ці дзяўчыну ад шкоднага ўплыву вуліцы, крымінальных кампаній.

**С. Лапцёнак:** — У 1977 годзе ў мяне выйшлі дзве кніжкі: адна ў Мінску пад назвай «Сям'я і духоўнае развіццё асобы», другая ў Маскве — «Маральнае развіццё асобы ў сям'і», дзе я выклаў сваё бачанне праблемы барацьбы з п'янствам менавіта ў сямейным калектыве. Павінен сказаць, што кніжкі гэтыя «ішлі» вельмі цяжка, бо трэба было пераадольваць супраціўленне рэдактараў, якія лічылі, што п'янства для савецкай сям'і і з'ява не тыповая. Гэта быў час, калі грамадства наша жыло ў атмасферы маны і крывадушша, калі самым лепшым лічылася ўсё савецкае — ад узроўню маралі да ўзроўню культуры.

На працягу многіх год я вывучаю праблему «приобщения» да алкаголю падлеткаў. Тут ужо гаварылі, што п'янства маладзее. Я мог бы пацвердзіць гэта лічбамі многіх сацыялагічных даследаванняў, якія праводзяцца нашай лабараторыяй. У 1993 годзе па заданні Саўміна мы праводзілі даследаванне на тэму: «Сям'я ў Рэспубліцы Беларусь: становішча, праблемы, перспектывы». Было апытана 1988 сем'яў ва ўсіх абласных і раённых гарадах, Мінску, у адной з вёсак кожнага раёна. На пытанне анкеты, ці ўпэўнены бацькі, што іх дзеці ўжо зведалі смак спіртнога, станоўча адказала 25,6 працэнта апытаных. 8,1 працэнта адказалі, што не ведаюць, а гэта значыць, што іх з поўным правам можна аднесці да першай групы. Праўда, 66,3 працэнта апытаных даводзілі, што іх дзеці ніколі не спрабавалі хмельных напояў. Але, думаю, многія з іх не ведаюць сапраўдных паводзін сваіх нашчадкаў.

Вы ж паглядзіце, што робіцца на школьных выпускных вечарах, дзе большасць хлопцаў, каб падацца сабе і іншым дарослымі, накачваюцца спіртным у прыбіральні, а пасля гэтага прымаюць удзел у калектыўным чаёўнічанні з цукеркамі і тортамі. Зноў жа, ва ўсім гэтым праяўляецца наша саўковае крывадушша. Настаўнікі бачаць, што многія вучні ўшчэнт п'яныя, але робяць выгляд, што гэтага не заўважаюць. І гэта замест таго, каб пасадзіць семнаццацігадовых юнакоў за стол з шампанскім, лёгкімі вінамі. Але ж хто дазволіць арганізоўваць «п'янку»? За гэта можна і з працы паляцець.

**К. С.** — Аднойчы мой сын-школьнік прыйшоў дахаты выпіўшы, і калі я пачаў з ім гаварыць пра гэта, ён усклікнуў: «Я ж, бацька, першы раз, а ў нашым класе ўсе хлопцы даўно п'юць». Выпадак той з сынам мяне страшна напалохаў, напалохаў, бо ведаю — ён мае спадчынную схільнасць да алкагалізму. Бо алкаголік я, яго бацька. І хоць апошнія шэсць гадоў я не бяру хмельнага ў рот, ведаю — да скону веку мне заставацца патэнцыяльным алкаголікам, бо варта мне зараз выпіць усяго пяцьдзесят грамаў гарэлкі, як усё вернецца «на круги своя». Дваццаць пяць гадоў я быў запойным алкаголікам. Прапіваў усё, што можна прапіць. Тут, за «круглым сталом», нехта даводзіў, што ў нас пашыраецца п'янства таму, што адносна танная гарэлка. Дык я вам скажу — пітушчага чалавека не спыніць аніякая высокая цана на алкаголь. Не будзе гарэлкі, знойдзе адэкалон, палітуру, дэзадарант, растваральнік фарбы, словам, любую атруту, абы задаволіць нясцерпную смагу.

З тых дваццаці пяці «алкагольных» гадоў — дзесяць спрабаваў я лячыцца. Паспрабаваў усё: і кадзіраванне, і «падшыванне», але кожны раз зрываўся. Я вельмі паважаю ўрача-нарколага Дзмітрыя Уладзіміравіча Сайкова, які тут прысутнічае, але не ў папрок яму скажу, што многія алкаголікі, якія прайшлі кадзіраванне па метадзе доктара Даўжэнкі, метадзе, які ўжываюць многія беларускія нарколагі, засталіся, як кажуць, пры сваіх інтарэсах. Памыляецца той, хто думае, што за дваццаць хвілін гаворкі з нарколагам можна вылечыцца ад алкагалізму.

І ўсё-такі, нягледзячы на ўсё сказанае, я поўны аптымізму. Ва ўсякім разе, я цвёрда ўпэўнены, што ўжо не сарвуся, і ўпэўненасць гэтую мне надае прыналежнасць да таварыства «Ананімныя алкаголікі», каардынатарам якога я з'яўляюся. Таварыства «Ананімныя алкаголікі» — скарочана АА (у лацініцы гэтыя літары вымаўляюцца, як ЭЙ-ЭЙ і гэтай абрэвіятурай ва ўсім свеце абазначаюць назву таварыства) было створана ў Злучаных Штатах Амерыкі амаль шэсцьдзесят гадоў назад і за гэты час распаўсюдзілася па ўсім свеце. Сёння па яго праграмах працуюць у 158 краінах. «АА» лучыць мужчын і жанчын, якія вырашылі аб'яднаць свае сілы, каб дапамагчы сабе і іншым пазбавіцца ад алкагалізму. Адзіная ўмова для членства ў «АА» — жаданне кінуць піць. Колькасць груп «Ананімных алкаголікаў» з кожным годам павялічваецца. Вось у маіх руках даведнік па іх размяшчэнні ў Сан-Францыска. Ведаеце, колькі там груп «ЭЙ-ЭЙ»? Больш за чатырыста. Амаль на кожнай вуліцы. Там падыдзі да любога паліцэйскага, і ён табе адразу падкажа адрас бліжэйшага «ЭЙ-ЭЙ».

Летась я звярнуўся ў Саўмін з просьбай дапамагчы з памяшканнем для таварыства, бо нам, фактычна, няма дзе збірацца, а колькасць жадаючых вылечыцца ўвесь час расце. Я ім пра гэта кажу, а яны мяне не разумеюць: маўляў, што гэта яшчэ за «ананімныя алкаголікі»?

**А. Ніканчук:** — Дык дапамаглі?

**К. С.** — Дзе вы бачылі! Я ўжо і ў Мінгарвыканкоме па гэтым пытанні два гады хаджу і ўсё безвынікова.

**А. Ніканчук:** — Я паспрабую высветліць, як вам з гэтым дапамагчы.

**Д. Сайкоў:** — Я хачу адказаць паважанаму К. С. на яго іранічную рэпліку наконт урачоўнарколагаў, якія абяцаюць за дваццаць хвілін вылечыць ад алкагалізму. Ні я, ні мае калегі ніколі такога не абяцалі і абяцаць не маглі. Людзям, якія прыходзяць да мяне лячыцца ад алкагалізму, я кажу — поспех прыйдзе толькі тады, калі ў вас ёсць цвёрдае жаданне пазбавіцца хваробы. Я раблю толькі першы крок на гэтым шляху, імкнучыся сілай псіхічнага, псіхалагічнага ўздзеяння, кажучы па-руску, «наставить на путь истинный», астатнюю ж частку шляху павінен прайсці сам хворы. Знойдзе для гэтага сілы — яго шчасце. Я ж не думаю, што таварыства «Ананімныя алкаголікі» гарантуе стопрацэнтнае выздараўленне сваіх членаў...

**К. С.** — Вядома ж, не...

**Д. Сайкоў:** — Таму, лічу, не трэба супрацьпастаўляць розныя метады барацьбы з алкагалізмам.

**Р. Шылава:** — Дзмітрый Уладзіміравіч мае рацыю, трэба спрабаваць усё, што дапамагае ў барацьбе з п'янствам. Разам з тым, я не магу пагадзіцца з тымі ўдзельнікамі «круглага стала», якія з іроніяй гаварылі аб вядомай «лігачоўскай» пастанове, накіраванай супраць распаўсюджвання п'янства і алкагалізму ў нашым грамадстве. Думаю, што яна адыграла ў гэтай справе станоўчую ролю. Усё-такі такога п'янства, як цяпер, не было.

Што тычыць нашага таварыства барацьбы за цвярозасць, дык яно, нягледзячы на ўсе цяжкасці, дзейнічае, і дзейнічае, лічу, няблага. У нас ёсць праграмы прафілактычнай работы сярод школьнікаў і студэнтаў. Дадамо да гэтага, што мы працуем у цесным кантакце з урачом-нарколагам Дзмітрыем Уладзіміравічам Сайковым і трымаем сувязь з хворымі, якія прайшлі праз яго наркалагічны кабінет.

Адзначу, што вельмі цяжка дапамагчы такім людзям уладкавацца на працу (а многія звяртаюцца да нарколага пасля таго, як іх звольнілі з працы). Калі ў мінулыя гады таварыства мела дамоўленасці з шэрагам прадпрыемстваў аб тым, каб там бралі на працу нашых падапечных, дык зараз ніхто слухаць пра гэта не жадае. Сваіх, нават сумленных рабочых лішак...

## ДУМКІ НАЎЗДАГОН

Каторы прыдзірлівы чытач можа папракнуць удзельнікаў «круглага стала» за тое, што яны пакінулі па-за ўвагай нямала пытанняў, звязаных з такой грамадскай праблемай, як п'янства. Але ж з'ява гэтая вельмі складаная і шматаблічная, вельмі моцныя карані мае, каб усе яе аспекты можна было абмеркаваць у час адной, хай, на наш погляд, змястоўнай і цікавай гаворкі.

Можна было, відаць, большую ўвагу надаць пытанням антыалкагольнага руху, які апошнім часам нарадзіўся сярод яшчэ нядаўна фанатычных прыхільнікаў Бахуса. Мы маем на ўвазе таварыства «Ананімныя алкаголікі», якое, мяркуючы па выступленні на «круглым стале» яго каардынатара, мае пільную патрэбу ў дапамозе ўлад. Ніколькі не прыніжаючы высакароднасць мэт, якія ставіць перад сабой міжнародны рух «Ананімныя алкаголікі», яго карысную дзейнасць, было б, відаць, дарэчы нагадаць, што ў нашай Беларусі значна раней, яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя, нарадзіўся масавы антыалкагольны рух. У нагаданай ужо кніжцы С. Цярохіна прыведзены шматлікія факты стварэння ў тагачасных вёсках таварыстваў (брацтваў) цвярозасці. У Віленскім і Дзісенскім паветах у 1859 годзе, як піша аўтар, літаральна за некалькі дзён «далі зарок не піць ажно 50 тысяч чалавек».

І яшчэ адзін аспект праблемы п'янства, які, на жаль, не знайшоў адлюстравання на «круглым стале». Некаторыя яго ўдзельнікі, гаворачы пра крывадушша і ханжаства антыалкагольных кампаній, праводзімых «партыяй і ўрадам», калі забараняліся для выканання за «прапаганду п'янства» нават славутыя творы літаратуры і мастацтва, накшталт бетховенаўскай «Застольнай» з яе гарэзлівым: «Налей, выпьем, ей-богу, еще...», не сказалі, што ў посткамуністычны час на змену ханжаскаму выкрыццю п'янства ў застойныя гады прыйшоў цынізм масавых застолляў, якія спадарожнічаюць зараз ці не кожнай прэзентацыі, фестывалю, кангрэсу ці прэм'еры. Там, дзе ў цывілізаваных краінах падобныя мерапрыемствы абмяжоўваюцца традыцыйным «кактэйлем» ці «кавай з каньяком», якія спрыяюць нязмушанай гаворцы, у нас яны заканчваюцца грандыёзнай п'янкай, на якую злятаюцца хмары аматараў выпіць і закусіць на дурніцу.

Вядома, не павернецца язык дакараць тую ж камерцыйную фірму за тое, што яна спансуе прэзентацыю добрай кнігі, прэм'еру спектакля, або правядзенне фестывалю, але, разам з тым, цяжка зразумець, чаму нашы камерцыйныя структуры літаральна навыперадкі, адзін перад адным, з сапраўды купецкім размахам ладзяць застоллі, дзе сотні людзей накачваюцца спіртным, ды яшчэ часта пад стракатанне тэле- і кінакамер. Цяжка паверыць, што гэткая шчодрасць нашых камерсантаў тлумачыцца чыстым альтруізмам. Мабыць, маюць яны ад гэтага немалую выгаду, скажам, бясплатную рэкламу ці льготы ў выплаце падаткаў...

Вось на такой мінорнай ноце даводзіцца заканчваць гэтыя «думкі наўздагон». Але ж куды ўцячэш ад праўды?

**Матэрыял «круглага стала» падрыхтаваў і пракаментаваў**
**Міхась ЗАМСКІ.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**і Міністэрства культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 9.06.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

